## АД ГОМАНУ БАРОЎ...

Яго ўзгадаваў край балот, лясоў, казак і легенд.

Казкі жылі спрадвеку, пераходзілі з роду ў род. Жылі яны ў дзедавай памяці і ў матчынай калыханцы, іх шапталі за аселіцай векавыя дубы і гонкія бярозкі. У ранішнім тумане казачнымі прывідамі здаваліся спутаныя коні і надбярэжныя вербы.

Ноччу пушча палохала савіным вухканнем і п у рачыным плачам, спарахнелыя пні тлелі халоднымі зялёнымі агеньчыкамі і здавалася, глядзяць застылыя вочы лесуна ці вядзьмаркі.

Палохала ўсё, невядомае і таямнічае.

Доўгімі зімовымі начамі шастала на завуголлю і скуголіла дзіцячым енкам завіруха, гула ў коміне, нібы наклікала пагібель, а ўпоцемку па сценах шапацелі прусакі, нібы нехта цёрся кажухом аб заінелае бярвенне.

На печы пахла падсохлымі смалякамі і кіславатаю рошчынаю: каля коміна падыходзіла накрытая дзяружкаю дзяжа.

Васілю, нібы хто пяску насыпаў у вочы. Да поўначы ў галаве раіліся прывіды з дзедавых казак. Вярзліся то люты князь з прыгожаю і злою, як змяя, князёўнам», то статны русявы цымбаліст Іванка ў доўгай зрэбнай кашулі. Ён так іграў, так іграў, што князёўна загадала паклікаць музыку ў палац, каб ёй пад ціхае гранне ўсю ноч сніліся дзівосныя сны.

Апоўначы змардаваны цымбаліст заснуў. Князёўна званочкам паклікала варту. Павялі гайдукі Івана на стайню. Толькі выйшлі на дзядзінец, цымбаліст раскінуў рукі і стаўся белым лебедзем. Гайдукі памкнуліся схапіць, а ён замахаў крыламі і ўзвіўся ў паднябессе.

У пушчы лебедзь зрабіўся зноў Іванам. Зляцеліся дзятлы з усяе пушчы і да раніцы з елкі выдзеўблі Івану цымбалы. Развіднела. Праз гушчар прабіліся залатыя струны сонечных праменняў. Нацягнуў іх Іван на цымбалы і так зайграў, што збегліся да яго хлопцы з усяго наваколля.

Іван заспяваў: «Бярыце рагаціны і паходні на панства ў Нясвіжы і ў Гродні. Ад гневу няхай загарацца лютага князя палацы».

Пакацілася песня па свеце. І пайшлі да Івана дужыя і смелыя хлопцы. Схаваў Іван сваё войска на ўзлессі, а сам падышоў да палаца, стаў пад дубам і так зайграў, аж шыбы зазвінелі ў княскіх пакоях.

Зноў загадала князёўна схапіць цымбаліста і прывесці да яе. Высыпала ўся чэлядзь у поле. А Іван грае і ўсё адыходзіць да лесу. Панскія служкі ідуць, як загавораныя. Выскачыла з пушчы мужычае

войска, павязала панскіх гайдукоў, князя з князёўнай замкнула ў склепе і абвясціла Івана князем.

«Не трэба,— сказаў Іван.— Хай кожны сам сабе будзе князем, уладаром зямлі і лесу, азёраў і рэк, рыбы і звера, грыбоў і ягад».

Сказаў, заіграў на цымбалах і пайшоў у блізкія і далёкія княствы падымаць народ на князёў, паноў і падпанкаў.

Васілёк сам сабе пераказаў усю дзедаву казку, і здалося — сам стаў адважным Іванам. Успомніўся суседні маёнтак пана Нятунскага, злосная пані Броня з кароценькім гнуткім бізуном у маленькай дужай руцэ. От, каб іх замкнуць у склеп, а зямлю і заліўныя лугі ўздоўж Лані раздаць хворастаўскай галечы! Цымбаламі іх, мабыць, не ашукаеш. Стрэльбы патрэбны і вялікая сіла...— засынаючы пад спеў цвыркуна, думаў Васіль на цёплай печы.

З ранняга маленства на ўсё жыццё запомніліся першыя крокі па вільготнай баразне і жніўная песня, бясконцая і журботная, як нацятая струна небасхілу, што трымціць адвечным болем або бліскае зарніцамі ліпеньскіх навальніц.

У кожным хоры ён пазнаваў матчын голас, празрысты і звонкі, як веснавая ручаінка, як срэбны званочак, раскалыханы ў паднябессі жаўруковым крылом:

Ой, горкая доля,
Бо панскае поле
Усе сілы забрала,
Ўсе жылы парвала.

Над палявымі дарогамі плыў залацісты пыл, над цяжкімі снапамі ў пясчаных выбоінах рыпелі калёсы, слаліся доўгія цені ад прысад і чубатых жытнёвых бабак на полі.

А над зжатым прасторам пераклікаліся жніўныя песні. Нібы жаліліся жанкі на цяжкі лёс, галасілі па страчанай на чужых гонях маладосці.

Васілёк выбягаў за аселіцу, узлазіў на плот і ўглядаўся ў палявую далеч. Недзе там, за слупамі ружаватага пылу, маці разам з жанкамі вяла высокую і звонкую песню. Калі з пыльнага мроіва выплывалі постаці жней, Васілёк бег насустрач маці. Засмяглая, асмужаная сонцам, у прапацелай да чарнаты зрэбнай кашулі, яна атрасала з твару салёныя кроплі, папраўляла на плячы кармазанавы ад вечаровага сонца серп. З торбачкі яна давала сыну шурпаты «заечы акрайчык». Васіль браў з учарнелых матчыных рук пустую гладышку, бег паперадзе па пыльнай дарозе і прагна жаваў учарсцвелую скарынку. А думы, «чаму бог няроўна дзеліць», не пакідалі яго. Шкода было ўчарнелую змардаваную маці, такую ласкавую і добрую, працавітую і

шчырую. З нянавісцю ўспамінаў лютую пані Броню. Яна сама хвастала парабкаў кароценькім гнуткім стэкам, нацкоўвала страшэнных куртатых бульдогаў на вясковых хлапчукоў, а сама заходзілася ад смеху.

Чаму бог дарує здзекі панам, а працавітым і добрым душою гарапашнікам пасылае адны пакуты? Ці праўдзівы ён? Калі не, дык каму такі бог патрэбен? А можа, яго і зусім нямашака? Калі б бачыў, што чаўпецца на зямлі, громам пабіў бы ўсіх вінаватых.

Неадчэпныя думкі не давалі збыту маленькаму Васілю.

Над полем з жаночых засмяглых вуснаў плылі тужлівыя песні:

Ой, закаці, закаці,
Сонца яснае...

Ей адгукалася матчына:

Усе сілы забрала,
Усе жылы парвала.

У двары маці ўтыркала ў падстрэшша серп і бегла з лясёнкаю ў гарод па бацвінне і гарбузнік кароўцы, Васіля пасылала вылучыць з чарады і прыгнаць у двор авечак.

Толькі ўвечары збіралася за сталом уся вялікая сям'я Каржоў. Пасярэдзіне махрастага абруса ў вялізнай паліванай місе дымілася бульба, а ў другой — скрылямі зыбалася аж сіняватая сыракваша. Бацька з дзедам вярталіся з панскіх расцяробаў, брат Сцяпан прыганяў чужых кароў з лясных выжарын. Ён кожны вечар енчыў, мажучы дзёгцем папрэлыя ў іржавай балотнай вадзе ногі. Чацвёра сясцёр прыходзілі з заробткаў: хто жаў чужое жыта, хто вязаў снапы за жняяркаю у суседніх засцянкоўцаў.

Перад вячэраю ўсе мылі рукі з конаўкі і не садзіліся за стол, пакуль не сядуць дзед з бацькам (работнікі!), потым бабка, за ёю шасцёра дзяцей. Маці не выпадала расседжвацца за сталом: як той конь у малатарні, усё снавала ад нечы да стала, ад стала ў сенцы — то лыжкі падаць, то солі дасыпаць, то даліць сыраквашы. І так заўсёды — пахапае на хаду або пажуе каля прыпечка. Браліся за лыжкі толькі пасля дзеда, да міскі цягнуліся, калі зачарпнуць старэйшыя, ім саступалі тлусцейшы кавалак. Вячэралі моўчкі, было толькі чутно, як сапуць і сёрбаюць меншыя.

Пасля вячэры дзед хрысціўся на абразы, за ім усе кланяліся багародзіцы і Ягорыю з пікаю на кані. Васілёк толькі дзеля прыклёпу пазіраў на святых, абы-як круціў перад сабою закажанелаю далонькаю і ўсё часцей думаў: калі сапраўды бог убачыць і дазнаецца, што хрышчуся абы-як, а замест «Отча наш, Іжа ясі», шапчу: «Вочап наш бліжай вісіць», дык мусіць мяне пакараць. Колькі ні блазную — бог не

чуе. А кара? Яна спрадвечная ўсёй галечы, што поўзае на каленях перад абразамі і моліцца змею, якога не адважыцца працяць пікаю святы Ягорый.

...Сонечным асеннім днём дзед Рыгор збіраўся касіць атаву. На жнеўніку, на прыдарояшым бадыллі халодным срэбрай паблісквалі сіцечкі павуціння. У цёмна-сінім ельніку чырвоным золатам гарэлі трапяткія асіны, ярым воскам аплывалі бярозы, як парудзелая бляха, шумела дубовае лісце. Дзед узяў з сабою ўнука. Звечара адбіў маленькую коску, насадзіў яе на ўкарочанае касільна, на ручку прывязаў мянташку — няхай прывучаецца.

У Васіля гэта быў самы шчаслівы дзень — ён станавіўся работнікам. Вось зараз пагоніць пракос побач з дзедам. Ён ужо не толькі памагае сваім, а сам улягае ў цяжкую работу. І на ўсё жыццё. Васіль любіў работу, а яна не абмінала яго — сама ішла ў ягоныя здатныя рукі.

У тое ранне ён успароўся раней за ўсіх. Хіба што маці апярэдзіла яго — ўжо даіла карову. Васіль размачыў ссохлыя лапцікі, пацёр закарэлыя анучы, хацеў было сам памянташыць коску, але спахапіўся, каб не нарабіць звону на ўвесь падворак.

Пасля снедання яны ішлі з дзедам па вузенькай сцяжынцы праз малады ельнік на прырэчную балаціну. Колькі гадоў на ёй вішавала трава! Пазалетась дзед расцерабіў няўдобіцу і за два ўкосы выбіваў коп з дзесятак ціпцу з асакою. Балацянка была куп'істая, і Васілёва коска часта да самае пяткі ўядалася ў купіну, зразала мурашыныя стажкі. Дзед вучыў, як выбіваць касільна, каб не парваць палатно, як гнаць раўнейшы пракос.

Убачыў дзед, што ўнук панабіваў на далонях мазалі, паслаў яго ў лес па ламачча.

— Раскладзеш цяпельца, бульбы напячэш, тады і папалуднуем.

Васілёк ахвотна пабег на ўзлессе. Цягаў яловае галлё, сушняк і ламачча. За апошнім разам прыкаціў пчаліную калоду. Яна яшчэ пахла мёдам і воскам, да бакоў папрыліпалі пчаліныя крыльцы. Не іначай, паласаваўся мядзведзь, загубіў сям'ю і патрушчыў калоду.

Дзед убіў у пракос касу і падышоў да Васіля.

— Ці не паліць надумаўся?

Васіль не ведаў, што адказаць. А дзед Рыгор перакаціў калоду з боку на бок, агледзеў, паставіў старчма.

— Паправіць яшчэ можна. І пчолы, дасць бог, завядуць. Нейкі чарнадушац не столькі нажэрся, колькі загубіў жывых стварэнняў.

— А часам не мядзведзева гэта работа? — спытаў Васіль.

— Не падобна. Мядзведзь падскрабаў ды вылізваў бы... Даўней пчаляры летавалі ў буданах пры сваіх калодах. Калі адыходзіліся шукаць рой, у будане пакідалі міску з мёдам і лыжку, гладышку ўкіслага бярозавага: хто хоча — заходзь, частуйся, але нічога не руш. Тады людзі совесныя былі, дабрэйшыя, верылі адзін аднаму, шанавалі старога і малога... От так, унучак, зламаць — вялікага розуму мець не трэба. А колькі чалавек пападзёўб гэтую калодзіну, колькі ў аддзяку яму пашчыравалі пчолкі! Аж прыйшоў нейкі злыдзень, усё роўна на дзвюх ці на чатырох нагах — аднае пароды скаціна, і, бач, што нарабіў. Глядзі ж, дзеткі, ніколі нікому не рабі шкоды. За дабро людзі дабром і аддзячаць.

— А паны?

— Я ж, унучак, пра людзей кажу. А паны? Паны і ёсць.— Азірнуўся і ціха дадаў: — Калі хочаш ведаць, не мужык перад панам павінен шапку скідаць, а пан перад мужыком, і ў ногі кланяцца: шануй таго, хто корміць цябе, хто крывавым мазалём усё гэтае дабро нажыў. А тыя пустабрэхі,— ён кіўнуў на маёнтак,— цвіка ўбіць не ўмеюць, а жэрці, не раўнуючы, як у прорву пруць. З беднага гарэтніка апошнія порткі спусцяць, абы сабе ў заморскім віне купацца.

Так ад дзеда Рыгора спасцігаў мудрасць малы Васілёк. І на ўсё жыццё запомніў іх Герой Савецкага Саюза генерал Васіль Захаравіч Корж. Тая дзедава «палітграмата» змушала самога думаць, сумленна жыць, шукаць і знаходзіць адказы на ўсё, што рупіла і не давала спакою.

Таму Васіль Кори;, выхаваны і загартаваны партыяй камуністаў, вызваленню роднага краю прысвяціў гарачую маладосць, вынес усе пакуты і страты ў партызанскіх лясах і ў гарах Іспаніі, а пазней росквіту палескай зямлі аддаў усю сваю кіпучую энергію, любоў і мудрасць добрай і шчодрай душы.

* * *

Прыцярушаная тонкім іскрыстым снегам сцяжынка прывяла ў калгасны парк. Звіслі ашклелыя ад марозу косы плакучых вербаў, шапоча заінелым лісцем азімак-дуб, блакітам пабліскваюць пасівелыя ад марозу стромкія елкі, клююць мерзлыя гронкі рабіны шустрыя сініцы. Бляклае сонца скрозь тонкую смугу сцеле сінія цені.

У цэнтры парку — прыпарушаны снегам бронзавы бюст. На бетонным пастаменце надпіс:

Герой Савецкага Саюза
КОРЖ ВАСІЛЬ ЗАХАРАВІЧ,
партызан часоў грамадзянскай вайны,

удзельнік баёў у рэспубліканскай Іспаніі,
камандзір партызанскага злучэння на Палессі
ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны,
старшыня нашага калгаса
«Партызанскі край».

Сюды мы прышлі з Марыяй Захараўнай. Яна ўважліва глядзіць прыжмуранымі вачыма на бюст, рукавіцаю змятае з пастамента сняжынкі, варушыць абветранымі губамі, нібы нешта пытае ў брата. Павольна, ні да кога не звяртаючыся, пачынае ўспамінаць:

— У нашым сяле лічы ў кожнай другой хаце Каржы жывуць. Можа, некалі і сваякамі былі, ішлі ад аднаго кораню. Цяпер, ат, так, дзесятая вада на кісялі. Але Каржа з Каржом не зблытаюць ніколі: спрадвеку да кожнага мянушка прыліпла. З каго пайшла, ніхто і не ўспомніць. От нас па дзеду «Мудрымі» празываюць. А чаму? Я-то памятаю кепска, а Васіль, царства яму нябеснае, часцяком расказваў.

Быў у нас дзед. Рыгорам празывалі. Да скону так і пражыў з намі. Рукі ў яго, кажуць, залатыя былі. За што ні возьмецца, усё, як лялька, выходзіць: печ складзе — гаспадыня не нахваліцца, кадоўбчык зробіць, як звон, гудзе, вазок ці там якія саначкі акаваць, пан толькі дзеда Рыгора кліча. А што ўжо совесны быў! Ні малога ні старога зроду не пакрыўдзіў. Кожнаму гатовы быў дагадзіць, а няма чым,— параіць ці добрым словам суцешыць. Таму, мусі быць, і мудрым празвалі.

Васіль з ім у маленстве ніколі не разлучаўся. Першая ягадзіна, арэх там які ці баравік — заўсёды іхнія. І авечак пасвіць на бераг Лані разам ганялі. Казкі яму дзед баяў, птушыныя галасы пазнаваць вучыў, звярыныя сляды і сцежкі наказваў.

Лясы ў нас яшчэ за маёю памяццю за саменькаю аселіцаю пачыналіся. Цяперака вунь куды адышлі, а дзе і саўсім звяліся. А даўней — ого! Канца-краю не відаць было.

За ракою панскі двор стаяў. Часам пані з паненкаю праз Лань на парцы гнедых стаеннікаў да касцёла ездзілі. А на выгане селевыя хлопчыкі свіннёй ды гусей пасвілі. Аднойчы дзед з Васілём да вадапою прыгналіся, аж якраз прагрукатаў па мосце фаэтон і спыніўся. Пані гукнула хлапчукоў, сыпнула ў траву жменьку медзякоў і крыкнула: «Лавіце!» Рынуліся малыя, зямлю кіпцікамі дзяруць, ілбамі, не раўнуючы марнелі, адно аднаго збіваюць, а пані з паненкаю аж заходзяцца ад смеху. Памкнуўся было і Васіль туды, а дзед за плячук цоп: «Куды гэта ты? І не брыдка, Васіль, за панскім паўгрошам на карачках поўзаць? Нягожа, унучак, пацяшаць дармаедаў. Ды і ад міласціны тае — радасці аніякай. Паўгроша той нашым крывавым

потам умыты. Ніколі, дзетхгі, не кідайся на панскую ласку, не прадавай за ламаны грош душу сваю чыстую».

З тае пары Васіль ані шэлега дарам не браў. Усё, што мог, аддаваў людзям. Сам спакою не ведаў і нікому не даваў біць лынды.

Марыя Захараўна абвяла рукою наваколле.

— Куды ні зірнеш, усё, што ёсць на нашай зямельцы, яго клопатам ды людскою сілачкаю здабыта. Унь, бачыце, як разбудаваліся: на дошкі ды на гонту і глядзець не хочуць, шыхвер ім той падавай, а целявізары не дзешавей за «Гарызонт» купляюць. Дрыгву, лічы, ушчэнт звялі. Цяпер там жыта, як гай, з небам гамоніць. Камары і тыя пагінулі...

— А дзе ж даўнейшыя палеткі? — пацікавіўся я.

— Пясочкі тыя даўно хвойнікам параслі... Пра што гэта я? Ага. Як вярнуліся з лесу, куды ні глянеш — пагарэлішчы адны ды закураныя печы тырчалі, не раўнуючы помнікі на кладах... А колькі тут палегла нашых! Бацюхны, бацюхны! — і змоўкла.

За паркам, залітыя вечаровым сонцам, мігцелі чырванню вокны новай трохпавярховай школы. Уздоўж вуліцы — дамы адзін другога харашэйшыя, з карункамі на ліштвах, ганачкі з размаляванымі падстрэшкамі, а над дамамі — лес тэлевізійных антэн. Блакітам неонавага святла заліты зашклёныя да столі магазіны. Усё гэта задумана, заснавана і ў сваёй большасці зроблена смелым летуценнікам, дбайным калгасным гаспадаром Васілём Захаравічам. З тых самых Каржоў, якіх у сяле завуць «Мудрымі».

І Васіля ў маленстве дражнілі дзедаваю мянушкаю. Спярша крыўдзіўся, а скеміў, што да чаго, задавацца пачаў. Тады і дражніць перасталі.

Зайздросцілі равеснікі каржакаватаму, як вузельчык, Васілю. Башкавіты ён быў не па гадах. У першым класе царкоўна-парафіянскай школы так лузаў задачкі, што настаўнік нахваліцца не мог, а хлапчукі не давалі збыту: то раскажы, то пакажы, то дай спісаць. Калі ніхто не мог рашыць, колькі аршынаў зялёнага, чорнага і сіняга сукна прадаў за тыдзень купец і колькі зарабіў на продажы, да дошкі выклікалі Васіля, і ён тлумачыў класу задачку, а паставіўшы кропку, уголас дзівіўся: «От нажыўся дык нажыўся, не хварэючы, не балеючы».

Стары настаўнік толькі пасміхаўся, ссоўваў на кончык носа драцяныя акуляры, пазіраў злінялымі вачыма на Васіля і казаў: «Калі так будзеш старацца і ў бацькі выстарчыць вывучыць цябе, вя-лі-кім можаш стаць чалавекам».

Стараннасці і кемлівасці ў Васіля хапала, ды ў Захара Каржа не выстарчыла давучыць сына нават у пачатковай школцы. Тры зімы

пахадзіў, на тым і кончылася яго навука. Трэба было баранаваць і скародзіць, да самага снегу пасвіць з дзедам авечак, досвіткамі ў чатыры цапы малаціць жыта, а завейнаю зімою за адработкі вазіць дровы ў панскі двор. Ён здалёк пазіраў на шыкоўны палац, а зблізку бачыў парабецкія хаткі, галечу і нэндзу ў афіцыне для чэлядзі.

Дадому вяртаўся на развалках, прыцярушаных замеценаю снегам саломаю, туліўся ў шарачковую світку і думаў, думаў... «Чаму так няроўна людзі жывуць на свеце? Адны гарбеюць да самага скону, пераварочваюць горы дабра і ўсё аддаюць абібокам, а самі пухнуць з голаду і ў зрэбніках выпраўляюцца на той свет. Паны пальцам не паварушаць, каліва з зямлі не паднімуць, а з усім сваім кодлам жывуць у раскошы, псярню мясам кормяць, на стаенніках гарцуюць, у карты маёнткі прасвістваюць, і ўсё роўна як сыр у масле качаюцца. Чаму?»

Так сваім розумам даходзіў Васіль да праўды. Разумець разумеў, а што зробіш, як дасі рады, каб усе людзі па-людску жылі?

За тры гады вайны з германцам зусім аташчала вёска: усіх мужчын, як мятлою падмялі, лепшых коней у войска забралі, да каліва апаражнілі засекі. І ні канца ні краю не відаць той вайне. Вільгельмавы салдаты з гармат б'юць пад Баранавічамі і Клецкам. У Хорастава сяды-тады вяртаюцца бязногія ды бязрукія ратнікі з медалямі ды «Ягорыямі» на старэнькіх шынялях.

Кожную нядзелю сælевы попік у маленькай драўлянай царкве гугнявіў імёны «убіенных ратнікаў воінства яго імператарскага вялічаства...»

Кожны тыдзень на аналоі рос стус памінальных граматак, а з хаты ў хату каціласа галашэнне ўдоў і сірат.

...Разам з усімі радаваўся Васіль, што скінулі цара. Думалі, нешта зменіцца, палягчэе. Хоць бы вайне які канец быў. Дзе там! Што ні дзень — усё горай і горай: пан заставаўся панам, парабак — парабкам. Ураднік толькі пагоны зняў ды арлёныя гузікі сукном паабшываў, а шабля з бізуном асталіся тыя ж. Як ліліся рэкі крыві, так і льюцца.

Неўзабаве і Васілю станавіцца на прызыў — васемнаццаты гадок пайшоў. «Не, трасцу! — думаў Корж.— Хай ваюе той, каму ёсць за што ваяваць. А нам за што? Горай ужо не бывае: нават нішчымніца і тая парадзела. Калі ўжо ісці вайною, дык на сваіх паноў ды падпанкаў. На іх хоць сёння гатовы!»

Цара скінулі на прадвесні, а позняй восенню зноў пакацілася набатным гулам; «Рэ-ва-лю-цыя!», «Ле-е-нін», «Са-ве-ты!» І над Хорастовам затрапятаў чырвоны сцяг.

У сяло прыехаў высокі, бялявы, павольны ў рухах латыш таварыш Крэслер. Гаварыў ён марудна, нібы адмяраў кожнае слова. Але ўсё, што казаў, аднолькава даходзіла да старога і да малога. Паверылі яму, як самім сабе, і дружна абралі старшынёй рэўкома. Васіль памагаў Крэслеру наразаць вяскоўцам панскую зямлю, збіраць сходы, кожную вольную хвіліну круціўся ў рэўкоме. Маладога, разважлівага і гарачага Васіля Каржа ўпадабаў і таварыш Крэслер: даваў яму газеты: танюсенькія кніжачкі з дэкрэтамі Савецкай улады і з прамовамі таварыша Леніна. Вечарамі часта заходзіў у аселую, з глінянаю падлогаю хату Захара Каржа. Расказваў, як зажывуць людзі пры Саветах, нібы казку баяў, ай« не верылася. З восені збіраўся адкрыць школу для дарослых — вучыць грамаце непісьменных і ўсіх недавукаў. Васілю не цярпелася хутчэй узяцца за кніжкі, карцела хутчэй дазнацца, што трэба рабіць, каб усім людзям жылося па-людску.

Але не суджана было Васілю і яго равеснікам сесці за парты. То цёмнаю хмараю насунуліся немцы, то хлюставатыя белапалякі прыйшлі ім на змену. Прасіўся Васіль у Крэслера, каб узяў з сабою, а той паклаў руку на плячо і лагодна спытаў:

— А бацькоў і сясцёр сваіх на каго пакінеш? Хто іх абароніць ад бізуноў і здзекаў? Тут тваё месца, Васіль. Калі хочаш, каб хутчэй вярнуліся Саветы, з розумам памагай адсюль.

Усе хорастаўцы высыпалі праводзіць таварыша Крэслера і атрад чырвонагвардзейцаў. «На каго ж вы нас пакідаеце, сакалікі,— галасілі жанкі,— зноў нам не будзе адхлання ад паноў ды войтаў».

Васіль ледзьве стрымліваў слязу. Здавалася, босы, бяззбройны рынуўся б следам, каб толькі ніколі не разлучацца з рэўкомаўцамі. Гэта спакойны і ўпэўнены латыш адкрыў Васілю свет спадзяванняў, у далёкай далечы запаліў яскравую знічку, да якое нялёгка дайсці.

Паехалі чырвонагвардзейцы.

Непадалёк ад Хорастава пралягла мяжа.

## СПОВЕДЗЬ КАМУНІСТА

Родныя мясціны Васіля Захаравіча да 1939 года былі пад панскай Польшчай. Весткі пра блізкую радню даходзілі рэдка. Толькі праз год даведаўся Корж, што змардаваныя дэфензівай бацька і маці ў адно лета сканалі, а пасля допытаў і жандарскіх пастарункаў чэзне старэйшы брат Сцяпан. Дазнаўся, што і бацькаву хату спалілі асаднікі. Усё помсцяць за яго, за дзёрзкія партызанскія рэйды па панскіх маёнтках, за разгром жандарскіх котлішчаў, за вызваленне палітычных вязняў у далёкія дваццатыя гады.

Паны помслівыя. Вось і зрываюць злосць на яго радні. І не заступішся, нічым не дапаможаш: роднае Хорастава за мяжою, і прафесія ў былога партызана самая мірная — дырэктар саўгаса «Крапоткінскі» ў Краснадарскім краі. А гаспадарка якая! Па палескіх маштабах, цэлая воласць, або, як цяпер там завуць, гміна. На 18 тысяч гектараў разлілося залатое мора пшаніцы. Куды ні зірнеш — ходзяць хвалі каласоў. Пяць аддзяленняў у саўгасе, дзесяткі камбайнаў, сотні трактараў і аўтамабіляў, больш за тысячу цудоўных працаўнікоў і сотні спецыялістаў. Амаль кожнага дырэктар ведае ў твар, памятае прозвішча, імя і імя па бацьку.

Устае Васіль Захаравіч у чатыры гадзіны раніцы, едзе на фермы, у трактарныя брыгады, усё бачыць, усё ведае. Кожнаму можа не толькo параіць, а і памагчы. Сялянская кемлівасць і спрыт, любоў да зямлі, да паху ўзаранага чарназёму і спелай нівы жывуць у ім з маленства, з матчынай калыханкі.

Дырэктар з нетутэйшым вымаўленнем адразу прыйшоўся па душы «крапоткінцам» — нястомны, справядлівы, просты і чулы, з сялянскаю душою мужчына. Ды і два баявыя ордэны на гімнасцёрцы ўзвышалі аўтарытэт. Рознае казалі пра яго: партызан грамадзянскай вайны, герой баёў у Іспаніі, нават казкі расказвалі пра свайго дырэктара. А Васіль Захаравіч на пытанні адказваў жартамі:

— Вось кончым жніво, пачнуцца доўгія асеннія вечары, тады і паспавядаюся, усё па парадку раскажу, а цяпер няма калі, ды і доўгая гэта гісторыя. Адразу пра ўсё не раскажаш. А кожнаму закарціць дазнацца, што было далей, чым скончылася. Добра, якнебудзь збяромся ў вольны час і пагаворым,— паспешліва развітваўся і ехаў у суседнюю брыгаду.

Канчалася жніво, самая гарачая і радасная пара. Ужо здалі дзяржаве мільён дзвесце пудоў збожжа, трактары пераворвалі чарназём пад будучы ўраджай, на таках сартавалі насенне. Работы і клопатаў у дырэктара было па самую макаўку. Не хапала толькі часу расказаць пра сябе.

І тут Васіля Захаравіча аглушыла радасная вестка: 17 верасня 1939 года часці Чырвонай Арміі перайшлі граніцу і ўзялі пад сваю абарону насельніцтва Заходняй Беларусі. Увесь беларускі народ уз'яднаўся ў адзінай савецкай сям'і.

З маленства не плакаў Корж, а цяпер не мог стрымаць слёзы радасці. Родная зямля вольная! Запаветная мара збылася! У Хораставе Савецкая ўлада! Як там Сцяпан, Параска, Марыля, Антоля і Ганна? Напэўна, і пляменнікі ўжо вялікія? Дзе цяпер сябры па сумеснай падпольнай і партызанскай барацьбе?

Тысячы пытанняў і ўспамінаў закруціліся ў памяці, прыгадалася ціхая лясная Лань, роднае Хорастава, Чаланец, Рахавічы, знаёмыя з маленства аселіцы, сцежкі і пералескі, аблічча сяброў і аднавяскоўцаў. Якія яны цяпер?

Начамі даймала бяссонніца. Але звычайны распарадак не парушаўся. Пачырванелі і глыбей запалі вочы, часам дырэктар марудзіў з адказам — не адразу ўдавалася адбіцца ад надакучлівых думак і ўспамінаў.

Увечары Васіль Захаравіч завітаў да свайго лепшага сябра Шахава.

— Выручай, парторг.

— Наконт новых камбайнаў?

— Камбайны атрымаем... Просьба асабістая ёсць. Хачу прасіцца ў Беларусь. Пара назад, у Заходнюю ехаць. Толькі не пярэч.

— Ты што, Васіль Захаравіч, у лятуны хочаш падацца? Хто цябе пусціць у такі час? За год саўгас на ногі паставілі, вунь які ўраджай сабралі! Шчыра прызнаюся, душою да цябе людзі прыгарнуліся, сваім лічаць, мужычы спрыт і розум пазналі, працавітыя рукі і добрую душу ацанілі ў сваім дырэктару. Успомні сам, ніхто тваёй ніводнай просьбе не адмовіў, га? А ты ў Заходнюю! Маленькі, па мамцы замаркоціўся. Адумайся, Васіль Захаравіч!

— Мамку ўжо ніколі не пабачу,— апусціў галаву Корж,— закатавалі яе жандары. І бацьку праз мяне на той свет загналі...

— Прабач, дружа,— спахапіўся Шахаў,— не ведаў... Ды і наогул нічога пра тваё жыццё не ведаю. Адны выдумкі чуў. А распытаць усё няма калі. Пра трактары ды севазварот толькі і гаворка ў нас, а зазірнуць у душу таварыша ўсё няма часу. Жыццё тваё ведаю толькі па анкеце. Ды і ты харошы — маўчыш усё...

— Добра, калі дакараеш, слухай,— устаў з крэсла дырэктар і захадзіў па пакоі.— Раней папам спавядаліся, а цяпер парторгу,— хітра ўсміхнуўся Корж.— Можа, зразумееш і падтрымаеш...

Вырас я ў глухой палескай вёсцы. Хорастава завецца. А чаму так, здагадваешся? Адным ламаччам ды веццем з панскіх хмызнякоў палілі печы. Лясы ды балоты наўкол, галеча і бясхлебіца з каляд да новага ўмалоту, пры лучыне спрадвек слеплі. Прахадзіў тры зімы ў царкоўна-нарафіянскую школу, на тым і скончылася мая навука. Потым жыццё вучыла ўсім прамудрасцям, а настаўнікамі былі пастухоўская пуга, плуг, каса ды добрыя людзі. Да кніжак прыляпіўся пазней: чытаў усё, што трапляла ў рукі, і цяпер без кніжкі не засну.

Пасля рэвалюцыі часта ў нас, у Беларусі, мянялася розная навалач — то немцы, то белапалякі. Мужыкі супраць іх абрэзамі галасавалі.

Калі пасля наша вёска адышла да буржуазнай Польшчы, ты нават не ўяўляеш, што чаўплося ў нашых пагранічных сёлах. Лепшыя землі наразалі асаднікам, будавалі не дамы, а сапраўдныя крэпасці. У іх сяліліся ўзброеныя пілсудчына і здзекаваліся з нашага брата, выпалосквалі і выкручвалі мужыка, як дзяружку, і на плот сушыцца вешалі. Усе правы беларускага народа былі растаптаныя: з 400 беларускіх школ засталося толькі 20 і тыя ледзьве ліпелі. А па сёлах паўзлі чуткі, што Чырвоная Армія хутка вызваліць нас, што ў лясах і балотах збіраюцца адважныя хлопцы і помсцяць панам, жандарам і асаднікам. Пакуль шукаў сцежак да іх, у снежні 1921 года залыгалі мяне ў польскае войска. Апынуўся ў Познані, у 7-м артылерыйскім палку. Салдаты — беларусы і ўкраінцы, а капралы — апантаныя садысты з фанабэрыстых шляхцюкоў. Да нас яны інакш не звярталіся, як «быдла», «пся крэў», «галган» і «кацап». Урываўся апоўначы ў казарму падпіты афіцэры« і пачынаў пацяшацца: «Устаць, быдла!», «На падлогу лажыся!», «Адчыніць вокны!», «Вярхом на падаконнікі садзіся!» Калоцімся, дубеем, але сядзім. Здзекуецца, пакуль не змардуецца і не асіпне афіцэрык. Нарэшце загадае: «Спаць, быдла!»

Тры месяцы я трываў гэтыя пацешкі. Аднойчы днявалю па казарме, аж улятае дзяжурны вахмістр, прысукаўся да нейкага непарадку і заляпіў мне аплявуху. А я, не доўга думаючы, трэснуў яму так, што, небарака, як падсечаны, ляснуўся і ледзьве на карачках выпаўз з казармы.

Чым гэта магло для мяне кончыцца, сам разумееш. Палявы суд і «Картуз-Бяроза», а адтуль часцей выносілі, чым самі выходзілі. Тою ж ноччу сябры сабралі і аддалі свае пайкі, і я ўцёк з палка. Ад Познані да Хорастава паўтысячы вёрст. Начамі ішоў лясамі ды хмызнякамі, а ўдзень зашываўся ў стагі і драмаў, як заяц. Сакавіцкі снег, як жужаль. Мокрыя ногі заходзяцца і пухнуць ад вады і холаду. Прыпас даўно кончыўся, ногі ледзьве слухаюцца. Зарослы, схуднелы і абшарпаны, недзе каля Лодзі зваліўся ў хмызняку адпачыць. Разбудзіў ціхі жаночы шэпт. Як спружынай, падкінула мяне. Прачухаўся: стаіць немаладая кабета ў нейкай жалобнай суkенцы і ціха пытаецца папольску, хто і куды іду. Хлусіў я нешта неверагоднае, а яна шэпча: «Пасядзі тут. Побач жандарскі пост. Не высоўвайся. Я табе есці прынясу». Ускінула на плечы лясёнку з ламаччам і пайшла. Першая думка была — уцякаць. Паварушыўся, а ногі не слухаюцца, нібы гіры на іх пачапілі. Далёка не адбяжышся. Калі выкажа, ўсё адно зловяць.

Ляжу, слухаю ўласнае сэрца, у вачах мітусяцца матылі і чорныя кругі, павекі зліпаюцца, плыву ў нейкую прорву. Прахапіўся ад лёгкага дотыку. Стаіць тая яе жанчына з чайнікам гарачай кавы і ежаю ў хусцінцы. Пакуль еў, яна расказала, што працуе на тэкстыльнай фабрыцы, муж загінуў на вайне, але ні імя, ні прозвішча так і не назвала.

Развітваючыся, я ўпершыню ў жыцці пацалаваў жанчыне руку і зразумеў сутнасць братэрства людзей аднолькавага лёсу.

Вось так я вывучаў палітграмату.

Парторг прагна курыў і ўважліва глядзеў на дырэктара.

— Прысядзь, Васіль Захаравіч, супакойся. Але гавары, гавары, калі ласка.

— У красавіку прыплёўся ў родныя мясціны. Разумею, дамоў — нельга. У суседняй вёсцы жыла стрыечная сястра. Праз яе наказаў, каб прыйшлі бацька з братам... «Шукаюць, шукаюць цябе, сынок. Што думаеш рабіць? Куды падацца?»

Чуў я, што недзе непадалёк ёсць партызаны, што ў тым атрадзе і мой стрыечны брат Грыша Карасёў. Бацька паабяцаў дазнацца і звесці з імі.

Праз два дні Грыша прывёў мяне ў атрад Аршынава. Так тады звалі Кірылу Арлоўскага. Пра яго партызан расказвалі легенды па ўсёй Заходняй Беларусі. Камандзір адразу пачаў мяне дапытваць, ды так дзёрзка, што я не мог стрымаць сваю крыўду. Камандзір ляпнуў мяне па плячы: «Нам, хлопча, трэба ўсё пра цябе ведаць. Не ў сваты збіраемся,— ваяваць разам будзем. Так што выкладай усё, як на споведзі. А пакрыўдзіўся ты па-сапраўднаму. Гэта добра».

Так я зрабіўся чырвоным партызанам. Кіравалі намі Камуністычная партыя Польшчы і Кампартыя Заходняй Беларусі. У атрад ішлі даведзеныя да адчаю вясковыя хлопцы, каб адпомсціць панам і жандарам за свае пакуты і крыўды. Мы ахоўвалі безабаронных сялян ад рабункаў і здзекаў і наганялі страх на асаднікаў і паліцыянтаў. Калаціліся перад намі цэлыя ваяводствы, а мы заўсёды з'яўляліся там, дзе нас не чакалі. Памагалі партызанам простыя сяляне, бо бачылі ў нас сваіх заступнікаў і абаронцаў.

Мы ўмелі без адзінага стрэлу раззброіць паліцыю і заўсёды папярэджвалі асабліва ўвішных служакаў, што за здзекі над сялянамі не міне іх суровая кара. Усяго і не ўспомніш. Але сёе-тое, калі хочаш, раскажу,— Корж паглядзеў на гадзіннік, прыжмурыўся, нешта ўспамінаючы.

— Паны ўсяляк апраўдваліся ў друку, называючы атрад Аршынава «маскалямі», бандаю з усходніх прэсаў. Асаблівы страх мы

нагналі на паліцыю і асаднікаў, калі пачалі называцца атрадам Мухі-Міхальскага. Муха быў паляк, родам з-пад Варшавы, і маскалём яго ўжо ніяк не назавеш. Гэтым імем карысталіся Арлоўскі, Швайко, ды і я не раз прадстаўляўся панам Мухай-Міхальскім.

— Прозвішча чутае,— перабіў Шахаў,— у тыя гады яно часта мільгала ў друку.

— А як жа! З польскіх газет яно не сыходзіла аж да дваццаць пятага года. Быў, быў і сапраўдны Муха-Міхальскі. Служыў ён у чыне «харунжага» ў мястэчку Ляхавічы. Сумленны быў і дэмакратычна настроены афіцэр. Не баяўся гаварыць тое, што думае: лаяў Пілсудскага і яго парадкі. За гэта не вылазіў з гаўптвахты. А выпусцяць — зноў за сваё. Тады арыштавалі Юзэфа Муху-Міхальскага і справу перадалі ваеннаму трыбуналу. Убачыўшы, што жарцікі кепскія, па дарозе ў Баранавіцкую турму мяцежны харунжы ўцёк з-пад варты. Знайшоў ён надзейны прытулак у вёсцы Пашкаўцы. Там некалі стаяў яго ўзвод, а Юзэф сябраваў з многімі хлопцамі, давяраў ім свае думкі. Хлопцы павыцягвалі з падстрэшшаў карабіны і шаблі і пад камандаю Мухі-Міхальскага пачалі граміць маёнткі лютых паноў і асадніцкія хутары ў Баранавіцкім і ў Нясвіжскім паветах, нападалі на лясніцтвы князя Радзівіла, бо той загадаў сваім служкам высочваць партызанаў.

Імя Мухі замільгала на старонках варшаўскіх газет. Напалоханыя пісакі сцвярджалі, што ў яго атрадзе больш за 500 коннікаў, узброеных кулямётамі, вінтоўкамі і гранатамі. Ведама, страх заўсёды лупаты.

Дачуўся пра Муху Аршынаў-Арлоўскі і занепакоіўся, каб часам анархісцкія напады групы харунжага не скампраметавалі партызанскую барацьбу. Неўзабаве абодва камандзіры сустрэліся каля вёскі Дзяніскавічы. Да Арлоўскага падышоў невысокі, зграбны франтаваты афіцэр з карабінам, двума наганамі, гранатамі і шабляй.

Доўга яны пра нешта саймаваліся, і Муха-Міхальскі згадзіўся перайсці са сваімі хлопцамі ў наш атрад. Так і пачалі дзейнічаць разам.

Кожны, хто вёў групу партызан на аперацыю, выдаваў сябе за Муху-Міхальскага. Уяўляеш, які пярэпалах апаноўваў паноў і паліцыю, калі ў адзін і той жа дзень былі разгромлены маёнткі і пастарункі пад Нясвіжам і Навагрудкам, каля Ганцавіч і пад Пінскам. І ўсюды наспяваў няўлоўны Муха. Лавілі яго сапраўды, як муху: пастку паставяць тут, а ён вёрст за паўсотні азавецца.

Памятаю, зімою 1924 года іду я з Трыглам Карасёвым і Раманам Далінаю праз вёску Гоцк. Сустракаецца па дарозе сагнуты ў тры

пагібелі чалавек. Прыглядаецца да нас. Падыходзім, павіталіся і пытаем:

— Ну, як жывецца пры панах?

— Душаць,— кажа,— свету божага не бачым. Вунь прыехаў крэнговы, гэты значыць акруговы начальнік, а з ім сямёра паліцаяў. Душу будуць вытрасаць за падаткі.

— Дзе яны цяпер? — пытаемся.

— Вунь, бачыце, вокны зырка свецяцца. Там яны балююць у свайго сышчыка.

Гэтаму чалавеку мы загадалі ісці ў суседнюю хату і папярэдзіць гаспадароў, каб пакуль што не вытыркаліся, а самі зазірнулі ў асветленае акно. За сталом сядзелі надпітыя паліцаі і расказвалі байкі пра няўлоўнага Муху-Міхальскага. Карасёва я пакінуў на варце пад акном, а сам з Раманам ускочыў у дом. «Панове, рэйцы до гурыі Жуць бронь! То естэсь Муха-Міхальскі». Паны анямелі з перапуду і не адважыліся паварушыцца. Мы іх усіх паклалі на падлогу, забралі Ю пісталетаў, 7 вінтовак і «цэнтралку» крэнговага. Папярэдзілі паноў да раніцы не ўставаць з падлогі, бо наша варта адразу застрэліць, больш ніколі не паказвацца сюды і не крыўдзіць сялян. Гаспадар хаты запрог стаенніка і адвёз нас бліжэй да атрада.

Паны былі паслухмяныя. Кажуць, праляжалі да самае раніцы, а каб апраўдацца перад начальствам, расказвалі, што на іх напаў Муха-Міхальскі з паўсотняй бандытаў і ледзь усіх не перабіў. Сялянам, якія даводзілі, што было ўсяго толькі тры партызаны, прыгразілі бізунамі і загадалі маўчаць.

Усіх разгромленых пастарункаў і асадніцкіх хутароў і не ўспомніш.

Але адна аперацыя дасталася мне дарагой цаной і не забудзецца ніколі.

Было гэта, як цяпер памятаю, 22 верасня 1924 года. На пачатку восені ў Пінску пачаў наводзіць парадкі новы ваявода пан Даўнаровіч. Люты быў — жах! І вось наш разведчык Іван Жалезны паведаміў, што праз два дні ваявода выязджае службовым цягнікам у Лунінец знаёміцца са сваімі ўладаннямі і правесці інспекцыю падначаленых. Чыгунка і цягнік пільна ахоўваюцца.

Раніцаю сорак хлопцаў з нашага атрада падышлі да станцыі Лоўча. Агледзеліся і вырашылі тут пазнаёміцца з панам ваяводам. Хмызнякамі падпаўзлі да вакзальчыка і ўзялі пад варту начальніка станцыі і тэлеграфіста. Яны выконвалі ўсё, што мы загадвалі.

Пад масток заклалі два пуды дынаміту і пачалі чакаць. Тэлеграфіст дакладваў Арлоўскаму, праз якія станцыі прайшоў цягнік, калі будзе ў Лоўчы.

Роўна ў дзве гадзіны над лесам запыхкаў слупок дыму, загулі рэйкі, набліжаўся грукат. Арлоўскі метраў за сто да станцыі пачаў сігналіць чырвоным сцяжком. Цягнік запаволіў хаду, забразгаў буферамі і спыніўся.

— Што здарылася? — крыкнуў з паравоза машыніст. Арлоўскі тым жа сцяжком падаў знак, але не яму, а сваім хлопцам. Грымнуў залп. Другі. Пасыпаліся шыбы з вагонаў. Падхопленае рэхам «Ур-ра!» пакацілася па лесе. Здавалася, што ў ім поўна партызанаў. З ваяводавага цягніка ніхто не вытыркнуўся, ніхто нават не адважыўся адстрэльвацца.

Мы адразу ж атакавалі салон-вагон і чатыры класныя вагоны, абяззброілі ахову, і Арлоўскі пайшоў да ваяводы. Разам з ім былі камендант акруговай паліцыі Мянеевіч, біскуп Лазінскі і сенатар Віславух. Арлоўскі загадаў Даўнаровічу неадкладна падаць у адстаўку. Калоцячыся, ваявода паклыпаў на тэлеграф і паведаміў польскаму сейму, што пакідае сваю пасаду.

Тым часам мы сабралі зброю, правялі «рэвізію» паштовага вагона, адагналі паравоз за мост, а мост узарвалі. На развітанне пажадалі скінутаму намі ваяводзе хутчэй дачакацца дапамогі.

Праўда, некаторыя нашы хлопцы незадаволена бурчалі, шкадавалі, што так лёгка адкупіліся паны. Кірыла Пракопавіч тлумачыў: «Застрэліць прасцей за ўсё. Яго ж у святыя пакутнікі залічаць, а нас бандытамі і забойцамі празавуць. А так мы маральна перамаглі: ваяводамі, як хочам, камандуем і сейм слухаецца нас».

Потым, казалі, што Даўнаровіч ад сораму не то ўдушыўся, не то за мяжу ўцёк. Адным словам, знік.

Праўда, гэтая аперацыя мне дорага каштавала. Пазнаў мяне ў вагоне нейкі купчык, патайны агент жандармерыі, данёс сваім гаспадарам. Мяне яны дастаць не маглі, дык упяклі маіх старых у Лунінецкую турму. Дачуўся я пра гэта і праз надзейных людзей папярэдзіў таго здрадніка: калі не адмовіцца ад свайго даносу, не скажа, што ўкляпаўся, то няхай купляе свечкі і заказвае па сабе хаўтуры. Што ты думаеш? Спалохаўся, гад, адумаўся. Як выкручваўся перад начальствам, не ведаю, але бацькоў маіх выпусцілі. Праўда, нядоўга яны пражылі пасля Лунінецкай крывавай лазні. У адзін год сканалі.

Розных гісторый магу табе во-о-сь на такую кнігу нагаварыць. Але позна ўжо. Буду скарачацца.

У 1925 годзе па рашэнню ЦК Кампартыі Польшчы і Заходняй Беларусі мы спынілі партызанскія дзеянні, перайшлі на савецкую тэрыторыю і арганізавалі нашу партызанскую камуну «Пралетары». Мяне абралі за старшыню. Так араў і сеяў у розных гаспадарках Слуцкага і Старобінскага раёнаў ай« да 1931 года. Потым служыў у органах НКВД. А калі пачалася грамадзянская вайна ў Іспаніі, напрасіўся разам з былым камандзірам нашага атрада Арлоўскім змагацца супраць фашыстаў Франка. Выйшла, як у тым вершы:

Я хату покинул,
Пошел воевать,
Чтоб землю в Гренаде
Крестьянам отдать.

За два гады барацьбы сумесна з іспанскімі партызанамі да драбніц спазнаў звярынае аблічча фашызму. Вось і два ордэны за Іспанію з рук самога Міхаіла Іванавіча Калініна атрымаў. Але гэта ўжо другая тэма.

А цяпер фашысты падышлі да нашых граніц, палову Еўропы пад сябе падмялі і на нашу зямлю зяпу разяўляюць. Як думаеш, таварыш парторг, дзе маё месца цяпер? Зірні на карту. Бачыш, якая тоненькая рысачка падзяляе нас з фашыстамі.

На тутэйшым чарназёме кожны, абы толькі не ленаваўся, лепшую за нас з табою пшаніцу выгадуе. А калі што здарыцца там, на Захадзе, мой партызанскі вопыт вунь як яшчэ спатрэбіцца.

Дык як, падтрымаеш?

Шахаў паківаў галавою:

— Ну, браце, ніколі не думаў, што ты такі. Суровае, нялёгкае, але прыгожае жыццё ў цябе, Васіль Захаравіч. А што да твае просьбы, дык, калі глядзець па-дзяржаўнаму, сапраўды, там ты болей патрэбен. Хоць і разлучацца не хочацца. Шчыра скажу, лёгка з табою працуецца, з паўслова разумееш, душу людскую бачыш навылёт.

— Не дужа хвалі, бо магу зафанабэрыцца, чаго добрага, сам сябе на «вы» пачну называць,— усміхнуўся Корж.— Чуў я гэта. Дык як, падтрымаеш?

— Пярэчыць не буду. Дай руку. І за «споведзь» дзякую,— адказаў Шахаў.

Увесну 1940 года Корж выправіўся ў Беларусь.

З раённага цэнтра ў роднае Хорастава праз 19 гадоў Васіль Захаравіч ехаў на райкомаўскім аўтамабілі. Пазнаваў мілыя з маленства сцяжынкі, лагчынкі і пералескі, масткі і скрыжаванні дарог. У лесе Васіль Захаравіч папрасіў прыпыніцца. Праз хмызняк выйшаў на палянку, зняў шапку каля магілы свайго партызанскага

друга Ігната Швайко, прыгадаў маладосць, баявых сяброў, смелыя аперацыі ў далёкія дваццатыя гады.

Васіля Каржа сустракала ўсё сяло. Але нават сёстры не адразу пазналі яго. Былі слёзы, абдымкі, пацалункі, гулі вясёлыя застоллі ледзь не ў кожнай хаце. Бо палова сяла — Каржы, сваякі, суседзі, даўнія сябры, а цяпер і зусім чужыя пераконвалі, што іх дзяды некалі пакуміліся ці былі сватамі, і цягнулі паваяганага госця да сябе. Дапытваліся пра ўсё да драбніц: як жывуць у калгасах, што гэта за машына камбайн? Няўжо, праўда, і жне і малоціць адразу? Васілю Захаравічу было пра што расказаць землякам. Яго баявыя ордэны разглядалі старыя і малыя: такія ўзнагароды бачылі ўпершыню. А паміж сабою разважалі: «Вось што значыць Саветы! Жыў бы Васька тут, лапці цягаў бы ды перад панам карак гнуў, Васькам бы і застаўся. А цяпер які чалавек Васіль Захаравіч! Гаспадаркаю на 18 тысяч гектараў камандаваў! Не жартачкі! Гэта ж болей, як у трох папоў! І баявыя ордэны абы за што не даюць».

Шумна сустракалі і шумна праводзілі.

За аселіцай Васіль Захаравіч завярнуў на вясковы пагост, пастаяў над роднымі магіламі, успомніў матчыну калыханку, адвярнуўся і доўга цёр кулакамі вочы.

З Хорастава Корж прыехаў у Пінск. Яму даручылі загадваць гаспадарча-фінансавым сектарам абкома КП(б)Б.

## ПА БАЯВОЙ ТРЫВОЗЕ

Зялёныя вуліцы ціхага Пінска крута збягаюць да берага Піны. За імклівай плынню рудаватай вады — бязмежныя лугі ў квецені рамонкаў і чабору, у пчаліным звоне і ў мядовым водары дзяцельніку. Па рацэ паважна паўзуць параходы і барат, гружаныя смольнымі круглякамі, з дробным стукам прабягаюць маторкі ў бурунах вясёлкавых пырскаў. Па пясчаных пляжах пабліскваюць маладыя загарэлыя спіны. Раніцаю ў нядзелю Васіль Захаравіч з пятнаццацігадовым сынам пайшоў на калектыўны гарод палівацъ капусту.

Ён і ў выхадныя дні заўсёды ўставаў на світанні, і дзецям не дазваляў песціцца ў ложку — з маленства прывучаў да працы на зямлі.

— Бачыш, Лёня,— казаў ён сыну,— з зярняці такое дзіва вырасла. А паляную ешся, не сагрэеш яго клопатам і ласкай, дзядоўнік з лебядою заб'юць, усе сокі высмакчуць, і зачэзне гэты срабрысты клубочак, што столькі сілы дае чалавеку. У капусце больш за ўсё ві-

тамінаў. А ведаеш, што такое вітамін? Віта, па-нашаму, значыць жыццё.

— Татка, ты часам вершы не састаўляеш? — усміхнуўся Лёня.

— Куды мне... А чытаць люблю. Пушкіна і Купалу. А Якуб Колас у «Новай зямлі» нібыта пра мяне напісаў. Ён тут, побач, у Пінкавічах, настаўнічаў,— завіхаючыся, расказваў Васіль Захаравіч.— Вось пальём апошнюю баразёнку і ўцячом з табою на Піну, пасядзім з вудамі над тым чорным вірам.

Але ў гэтую нядзелю не суджана было Васілю Захаравічу пайсці на ціхі бераг.

Каля пад'езда настойліва сігналіла абкомаўская машына. Халадок трывогі кальнуў у сэрца. Не на прагулку ж яго запрашаюць. Па даўнейшай звычцы сунуў у кішэню пісталет, узяў дакументы, схапіў вайсковую фуражку і, пераскокваючы прыступкі, скаціўся па лесвіцы.

— У абком, Васіль Захаравіч,— расчыніў дзверцы шафёр, і ўжо ў машыне ўдакладніў: — Першы ўсіх склікае. Нібыта бамбілі Жабчыцкі аэрадром. Няўжо вайна?

— Не плявузгай абы-што,— абсек шафёра Корж.

У кабінеце Аўксенцій Малахавіча Мінчанкі ўжо было поўна людзей.

— Таварыш першы сакратар, загадчык гаспадарча-фінансавага сектара Корж па вашаму загаду з'явіўся,— адрапартаваў Васіль Захаравіч.

— Адразу відаць: вайсковы чалавек у баявых абставінах і дакладвае па-вайсковаму. Вучыцеся, таварышы.— Сакратар абкома даручыў Васілю Захаравічу праверыць стан аўтамабільнага парка і падрыхтаваць да эвакуацыі партыйны архіў.

Дакладнасці, дзелавітасці ў Каржа мог павучыцца кожны: ніякай мітусні і паспешлівасці. Разважлівасць, стрыманасць і знешні спакой забяспечвалі хуткае выкананне кожнага даручэння. Таму так усё і ладзілася ў гэтага каржакаватага, разважлівага і заўсёды далікатнага чалавека.

Пагрузіўшы архіў, Корж зноў прыйшоў да сакратара абкома і, калі выпала зручная хвіліна, сказаў:

— Вы, напэўна, ведаеце, што я былы партызан. Магчыма, і ў гэтай вайне нам не абысціся без партызанскай барацьбы. Дык я вось і думаю...

— Правільна думаеце, Васіль Захаравіч. А стварыць і ўзначаліць атрад возьмецеся? — уважліва паглядзеў у вочы сакратар.

— Вазьмуся. Толькі з адною ўмоваю: людзей буду падбіраць сам.

Мінчанка па тэлефоне папрасіў сакратара гаркома ўсяляк садзейнічаць таварышу Каржу, задаволіць яго просьбы, а будучаму камандзіру атрада пажадаў удачы і поспехаў.

— Толькі не варта пакуль што гучна зваць атрад партызанскім. Проста, будзем лічыць знішчальным атрадам. Але людзей на ўсялякі выпадак рыхтуйце і для партызанскай барацьбы,— удакладніў сакратар.

У прыёмнай Васіль Захаравіч сустрэў даўнейшых сяброў — стрыечнага брата Грышу Карасёва, інструктара абкома Веру Захараўну Харужую і яе мужа, загадчыка вайсковага аддзела гаркома Сяргея Карпілава і Фёдара Кунькова.

— Ну што, Васіль? — адразу падступіўся Карасёў.

Корж павольна абвёў усіх уважлівым поглядам. Былі самыя надзейныя і блізкія таварышы.

— Усё ў парадку. Будзем ствараць атрад.

— Лічыце мяне з мужам вашымі байцамі,— як у строй, стала побач з Каржом Вера Захараўна.

— А мы згодны і на левы фланг,— прымкнулі да яе Карасёў з Куньковым.

«Пра адвагу, мужнасць, канспіратыўны талент Веры Харужая у часе яе працы сакратаром ЦК камсамола Заходняй Беларусі хадзілі легенды. Карасёў і Куньков самі могуць узначаліць атрады. Карнілаў — чалавек вайсковы, як паветра, неабходны ў такой справе»,— думаў Корж, ідучы з сябрамі ў гарком. Там яму адразу вызвалілі пакой, звязалі з камсамолам, сакратары гаркома і ядро будучага атрада адразу пачалі падбіраць людзей.

З кожным Васіль Захаравіч гаварыў грунтоўна і шчыра, прасіў усё ўзважыць, падумаць, не спяшацца з адказам, расказваў пра небяспекі, цяжкасці і нягоды партызанскага жыцця.

З сотні запрошаных выбраў сорак. Дванаццаць чалавек падабралі Карасёў з Куньковым, Харужая з Карнілавым прывялі шасцёх надзейных хлопцаў.

Вось ужо, можна лічыць, і атрад падабраўся.

Усіх падзялілі на тры баявыя групы, раздалі зброю, і хлопцы пачалі несці ў горадзе каравульную службу.

Неўзабаве ў Пінску з'явіліся першыя бежанцы з Брэста. Абшарпаныя, згаладалыя людзі, відаць, ледзьве паспелі выскачыць з палаючага горада. Бацькі шукалі дзяцей, дзеці — бацькоў. У стомленых бяссоннем і спякотнаю дарогаю вачах застылі страх і адчай.

Паспешліва і блытана расказвалі яны пра зверствы гітлераўцаў, пра іх танкі і гарматы, казалі, што праз некалькі дзён фашысцкая армія можа ўваліцца сюды.

Бежанцы з Брэста спяшаліся на ўсход.

Трэба было тэрмінова адпраўляць каштоўнасці, важныя дакументы і сем'і партыйнага і савецкага актыву.

На выпадковы грузавік Васіль Захаравіч пасадзіў дачок Вольгу і Зіну, а Лёня заўпарціўся:

— Астануся з табою, татка, разам будзем біць фашыстаў.

Ледзьве ўгаварыў сына Васіль Захаравіч.

— Самая твая баявая задача, сынок, берагчы маці і сясцёр. Ты ж цяпер адзіны ў сям'і мужчына.— Абняў на развітанне. Пастаяў, пакуль сплыло за машынаю воблака пылу, і пайшоў да баявых сяброў.

* * *

У штаб абароны горада прыходзілі трывожныя весткі. На паўднёвы захад ад Пінска немцы занялі Драгічынскі і Іванаўскі раёны, на поўначы — Лагішынскі і Целяханскі.

Ужо 26 чэрвеня атрад Каржа высачыў і затрымаў фашысцкіх разведчыкаў-парашутыстаў, а 28-га каля Рабога моста партызаны падбілі два лёгкія танкі, разам з танкістамі забралі важныя дакументы.

Атраду Каржа было даручана затрымаць немцаў на паўночнай ускраіне, каб даць магчымасць насельніцтву эвакуіравацца з горада. У гэты ж дзень у Пінску пачулі мужны голас Масквы, дырэктыву партыі і Савецкага ўрада: «У занятых ворагам раёнах трэба ствараць партызанскія атрады, конныя і пешыя, ствараць дыверсійныя групы для барацьбы з часцямі арміі ворага, для распальвання партызанскай вайны ўсюды і скрозь, для ўзрыву мастоў, дарог, пашкоджання тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі...»

Васіль Захаравіч разгарнуў тую самую карту, якую некалі паказваў парторгу Шахаву, калі збіраўся ў Беларусь. Выходзіць, ён не памыліўся — усё прадбачыў, усё ўлічыў. Арганізацыя атрада ў першы дзень вайны была своечасовай і неабходнай. Менавіта партызанскага. Так іх назвала партыя.

Адзначыў на карце пры дарозе на Целяханы колішні маёнтак Галёва і вырашыў замацавацца з атрадам на паўночнай ускраіне. За старым садам выкапалі акопы, выставілі дазоры, расставілі баявыя групы ў розных пунктах. Байцы адпачывалі, не спалася толькі камандзіру. Усыпанае зорамі неба нагадала далёкую Валенсію, іспанскіх сяброў, цяжкія баі з франкістамі, горныя партызанскія сцежкі,

аблічча, вочы і галасы баявых сяброў. Успаміналіся паходы і адважныя рэйды тут, на Піншчыне, у атрадзе Арлоўскага, дрыготкія рукі і затуманены слязою Лёнеў погляд. Дзе яны цяпер, яго дзеці? Дзе Кірыла Пракопавіч? І ён жа не сядзіць склаўшы рукі.

Ноч мінула спакойна. На світанні туман заткаў кусты і малады ельнік, заслаў палі і дарогі. Камандзір прыпаў вухам да зямлі, прыслухоўваўся да кожнага гуку і шэпту. Калі туман сплыў у нізіны, разведка данесла: лесам едзе каля трыццаці коннікаў праціўніка. «Баявая ахова»,— вырашыў Корж і перадаў сваім групам прапусціць, пакуль не падцягнуцца асноўныя сілы. З лесу выехала не менш як два эскадроны фрыцаў. Яны імкліва набліжаюцца. Ужо выразна відаць постаці коннікаў, галовы і насцярожаныя вушы коней.

Раптам з могілак грымнуў дружны залп. Гэта група Сяргея Карпілава шчыльным агнём сустрэла фашыстаў. Коря; загадаў біць па асноўных сілах. Замітусіліся, узняліся на дыбкі, кінуліся ў розныя бакі коні, потарч паляцелі на зямлю коннікі. Па высокім жыце ашалелыя коні неслі дзесяткі два гітлераўцаў, абстраляных Каралавым. Спыніла іх дружным залпам група Каржа, у жыце знікла яшчэ некалькі коннікаў, але асноўныя варожыя сілы ўдарылі кулямётным агнём, на дарозе адна за другою сталі вухкаць міны. Фашысты апамяталіся і пачалі наступаць. Сілы былі няроўныя. Адстрэльваючыся, партызаны канавамі і лагчынамі адыходзілі на ўскраіну горада. Такі выявілася, што няма групы Карпілава. А каля могілак яшчэ не сціхаў бой. Камандзір паслаў сувязной. Неўзабаве з'явілася некалькі байцоў з групы Карпілава. Яны далажылі:

— Таварыш камандзір, Карнілаў цяжка паранены. Яго нясе Іван Чуклай.

— Эх, вы! Хто ж пакідае параненага камандзіра? — абурыўся Васіль Захаравіч і пабег да могілак. За ім кінулася некалькі байцоў.

Не данёс Чуклай свайго камандзіра: цяжка паранены Карнілаў сканаў на яго руках.

Гэта быў першы цяжкі бой і першая горкая страта. А горад тым часам пусцеў і нямеў. Зямля гула і калацілася ад блізкіх і далёкіх выбухаў. Камандзіру данесла разведка, што недзе з-пад Маларыты з баямі прарываецца з акружэння 75-я дывізія палкоўніка Няклюдава. Бой дакаціўся да ваколіц Пінска. Корж загадаў ударыць з фланга па фашыстах і адцягнуць увагу ад акружанай дывізіі. Ад нечаканых стрэлаў гітлераўцы разгубіліся, і ланцужок разамкнуўся. Пад прыкрыццём партызан дывізія палкоўніка Няклюдава выйшла з акружэння.

Па абязлюдзелых вуліцах атрад ішоў да ракі. На тым баку Піны яго чакаў сакратар абкома Шапавалаў, старшыня аблвыканкома Шараў і першы сакратар абкома камсамола Вольга Аляксандраўна Сысоева. На лузе стаялі чатыры грузавікі і легкавая машына.

— Ну, на конях, партызаны,— звярнуўся да Каржа сакратар абкома.— А здорава вы сустрэлі няпрошаных гасцей.

— Сустрэлі някепска, а вось Карпілава страцілі,— пахмура адказаў Коряг.— Язык не паварочваецца Веры Захараўне сказаць.

— Шкада. Цудоўны быў камуніст і таварыш,—

уздыхнуў Шапавалаў,— але дорага аддаў сваё жыццё: за дваццаць фрыцаў!

— Каб у нас было тры-чатыры кулямёты, мы б іх усіх там паклалі,— адказаў Корж.

Калі ўсе пераправіліся на той бок, партызаны падпалілі мост, паселі ў машыны і рушылі ў Столін. Там партызан першая сустрэла Вера Захараўна Харужая. Засыпала Каржа пытаннямі і між іншым спытала, як трымаўся ў баі Карнілаў.

— Па-геройску! Яго група якраз і забяспечыла поспех аперацыі,— павольна гаварыў Корж, а ў вочы зірнуць не адважваўся.

У трывожным маўчанні жанчыны адчувалася шчымлівая нецярплівасць. Стрымліваючы дрыготку ў голасе і адводзячы погляд, як мага спакайней, Корж працягваў:

— Сяргея мы пакінулі з некалькімі хлопцамі весці разведку ў раёне Пінска.

Гэта была, бадай, першая святая няпраўда, на якую адважыўся Корж. Вера Захараўна збіралася стаць маці, яе шанавалі і берaглі ўсе, асабліва цяпер, калі навалілася такое гора.

У гарадскі парк на нараду партыйна-камсамольскага актыву ішлі разам. Каб толькі не маўчаць, гаварылі пра розныя дробязі, але адчувалася, што думаюць яны зусім пра іншае, нешта тояць адно ад аднаго.

Камуністы і камсамольцы ў цывільнай і паўвайсковай адзежы, так-сяк узброеныя, сядзелі на траве, над шатамі старых ліп. Прадстаўнік Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі Пятро Андрэевіч Абрасімаў расказаў пра становішча ў першыя дні вайны і заклікаў бязлітасна біць ворага, арганізоўваць насельніцтва на барацьбу з фашызмам. З палымянаю прамоваю выступіла Вера Захараўна. Кожнае яе слова кранала душу, будзіла думку, умацоўвала веру ў перамозе над лютым ворагам»

Праз некаторы час Корж звярнуўся да Веры Захараўны:

— Ты вопытная падпольшчыца. Хто, як не ты, здолее пераб-рацца за лінію фронту? Неабходна звязацца з Цэнтральным Камітэ-там, папрасіць зброю, боепрыпасы, медыкаменты. Перадаць вось гэтую штабную карту фашыстаў, захопленую ў першым баі. Так што збірайся, Вера Захараўна.

— Шкадуеш мяне, таварыш Корж? — пачырванела Харужая.

— Па-першае, болей няма ніякага Каржа. Па-другое, запомні, дзейнічае атрад Камарова.

— Канспірацыя. Гэта правільна,— памякчэла Вера Захараўна.— Разумею. Калі дазнаюцца сапраўднае імя камандзіра, ад тваіх хорастаўскіх Каржоў і крошак не збярэш. Загад выканаю, таварыш Камароў. Але ўсё роўна змагацца буду ў тыле.

— Толькі беражыся, Вера,— камандзір абняў вузкія плечы стомленай жанчыны.

Праз якія гушчары, якімі сцежкамі ішла і паўзла Вера Захараўна, вядома было толькі ёй. Колькі выпакутавала, каго абмінула, каго сустрэла, ведалі толькі палескія балоты і пушчы, абсмаленыя каласы на здратаваных палетках ды зорныя ночы, што берaглі і хавалі ад паганага вока мужную дачку зямлі Беларускай.

Амаль паўтара месяца праз агонь і пекла баёў нябачаным ценем дабіралася Вера Харужая да сваіх. Толькі ў жніўні пад Гомелем адшукала аператыўную групу ЦК КП (б) Б.

Ледзь трымаючыся на нагах, увайшла да сакратара ЦК Пятра Захаравіча Калініна і асунулася ў крэсла. Ён адразу не пазнаў даўно знаёмую палымяную Веру. Апрытомнеўшы, перадала просьбу пінскіх партызан і аператыўную карту, захопленую ў фашыстаў у баі каля Галёва. Сабе папрасіла — даць адказнае і складанае заданне.

Перахапіўшы спагадлівы позірк Калініна, адразу падхапілася:

— Бачыце, сотні кіламетраў праз смерць па варожых тылах прайшла, а заданне выканала. І цяпер пайду, куды загадаеце.

— Загадваю неадкладна ехаць у тыл, адпачыць і стаць...

— Ах, усё гэта не ў час і недарэчна! — перабіла Вера.— Усё роўна буду біць фашыстаў там, у тыле...

Яна стрымала слова.

Толькі што народжанага сына даручыла даглядаць сваякам, а сама праз лінію фронту дайшла ў захоплены ворагам Віцебск, адважна змагалася і гераічна загінула там.

## TAGEBUCH[1]

У першым баі каля Пінска сярод баявых трафеяў у маладзенькага афіцэра была знойдзена запісная кніжка. На скураной вокладцы золатам адціснута Tagebuch. Бронзавая зашчапка з замочкам і залочаны абрэз прыцягнулі ўвагу партызан: «А раптам у ёй важныя запісы».

На першай старонцы прыгожым жаночым почыркам было напісана. «На ўспамін ад тваёй фройляйн Марыі. Запісвай пра свае перажыванні і добрыя, прыгожыя дні».

Дзённік аддалі камандзіру.

— Дзякую, хлопцы. Спатрэбіцца,— Васіль Захаравіч пагартаў чыстыя старонкі.— Не паспеў афіцэры!« запісаць свае злачынствы. Тады мы будзем запісваць свае перамогі,— і схаваў прыгожую кніжачку ў кірзавую палявую сумку. А на прывале сеў на пянёк і на чыстай старонцы запісаў:

На закате ходит парень
Возле дома моего,
Поморгает мне глазами
И не скажет ничего.
И кто его знает,
Чего он моргает (3 разы).

Новую лірычную песню партызанскі камандзір узяў на ўзбраенне. Яе паціху спявалі каля паходных вогнішчаў, успамінаючы сваіх каханых і барвовыя надвячоркі за родным сялом, учарашняе мірнае жыццё.

За яго цяпер трэба біцца, магчыма, памерці...

Трафейнага Tagebuch Васілю Захаравічу хапіла да канца 1943 года. На кожнай старонцы тры-чатыры лаканічныя запісы:

«4/VII-41. Абарона гор. Пінска. Сустрэча з варожай конніцай. Завязаўся бой. Наш загінуў адзін і паранена трое. Немцаў было забіта чалавек 15-20».

«5/VIII-41. Працавалі з групаю на дарозе Леніна — Жыткавічы, на поўдзень ад Пясчанкі. Узялі адну пяцітонную машыну, 2 матацыклы, 10 вінтовак, знішчана 15 фрыцаў».

Сапраўды, для Каржа і яго атрада гэта была праца, праца па абароне роднай зямлі, па выратаванню савецкіх людзей, землякоў і ўсяго, створанага іх намаганнямі і натхненнем.

---

[1] Дзённік

Як непадобны першыя і заключныя старонкі гэтага унікальнага дзённіка. У пачатку — гарката і пакуты страт, галоднае бадзянне па лясах і балотах, недахват зброі і боепрыпасаў, хваробы і раны. На апошніх — пералік разгромленых варожых гарнізонаў, кіламетраў узарванага чыгуначнага палатна, баявых трафеяў, рэцэпты і формулы выбуховых сродкаў, спісы партызан, прадстаўленых да ўзнагароды баявымі ордэнамі, адрасы мацярок і жонак сяброў па зброі, якім трэба дапамагчы ў далёкім тыле. Пра ўсё думаў, пра ўсё дбаў і клапаціўся ўваяглівы і чулы Васіль Захаравіч, нязломны і грозны для ворагаў партызанскі камандзір Камароў. Ён заўсёды памятаў, што партызаны — гэта пасланцы партыі і Савецкай улады ў акупіраваных раёнах, абаронцы сумленных людзей, што трапілі ў фашысцкую няволю.

— Наша апора і надзея — тутэйшыя людзі,— заўсёды гаварыў партызанам камандзір.— Галодны — далікатна папрасі, апошнім падзеляцца, сілком возьмеш, ніколі не даруюць.

І гэта зрабілася няпісаным законам для ўсіх Камароўку.

У атрад прыходзілі новыя партызаны, намячаліся сур'ёзныя аперацыі па разгрому нямецкіх гарнізонаў, але не хапала ні зброі, ні патронаў.

Таму Васіль Захаравіч вымушаны быў са сваімі хлопцамі часцей выходзіць на «паляванне».

Ранічкаю пятага жніўня пятнаццаць партызан залегла ў лазняку пры дарозе. У Пагосце быў бровар, і немцы вельмі ж унадзіліся туды «на запраўку». Прыслухоўваецца Васіль Захаравіч: на дарозе спакойна, але за спіною шамаціць трава, і нехта паціху гаворыць. Азірнуўся: ідуць два падлеткі з косамі. Сталі. Відаць, і яны прыкмецілі партызан. Камандзір запыніў іх, распытаў, куды ідуць, што чуваць у сяле.

Хлопцы расказалі, як здзекуюцца немцы і паліцаі з былых калгасных актывістаў і з жонкі старшыні Таццяны Рыгораўны Страх, расказалі пра здрадніка Бараноўская і хацелі ўжо ісці.

— Не, хлопчыкі, прыйдзецца вам трохі пабыць з намі. Зробім, што трэба, тады адпусцім... Чаму, пытаецеся? А раптам спаткаюць вас фрыцы, застрашаць, можа, і бізуном перацягнуць, а вы возьмеце ды раскажаце, дзе мы. Тады нам крышка. Так што, хлопчыкі, не гневайцеся. І нам і вам спакайней будзе.

Па дарозе на захад пайшлі машыны з пераненымі. А Каржу трэба не гэтыя недабіткі, а зброя і прыпасы. Раптам загулі маторы, і насустрач калоне санітарных машын пайшлі грузавікі з салдатамі.

«Значыць, едуць на фронт»,— падумаў Корж і загадаў партызанам разбіцца на тры групкі, па пяць чалавек.

Як толькі першая машына параўнялася з засадаю, Васіль Захаравіч кінуў пад колы гранату, стрэлам з вінтоўкі зняў шафёра. Машына папаўзла ў кювет, па астатніх машынах грымнуў залп, знячэўку спалоханыя немцы выскаквалі з кузаваў у кусты, некалькі заляглі за коламі грузавікоў і пачалі адстрэльвацца. Корж трапным стрэлам забіў афіцэра, гітлераўцы кінуліся хто куды, партызанскія кулі даганялі ўцекачоў.

За некалькі хвілін было забіта 15 фашыстаў. Партызаны сабралі шмат зброі, патронаў і прадуктаў. Пасярод дарогі дагаралі грузавікі.

— Вось і ўсё, хлопцы,— звярнуўся Корж да затрыманых касцоў, пачаставаў іх трафейным шакаладам і папрасіў, каб правялі карацейшаю дарогаю да вёскі Пясчанкі.— А што бачылі нас, забудзьцеся і нікому не кажыце.

Следам за маладзенькімі касцамі партызаны зніклі ў лесе.

Жнівень пачаўся спякотай. Зашамацелі пад нагамі пасохлы мох і апалая ігліца, перасохлі лясныя копанкі, прыходзілася працэджваць і піць іржавы балотны жужаль. Некалькі дзён не было чаго есці. Партызаны надкопвалі дробную бульбяную завязь на калгасных палях. А праз некалькі дзён у атрадзе пачалася дызентэрыя.

6 жніўня 1941 года Васіль Захаравіч запісаў: «Два чалавекі захварэлі крываўкай. Адзін у паходзе зваліўся. Двоім прыйшлося яго весці».

«7/VIII. Захварэў сам. Есці не хочацца і няма чаго. Дзед-пастух з суседняй вёскі прынёс аўсяных круп. П'ём па дзве шклянкі на дзень».

Партызаны, якія яшчэ трымаліся на нагах, на закінутай пасецы знайшлі трохі мёду, сабралі чарніц для хворых. Але хутка і гэтыя прыпасы кончыліся. Зноў людзі чэзлі ад голаду і крываўкі. Няўжо ж ляжаць на лапніку і чакаць пагібелі? Не, трэба нешта рабіць!

І змарнелы, знясілены Васіль Захаравіч ледзьве даклыпаў да рыбгаса «Белае». У хатцы на ўзлессі жыла жонка камандзіра-пагранічніка Надзея Аляксандраўна Рыбчынская (Балабіна) з маленечкім сынам. Да вайны яна загадвала саўгаснай сталоўкай, і была пакінута дапамагаць вайсковым часцям, бежанцам і партызанам. Праз суседскага хлопчыка Корж выклікаў у хвойнік Надзею Аляксандраўну. Як жа ён узрадаваўся, калі пазнаў у ёй дачку свайго колішняга прыяцеля з вёскі Доўгае Старобінскага раёна. Расказаў, у якім цяжкім становішчы апынуўся атрад і напрасіў дапамагчы знясіленым хваробаю партызанам.

Штодня ў лагер камароўцаў Надзея Аляксандраўна адпраўляла аўсяны адвар, даставала лекі. Як толькі хворыя акрыялі, разам з

рабочым саўгаса Паддубіцкім адправіла партызанам цэлую свіную тушу.

А неўзабаве Надзея Аляксандраўна са сваёю сяброўкаю Ганнаю Багінскай стала баявою разведчыцаю атрада Камарова. То, прыкінуўшыся багамолкаю, хадзіла яна з царквы ў царкву, з набажэнства на набажэнства, а па дарозе паспявала палічыць варожыя машыны і гарматы, запомніць, дзе знаходзіцца ўправа СД. То садзілася з сяброўкаю на лавачцы, лузала гарбузікі, нібыта нешта пляткарыла, а сама запаміняла колькасць гітлераўскіх салдат, што ішлі па вуліцы, танкетак і аўтамабіляў, вызначала, у які бок яны ідуць і пра ўсё пераказвала Камарову.

Але фашыстам удалося высачыць адважную разведчыцу. Раз'юшаныя вылюдкі ўламаліся ў яе хацінку на ўзлессі. На порхаўку збілі маладую жанчыну, а яна толькі шчыльней туліла да сябе дзіця, галавой засланяла яго ад удараў. Хату надпалілі, а гаспадыню навялі па сельскай вуліцы на расстрэл: «Няхай глядзяць і дрыжаць ад жаху аднавяскоўцы». Прывялі да акопа на беразе зарослага чаротам возера.

— Страх прапаў,— успамінае цяпер Надзея Аляксандраўна,— памятаю толькі, што ўсё мацней прыціскала да грудзей сына. Спадзявалася засланіць ад кулі, верылася, а можа, падбяруць добрыя людзі, і неяк выкідаецца сірацінка. Раптам у апошняе імгненне бліснула думка: агідна пакорна паміраць, хай застрэляць на бягу, моя«а, лягчэй будзе. Падумала і кінулася ў зараснікі чароту. Грымелі стрэлы, каля вуха дзвынкалі кулі, а я расхінала сцяблiны чароту і бегла, бегла...

Потым прытаілася, каб апамятацца. А хлопчык мой ні разу не пікнуў, нібы чуў сваю пагібель. Страляніна змоўкла. Відаць, падумалі, што забітыя мы. Так цудам і выратаваліся. Партызаны пераправілі сына да сваякоў у Доўгае, а я пайшла ў лес і партызаніла да самен\u0027кага канца вайны. Цяпер мой Эдзік — выкладчык музычнай школы ў Салігорску. А я так і ясыву ў Пінску, на радзіме нашага злучэння.

Пасля Надзеі Аляксандраўны ў рыбгасе засталася надзейная разведчыца Ганна Васільеўна Багінская. На сустрэчы ў канаве за сялом вяла вядомая толькі ёй і Каржу сцяжынка. Васіль Захаравіч часцей прыходзіў сам, каб дазнацца пра ўсе навіны ад кемлівай разведчыцы. А яна то цялушку вяла пасвіць, то ішла з сякераю і вяроўкаю ў лес па ламачча, знікала ў канаве і паспешліва расказвала:

— У Жыткавічах хавалі пабітых партызанамі немцаў, з вайсковаю пашанаю хавалі. А ў Людзяневічах сагналі і ўзялі пад ахову ўсё яўрэйскае насельніцтва. Па шляху сёння не прайшло ніводнай машыны. Напэўна, напалохалі іх нашы засады. А Надзю высачыў, ды і ўсіх актывістаў выдае новы староста... Якаў Шур.

— Што яшчэ новага?

— У вёску Баравая прыйшоў а акружэння чырвонаармеец Іван Некрашэвіч. Усё дапытваецца ў меншага брата, як знайсці партызан, а той, нібы вады ў рот набраў, маўчыць.

— А чаму гэты маўчун павінен ведаць, дзе партызаны?

— Хоць малы, але востры хлапчук. У першыя дні адступлення ён па надзейнай дарозе вывеў нашу танкавую калону. Мішам яго завуць. І ў вас ён таксама быў за праваднікa.

— Гэта такі бялявы і ў рабацінні, як сланечнік? — пацікавіўся Васіль Захаравіч.

— Але, ён самы... А роднаму брату не прызнаецца.

— Малайчына. Правільна робіць. І гэтага Івана вы маглі б прывесці, Ганна Васільеўна? Хоць бы і цяпер.

— Чаму ж, прывесці можна. Толькі не сюды.

— Вядома, не сюды. Чакаю вас за ўзгоркам пад зламанаю асінаю. Да сустрэчы.

Ганна Васільеўна пайшла лясною сцежкаю, а неўзабаве і Корж з Чуклаем зніклі ў яловым гушчары.

Многае перадумаў Васіль Захаравіч, чакаючы Багінскую з Некрашэвічам: машыны не ідуць па шляху, напэўна, пачалася перагрупіроўка часцей праціўніка, ізаляцыя яўрэйскага насельніцтва,— не іначай падрыхтоўка да расісцкіх акцый. Трэба было б паспрабаваць выратаваць іх, але што ты зробіш з такімі сіламі і зброяй супроць цэлага гарнізона? А вось ад здрадніка Шура трэба пазбавіць насельніцтва.

Неўзабаве трэснула галінка, тройчы пракукавала «зязюля» і з'явілася Ганна Васільеўна з рослым русявым хлопцам. Ён далажыў па-вайсковаму.

— А дзе ваша вінтоўка, таварыш баец?

— Іх у мяне, таварыш камандзір, аж дзве. Схаваны ў надзейным месцы. Са мною прабіваўся з акружэння яшчэ адзін хлопец. Ён пераапрануўся ў цывільнае, а зброю пакінуў мне.

— Якая ў вас сям'я?

— Тры браты і сястра Вера. Серадольшага, Сяргея, пры нас няма. Ён робіць на чыгунцы ў Асіповічах. Спадзяюся, дабярэцца дадому і будзе разам з намі.

— Чыгуначнік, кажаш? — перапытаў Корж.— Спецыяльнасць патрэбная. А маці з бацькам пакідаеце?

— Маці памерла... А бацька... бацька, разумееце,— разгубіўся і пачырванеў Іван,— як вам сказаць? Бацька сядзіць...

— За што сядзіць?

— Быў старшынёй калгаса. У нечым заблыталі яго. Ну, і засудзілі.

— А ты за бацьку не ў крыўдзе? — жорстка спытаў Корж.— Мопса, знарок хочаш да нас пратачыцца. Тады сцеражыся, хлопча.

— Што вы, Васіль Захаравіч! Я іх сям'ю змалку ведаю. Камсамольцы ўсе. Не толькі па білетах. Па душы камсамольцы. Галаву гатова паклаcці за іх,— заступілася Ганна Васільеўна.

— Галава ў цябе адна і дорага каштуе. Не надта раскідайся ёю,— памякчэў камандзір.— Што ж, калі адказваеш за іх, возьмем. Только ведай, хлопец, як цябе, Іван?..

— Але, Іван Некрашэвіч.

— Ведай, Іван, праверым цябе на самым адказным заданні.

— Вазьміце і сястру з братамі. Дома іх пакідаць нельга. Шур адразу выкажа.

— Бяром. Вось і будзе аддзяленне Некрашэвічаў,— усміхнуўся Корж.— А чыгуначнік твой нам асабліва патрэбен.

Неўзабаве ўся сям'я Некрашэвічаў была ў атрадзе. Увішную бялявую Веру паслалі рабіць на кухню, Міша, ужо знаёмы партызанам шустры хлапчук, стаў адважным і кемлівым разведчыкам, а Іван выдатна выканаў сваё першае заданне. Разам з Нордманам і Чуклаем прыйшоў ён на світанні ў вёску Юркевічы і пастукаўся ў хату да Шура. Той пазнаў Некрашэвічаў голас і адчыніў дзверы. А як толькі ўгледзеў узброеных людзей, кінуўся назад і зашыўся пад ложак. Калі выцягнулі і звязалі здрадніка, жонка яму сказала ў вочы; «І ні колечкі цябе, юду, не шкада. Крыўдна толькі, што загнюсіў сваёю здрадаю дзяцей і мяне, няшчасную. Цяпер, можа, людзі хоць вітацца з намі пачнуць». У лесе Якаў Шур прызнаўся, што наняўся сачыць за ўсімі аднавяскоўцамі і рабочымі рыбгаса, вербаваць у паліцыю, падбіраць солтысаў, даносіць Жыткавіцкаму СД, дзе знаходзяцца і куды кіруюцца партызаны.

— Ах ты, змей падкалодны! Колькі ж ты нявінных душачак загубіў? — ускінуўся самы рахманы ў атрадзе чалавек — дзед Ігнат Дубіцкі. Ён быў кухарам, і калі якая цётка давала партызанам кураня, прасіў каго-небудзь з хлопцаў, каб прырэзаў. А тут ухапіў аўтамат:

— Дайце мне яго, хлопчыкі. Па даўнейшаму знаёмству разлічуся з гэтым гадам.

І павёў здрадніка ў густы ельнік.

* * *

Палескія лясы змрочныя і таямнічыя. На світанні яны звіняць птушыным шчэбетам, пераклікаюцца глухім перастукам дзятлаў і

вуркатаннем дзікіх галубоў. Начную цішыню трывожыць савіны плач. Разыходзяцца і знікаюць у гушчары воўчыя сцежкі, трухлявеюць вываратні, прывіднымі агеньчыкамі паблісквающь спарахнелыя пні. То раптам у нетрах засвеціцца блакітная азярынка, ласкавая і зіхатлівая, як дзіцячая казка, то раптам захлопае, зазыбаецца пад нагамі замшэлая дрыгва.

Добраму чалавеку лес — гасцінны прытулак і найлепшы абаронца. Ліхому — жах і пагібель. Таму фрыцы і баяліся лясоў, прымушалі выразаць іх ўздоўж дарог, нават ахоўныя елачкі высякалі каля чыгункі.

Атрад Камарова пятляў ляснымі сцежкамі па раёнах, занятых немцамі. Мясціны гэтыя камандзір ведаў з часоў грамадзянскай вайны. Але ведаў Васіль Захаравіч і іншае: у Заходняй Беларусі менш чым два гады была Савецкая ўлада і, вядома, у вёсках і мястэчках затаіліся былыя паслугачы пілсудчыкаў, асаднікі і розная крымінальная навалач, гатовая служыць новым гаспадарам, абы быць сытай, рабаваць і здзекавацца з людзей. Гэтыя акалічнасці патрабавалі асаблівай асцярожнасці і пільнасці. Ад актыўных дзеянняў атрад устрымліваўся — не хапала зброі і патронаў.

«Хоць бы мець некалькі кулямётаў, трохі патронаў і толу,— марылі партызаны.— А дзе іх узяць? Адзіная надзея — здабываць у ворага».

Добра, што ў першыя дні вайны ўдалося выпрасіць у камандуючага Пінскай флатыліяй віцэ-адмірала Рагачова трохі толу, бікфордава шнура з капсулямі. Два мяхі галет ён сам «звыш нормы» падкінуў партызанам.

— Калі будзе зусім нявыкрутка, галеты можаце кінуць,— павучаў сваіх хлопцаў камандзір,— а тол з капсулямі беражыце мудрэй вока!

І берaглі, памятаючы, што гэта партызанскі хлеб, а ворагу — пагібель.

Камандзір часта думаў пра лёс сваіх партызан. Хто з іх дойдзе да Перамогі? Хто назаўжды застанецца ў лясных нетрах або на прыдарожных узгорках? А кожнага ж з іх чакае маці, жонка, сын ці дачка. Успомніліся і свае. Куды іх закінуў лёс? Дзе цяпер Оля, Зіна і Лёня?

І зноў з трывогаю і спагадаю пaглядаў на сваіх байцоў, да шчымлівага болю адчуваючы сваю адказнасць за кожнага з іх. Бадай, усе яны яшчэ як след не нюхалі пораху. Што зробіш — маладзенькія! Адзін Грыша Карасёў вопытны партызан, надзейны паплечнік яшчэ па грамадзянскай вайне, родзіч і друг з маленства. Але дысцыпліну ведае — нават не прызнаецца, што з аднае вёскі. Вопытны і загартаваны баец павінен цягнуць за дваіх. І астатнія — надзейныя

хлопцы, гарачыя, адданыя камсамольцы, але не маюць ніякага вопыту. Вось дбай пра кожнага і думай за сябе і за іх.

Збіраючыся начаваць у лесе пад Мікашэвічамі, не КОМІНЫ здагадаўся падаслаць яловых лапак. Дзе стаялі, там і пазвальваліся. Вядома, змораныя. Камандзір тлумачыў, паказваў, як лепей паслацца.

Пад елкамі і соснамі спяць партызаны трывожным сном. Цяпер лес — іх родны дом, абаронца і карміцель: на купінах буяюць даспелыя чарніцы, багуннік пераплёўся з шызымі, сакавітымі буякамі, з-пад елак і дубоў вытыркаюцца крамяныя баравікі. Вось табе прыварак і ласунак. Прэлаю вільгаццю пахне грыбніца і будзіць далёкія мірныя ўспаміны: сцеягкі на роснай траве, радасць знаходак і поўныя кошыкі баравікоў.

Сон не бярэ Васіля Захаравіча. Тройчы сам правяраў дазоры, нячутнай хадою абышоў лагер, углядаўся у амаль дзіцячыя твары сваіх змораных байцоў: салодка спіць сакратар гаркома камсамола Саша Бяркові҆ч, разумны, дасведчаны хлопец, вялікі радыёаматар. Здабыць бы дзе-небудзь прыёмнік. Побач — загадчык аддзела райкома камсамола, васемнаццацігадовы Эдзік Норд мац. Зусім хлапчук. Але трохі гергеча па-нямецку. Гэта можа і спатрэбіцца. На купіне задаволена сане слесар суднарамонтнага завода Віктар Ліфанцьеў. А нязграбны цыбаты дзесяцікласнік, піянерважаты Ваня Чуклай скруціўся абаранкам. У атрад яго бралі неахвотна, а ў баі каля Галёва паказаў сябе адважным байцом — вынес параненага камандзіра. Значыць, не пра сябе дбае, пра іншых клапоціцца. Такія якраз і патрэбны цяпер.

Задрамаў Васіль Захаравіч толькі на досвітку. Апаўдні дазорныя далажылі: да іх лагера падкрадаецца група ўзброеных людзей. Абвясцілі трывогу, занялі пазіцыі, гатовыя да бою ці то з пераапранутымі немцамі, ці то з нейкаю бандаю. А магчыма, гэта і свае. Васіль Захаравіч папярэдзіў — без яго каманды не вытыркацца і не страляць.

Узброеныя незнаёмцы падыходзілі асцярожна: туліліся за хвоямі, пазіралі з-пад кустоў — напэўна, адчулі, што ў лесе нехта ёсць. Насцярожыліся і Камароўцы. Некаторыя ледзьве стрымліваліся, каб не націснуць на курок.

Раптам камандзір атрада апусціў аўтамат і ўстаў на ўвесь рост:

— Адставіць, хлопцы! — і зрабіў крок насустрач незнаёмым.— Таварыш Сахараў!..

Да Каржа бег сакратар Ленінскага райкома. Злінялая потная гімнасцёрка прыцярушана ігліцай і пылам, а змакрэлы твар радасна ўсміхаўся.

Многія партызаны абодвух атрадаў ведалі адзін аднаго, частавалі самасадам, распытвалі і расказвалі, дзе хто што чуў ці бачыў.

Камандзіры адышлі ўбок, і Сахараў расказаў Васілю Захаравічу, што яны толькі-толькі выйшлі з бою і ледзьве адарваліся ад ворага. Не, не ад гітлераўцаў. Банды былых пілсудчыкаў і рознай крымінальнай навалачы ўзброіліся, распраўляюцца з насельніцтвам і нападаюць на партызан.

— Вось і спраўдзіліся мае трывогі,— сказаў Корж.— Даходзілі да мяне чуткі, што тут лютуюць панскія недабіткі, расцягваюць калгасы, выдаюць гітлераўцам камуністаў і іх сем'і, а самі ахвотна наймаюцца ў паслугачы да новых гаспадароў. Давай будзем разам граміць фашысцкую навалач і гэтых вылюдкаў.

Сахараў маўчаў, нібы не чуў прапановы Каржа.

— Ну дык як? Разам будзем ваяваць? — Маўчанне зацягвалася.— Адным пальцам і перца не паднімеш, а двума — пуд возьмеш.

— Калі ж, ліха на яго, вельмі цяжкі гэты пуд, Васіль Захаравіч. У фашыстаў аўтаматы і танкі, артылерыя і боепрыпасаў навалам, а ў нас вінтоўка на дваіх, патроны «па картках» выдаём. Я лічу, ды і ўсе нашы так думаюць,— трэба прабівацца на ўсход да сваіх, злучыцца з Чырвонай Арміяй.

— Без цябе армія не справіцца, а з'явішся з тузінам старобінцаў, і фашысты адразу да Берліна адскочаць,— горка накпіў Корж.— Эх, дарагі ты мой, пакуль да сваіх дабярэшся, гэтыя галаварэзы з закасанымі рукавамі ды з чарапамі на шапках палову нашых людзей перавешаюць... Хіба ж указанні партыі — разгортваць усенародную партызанскую барацьбу, ствараць невыносныя ўмовы для ворагаў — табе не закон? Чырвонай Арміі дапамагаць трэба тут. А як? Разгортваць масавую барацьбу, каб як мага болей варожых салдат затрымаць тут, у тыле, не дапусціць да фронту, знішчаць іх на кожнай вярсце, на кожнай сцежцы, не даваць ім адхлання ні днём ні ноччу... Памыляешся, таварыш Сахараў,— сурова сказаў Корж і заўважыў, што яго хлопцаў у нечым горача пераконваюць сахараўцы.

— Камароўцы, сюды! — загадаў камандзір.

Хлопцы павольна пачалі падыходзіць.

— Васіль Захаравіч, вунь яны прабіваюцца да фронту.

— Ведаю. Чуў! — адсек Корж.

— Можа б, і нам падацца? А то чаго добрага зімою пазагінаемся ў лесе.

— Блізка відаць, ды далёка дыбаць,— нібыта сам сабе сказаў Корж.— Хто спалохаўся і на сябе не спадзяецца, можа ісці. Усе пойдзеце — адзін застануся. Знойдуцца адважныя, сумленныя людзі і будуць граміць фашыстаў тут, іх жа зброяй,— камандзір паглядзеў на кожнага свайго партызана.

Неўзабаве атрад Сахарава рушыў на ўсход. Некаторых камароўцаў апанавалі разгубленасць і сумненні. Праз пару дзён дзесяць партызан з атрада Каржа таксама пайшлі да лініі фронту: камандзіры запаса даводзілі, што абавязаны выканаць воінскую прысягу, некаторыя спасылаліся на хваробы. Корж не ўтрымліваў іх. Ведаў, што толькі перакананыя ў поспеху партызанскай барацьбы таварышы сцерпяць усе нягоды і пакажуць сапраўдны гераізм. Але іх трэба захапіць баявымі дзеяннямі, здабыць зброю і боепрыпасы.

Васілю Захаравічу было крыўдна, што не здолеў пераканаць баявых таварышаў. Вайна толькі разгортвалася, а ўжо давялося столькі разам папакутаваць. Але ж былі, хоць і невялікія, удачы і перамогі. Настрой у гэтыя дні ў Каржа быў трохі маркотны і нават лірычны. У той самай Tagebuch ён занатаваў: «Сам узяў адзінаццаць чалавек і на лодцы пераплылі ў другі раён, астатнія засталіся на месцы, бо лодка не магла ўсіх змясціць. Фурманку пакінулі дзеду. Прыбылі ў другі раён. Урочышча Бейкава горка. Ноч ціхая. Крычалі жураўлі».

Камандзір глядзеў у асенняе зорнае неба, слухаў трывожны жураўліны крык і думаў пра заўтрашні дзень: які ён будзе? Што прынясе?

Васіль Захаравіч вырашыў узяць пад кантроль дарогу на Жыткавічы. Адну групу ўзначаліў сам, другую — Рыгор Карасёў. Залёгшы ў прыдарожных кустах, здымалі матацыклістаў, абстрэльвалі машыны, на якіх ехалі салдаты і афіцэры, здабывалі зброю, патроны і гранаты. Сярод трафеяў было некалькі афіцэрскіх мундзіраў. Нейкі гарачы хлопец наступіў на крысо аднаго — хацеў падраць на парцянкі.

— Не чапай! — закрычаў Корж,— Усё пачысціць, схаваць, каб і парушынка не прыліпла.

Не маглі ўцяміць партызаны, навошта камандзіру спатрэбілася гэтая ненавісная форма.

Праз разведчыц з рыбгаса «Белае» ўдалося здабыць радыёпрыёмнік. Яго ў свой час схавалі і ахвотна перадалі атраду Якаў Васільевіч і Стэфанія Васільеўна Карпукі,

— Гэтая зброя будзе біць не горш за аўтаматы і кулямёты,— радаваўся Корж, а Саша Бярковіч ужо корпаўся ў батарэях, круціў ручкі настройкі. Блізарукі, не вельмі спрытны, сам узлез на сасну і замацаваў антэну. Праз некалькі хвілін у лясным гушчары партызаны пачулі: «Гаворыць Масква. Ад Савецкага Інфармбюро...»

Радасці не было межаў, хлопцы падкідвалі шапкі, абдымаліся, штурхалі адзін аднаго: «Масква гаворыць! Чуеш, Мас-ква!»

— Цішэй вы! Сціхніце,— сунімалі больш стрыманыя. А Саша Бяркові круціў ручкі, каб абмінуць староннi шум і папіскванне нейкіх недалёкіх рацый.

— От каб яшчэ здабыць перадатчык,— марыў Саша.

— А ты ў ім што-небудзь разумееш?

— Разбяруся.

— Пацярпі, Саша. Хутка будзем Маскве дакладваць пра свае справы,— ласкава паляпаў па плячы Васіль Захаравіч былога камсамольскага важака.

Трохі агледзеўшыся, Корж з групаю коннікаў праехаў па вёсках Жыткавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў. У некаторых паселішчах фашысты спрабавалі стварыць паліцыю, але дарэмна — жадаючых не знайшлося, а на каго вельмі насядалі, тыя ўцякалі ў лес, хаваліся, шукалі сцежак да партызан.

Удзельнікаў партызанскага рэйда радасна сустракалі старыя і малыя, распытвалі, дзе ідуць баі, пераконваліся, што немцы брэшуць пра поўны разгром Чырвонай Арміі, што яны ўжо занялі Маскву. Сустрэчы з партызанамі ператвараліся ў сапраўдныя мітынгі: Корж зачытваў апошнія зводкі Савецкага Інфармбюро, зварот Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Людзі бачылі сілу партызан, верылі, што недзе побач, у лясных нетрах жывуць і ваююць іх абаронцы, прадстаўнікі Савецкай улады.

Корж проста, на зразумелай кожнаму палешуку мове, заклікаў дапамагаць Чырвонай Арміі і партызанам, не даваць ворагу ні калiва, ні бульбіны, ісці ў лес і разам змагацца за хутчэйшае вызваленне. І папярэджваў — кожнага здрадніка чакае суровая, заслужаная кара.

Жанчыны прыносілі партызанам хлеб, гладышы малака, бялізну, кужэльныя паскі: «Барані божа каторага параніць, дык хоць будзе чым перавязацца».

А ў Ляхавічах два дзяды прызналіся, што трымаюць у лесе 130 калгасных кароў і збожжа хаваюць у лясных спратах. Расказалі, як адшукаць іх лагер, і запрасілі партызан у госці. Часцяком завітвалі Камароўцы да добраахвотных ахоўнікаў калгаснага дабра Рыгора Антонавіча Мусіка і Рыгора Пятровіча Давідовіча. Дзяды ведалі кожную лясную сцежку, што вяла да бітых гасцінцаў, расказвалі, куды і колькі прайшло варожых салдат, чым узброеныя, дзе спыніліся.

— Толькі старайцеся, хлопчыкі, біць фрыцаў далей ад вёсак,— папярэджваў Рыгор Антонавіч,— Бо за кожны стрэл каля сяла гэтыя нелюдзі нішчаць усіх чыста. Наздзекуюцца, пастраляюць і курадымам усё пускаюць.

Камандзір атрада думаў, як засцерагчы людзей ад здзекаў і знішчэння. Таму для кожнай аперацыі выбіралі найбольш бязлюднае месца, далёкае ад вёсак і хутароў.

З лагера Мусіка і Давідовіча партызаны прайшлі 26 кіламетраў і зрабілі прывал каля дарогі з Лунінца на Жыткавічы.

16 верасня Васіль Захаравіч занатаваў у сваім дзённіку:

«На досвітку наша група падрэзала слупы дазорнай вышкі. Таму, што з яе далёка відаць, немцы назіралі адтуль за ўсім наваколлем. Людзі слупы і дошкі з тае вышкі расцягнулі на дровы, а ямкі зараўнялі, каб і знаку не было».

Аператыўныя групы вялі разведку ў нямецкіх і паліцэйскіх гарнізонах, высочвалі фашысцкіх паслугачоў, і яны непрыкметна знікалі. А камандзір ездзіў у суседні атрад дамаўляцца пра сумесныя баявыя дзеянні. Ён разумеў, што толькі буйнымі сіламі можна наносіць сур'ёзныя ўдары ворагу.

«Канчаткова дамовіўшыся пра сумесныя дзеянні, увечары паехаў у свой атрад. Прыбыў на месца ў гадзіну ночы»,— запісаў Васіль Захаравіч у сваім дзённіку 30 верасня 1941 года.

Рэха партызанскіх стрэлаў кацілася з сяла ў сяло. Людзі расказвалі, што партызаны з'яўляюцца нечаканна там, дзе захочуць, што іх у тутэйшых лясах вялікая сіла. Гэта разумна і спрытна манеўрыравала група Камарова, караючы ворагаў і абнадзейваючы людзей.

Вялікія атрады карнікаў прачэсвалі жыткавіцкія лясы, а партызаны тым часам абышлі іх звярынымі сцежкамі і з'явіліся ў Мікашэвічах, адкуль толькі што выступілі ўсе эсэсаўцы і паліцаі лавіць камароўцаў.

У Мікашэвічах партызаны забралі ў начальніка паліцыі пячаткі, розныя бланкі і дакладную вышэйшаму камандаванню аб барацьбе з партызанамі, а ў дадатак забралі і самога начальніка.

## «МАСКАРАД»

Насоўвалася восень. Імжа і дробныя дажджы праціналі да касцей. Шамацела апалае лісце, свісціліся пушчы і прыдарожныя кусты. Няўтульна і золка было ў звільжэлым асеннім лесе. Кашлялі і тэмпературылі прастуджаныя партызаны. Ратаваліся кіпетнем ды грэлі бакі каля начных вогнішчаў.

Спахмурнеў камандзір, не ведаючы, як ратаваць хворых. І якраз успомніў, што Эдзік Нордман нібыта вучыўся ў медыцынскім вучылішчы. Падышоў да маленькага, схуднелага камсамольца:

— Чаму ж ты, доктар Нордман, не лечыш людзей і ўтойваеш сваю спецыяльнасць? — знарок сурова спытаў камандзір.

— Які з мяне доктар, Васіль Захаравіч? Два курсы Гомельскага медвучылішча. Банкі ды гарчычнікі толькі і навучыўся ставіць...

— Вось што, Эдзік, хлопцы ў мікашэвіцкага ветэрынара прыхапілі нейкія медыкаменты. Дык ты разбярыся, што ад чаго. А то ад кашлю слабіцельнае пачнуць прымаць. Ну, і сачы, каб каторы конскую дозу не хапіў. Агледзь хлопцаў: Ваня Чуклай яварам палае, Саша хрыпіць, як кавальскі мех. Адным словам, бярыся за работу, доктар Нордман.

— Ёсць, быць доктарам, таварыш камандзір! — з усмешкаю адрапартаваў Нордман.

Эдуард драбніў таблеткі, успамінаў дозы і дзяліў парашкі, з купальнага палатна выкройваў бінты і, як умеў, лячыў таварышаў.

Рэдка перанадалі пагодныя дні: дзень і ноч ліў дождж. Набраклі балоты, распаўзліся дарогі, выйшлі з берагоў палескія рэчкі. Здавалася, туман ахутаў увесь свет. Такая слата — гора, а часцей — ратунак для партызана. Пад навіссю туману і дажджу, пераскокваючы з купіны на купіну, атрад Камарова выправіўся ў старобінскія лясы.

Неўзабаве падышлі да Случы. На плыткіх берагах шамацела сухое трысцё, дробныя халодныя хвалі плёскаліся ў паніклым аеры. Абышлі ўвесь бераг — нідзе ні лодкі, ні чоўна. А за ракою — прыціхла невялічкая вёска, на пяску чарнеюць перавернутыя вялікія лодкі.

— Бачыць вока, ды дастаць далёка,— прамармытаў Корж.

— Не так і далёка, Васіль Захаравіч,— спакойна паглядзеў на сівыя хвалі Ваня Чуклай.

— Ды яму і Волга да калена, таварыш камандзір,— пажартаваў Віктар Ліфанцьеў.— А калі сур'ёзна, дык ёсць план: мы з Ванем распранаемся, пераплываем на той бок і прыганяем дзве лодкі.

— Адубееце, чэрці! І доктар Нордман конскімі пілюлямі не паможа... Вось што, хлопцы, бярыце плашч-палатку і самую доўгую вяроўку,— загадаў камандзір.

Ліфанцьеў усё прынёс, яшчэ не разумеючы навошта.

— А цяпер распранайцеся. Адзежу добра закруціце ў палатку... Ды не так, не так. Каб вада нідзе не прасачылася. Вяроўку прывяжыце да грудзей і плывіце. Як толькі выскачыце на бераг, разатрыце добра адзін аднаго — і хутчэй апранацца. Знайдзіце вёслы і плывіце сюды.

Хвілін праз дваццаць да берага прысталі дзве вялікія лодкі. Пасінелым, у гусіных пупышках камсамольцам Васіль Захаравіч наліў па

добраму глытку трафейнага спірту і загадаў «бегаць да дзесятага поту».

На світанні атрад пераправіўся ў Старобінскі раён. Непадалёк былі родныя мясціны Васіля Захаравіча. Тут ён у дваццатыя гады ўзначальваў камуну, быў старшынёй калгаса, тут яго прымалі ў партыю. Амаль усіх ведаў Корж у суседніх вёсках. Гэта было і добра і небяспечна.

Да вайны ўсе здаваліся добрымі людзьмі: гаварылі правільныя прамовы, выконвалі абавязкі, ветліва ўсміхаліся і гасцінна частавалі таварышаў з раёна. А навалілася бяда, і сёй-той з тых гасцінных «прамоўцаў», з непрыкметных і ціхіх няўдачнікаў па-воўчы ашчэрыўся на сваіх. Вось і прыглядайся, хто друг, а па кім асіна плача.

Значыць, трэба звязацца з мясцовымі таварышамі.

Чуў Корж, што на Старобіншчыне Мінскі падпольны абком партыі стварыў атрад. Камандуе ім Васіль Меркуль. Але дзейнічае атрад пакуль што асцярожна. Корж даўно марыў аб'яднаць асобныя атрады, каб вораг адчуў сілу партызанскіх удараў. Наспеў час разгортваць масавую партызанскую барацьбу з гітлераўцамі, каб утрымаць у тыле як мага больш варожых сіл і знішчаць іх нечакана і бязлітасна. Трэба адкрыць сапраўдны другі фронт на часова захопленай тэрыторыі.

Золкімі бяссоннымі начамі пра многае ўспомніў, многае перадумаў Васіль Захаравіч. Засмучала яго, што некаторыя таварышы пакінулі атрад і пайшлі за лінію фронту. Ці дойдуць? Дакараў сябе, што не вельмі ўважліва падбіраў людзей. Дзівіўся, як яны не разумеюць, што тут кожны партызан варты цэлага ўзвода. Вось узарвалі машыну, і на фронт не дайшло 20 галаварэзаў. А калі пусціць пад адхон састаў з танкамі і жывою сілаю? У апошні час думка пра варожыя эшалоны не давала яму спакою.

Неўзабаве Камароўцы адшукалі атрад Меркуля і сустрэліся без «парламенцёраў» і ўзаемных праверак: Васіля Захаравіча тут ведаў кожны, а слава камароўцаў дакацілася да самых далёкіх вёсак і глухіх лесНічовак.

Сустрэча ўзрадавала партызан. Хлопцы частаваліся самасадам, распытвалі адзін аднаго, расказвалі пра агульных знаёмых. Камандзіры адышлі ў хвойнічак і пачалі меркаваць, як ім дзейнічаць супольна.

Праз колькі дзён у трэскі пачалі разлятацца масткі і грэблі, на дарогах запалалі варожыя грузавікі, паляцелі ў кюветы матацыклы. А з сяла ў сяло пакацілася пагалоска, што ў раёне з'явілася цэлая партызанская армія, узброеная гарматамі і кулямётамі. Партызанскія аперацыі ўсцешылі людзей у навакольных вёсках. Моладзь здабывала зброю і знаходзіла сцежкі да народных мсціўцаў.

7 лістапада ў лясных буданах прагучалі ўрачыстыя ўдары Крамлёўскіх курантаў, чуўся гул крокаў і цокат капытоў па Краснай плошчы.

Саша Бярковіч прынік да прыёмніка і пачаў ліхаманкава запісваць кожнае слова святочнай прамовы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага: «Браты і сёстры ў тыле нашага ворага, часова трапіўшыя пад прыгнёт нямецкіх разбойнікаў, нашы слаўныя партызаны і партызанкі, якія разбураюць тылы нямецкіх захопнікаў... Вораг разлічваў, што пасля маланкавага ўдару яму ўдасца разграміць нашу армію. Але нягледзячы на часовыя няўдачы, наша армія гераічна адстойвае нашу краіну, і планы ворага рухнулі... Хіба можна сумнявацца ў тым, што мы пермажам! Не такая страшная нямецкая армія, як пра яе гавораць, не такі страшны чорт, як яго малююць... Нямецка-фашысцкія захопнікі стаяць перад катастрофай...»

Нехта не ўтрымаўся:

— Во дзе праўда!

— Ц-с-с! Змоўкні! — суцішылі яго і ўслухоўваліся ў спакойныя словы: «Таварышы чырвонаармейцы і чырвонафлотцы, партызаны і партызанкі! На вас глядзіць увесь свет, як на сілу, здольную знішчыць рабаўнічыя полчышчы нямецкіх захопнікаў... Вялікая вызваленчая місія выпала на вашу долю. Будзьце ж вартыя гэтай місіі! Вайна, якую вы вядзеце, ёсць вайна вызваленчая, вайна справядлівая».

Пасля перадачы дзесяткі партызан перапісалі тэкст прамовы і панеслі яе па сёлах як надзейную і вострую зброю. А Васіль Захаравіч з новым камандзірам Старобінскага атрада Мікітам Іванавічам Бандараўцом думалі, які паднесці падарунак фрыцам да Кастрычніцкай гадавіны, як тут, у глыбокім тыле, адзначыць вялікае свята.

Восьмага лістапада Камароўцы ўварваліся ў Міхнавічы і з ходу разграмілі нямецкі гарнізон. Каму пашэнціла размінуцца з партызанскаю куляю, той так урэзаў з сяла, што след прастыў да канца вайны.

Жанкі, старыя і дзеці радасна сустракалі партызан.

— Прыходзьце, таварышы, у школу, там і пагаворым,— запрашаў Васіль Захаравіч вяскоўцаў.

Салдаткі і партызанскія маці ішлі побач з камандзірам, перабіваючы адна адну, расказвалі пра свае пакуты, пра здзекі фашыстаў. Усіх гняла адна бяда, у кожнай было сваё гора.

Калі населі і сцішыліся, Васіль Захаравіч загаварыў спакойна і разважліва, нібы пачаў гаворку дома, са сваёй сям'ёй.

— Ніхто з нас, не думаў, дарагія таварышы, што прыйдзецца сёлета нам святкаваць Кастрычнік у такой бядзе, як цяпер. Цяжка

нам. Вялікія страты панесла наша краіна. Многіх і многае прыйдзецца страціць яшчэ. Але перамога будзе за намі. Прыйдзе свята і на нашу вуліцу. Калі б мы не былі ўпэўнены ў гэтым, не варта было б так ваяваць, як цяпер ваюе наша слаўная Чырвоная Армія. Вораг будзе разбіты і знішчаны там, адкуль ён прыпоўз. От пабачыце! Як кажуць, куранят увосень лічаць, а бітых фашыстаў кожны дзень. Колькі мы сёння іх тут налузалі?! І так будзе з кожным, хто прынёс нашаму народу гора. Пра нязломнасць нашага народа, пра тое, што перамога будзе за намі гаварыў учора ў Маскве, на Краснай плошчы Галоўнакамандуючы...

Апошняе слова заглушылі доўгія воплескі. Яны часта ўспыхвалі ў настылым, з абшарпанымі сценамі класе, пакуль Мікіта Бандэравец чытаў тэкст учарашняй прамовы Вярхоўнага Галоўнакамандуючага.

Да стала праціснуўся русявы хлопец у закарэлым палапленым кажушку.

— Таварыш камандзір і ўсе партызаны! Нас тутака трынаццаць хлопцаў. Можна сказаць, чортаў тузін. Дык нас ужо колькі дзён жывасілам гоняць у паліцыю. Але трасцу! Во ім! Сёння пашанцавала, а заўтра, калі не пастраляюць, дык звязуць у сваю Нямчурню ці, як пыл з дзяружкі, душу выб'юць з-пад рэбраў. Ра-туй-це, таварышы! — ал« закрычаў хлопец.— Вінтоўкамі і патронамі мы трохі разжыліся. Васьмёра камсамольцаў, пяцёра — беспартыйныя бальшавікі. Адным словам, чым прыйдзе больш у лес, тым горай для эс-эс.

— Малайцы, хлопцы! Як, таварышы, вартыя яны быць чырвонымі партызанамі? Ніхто не загнюсіў душу гітлераўскім смуродам?

— Бярыце. Не ашукаецеся. Совесныя хлопцы! — адказвала людское рознагалоссе.

Паднялася высокая сухая жанчына. Глыбока запалыя вочы здаваліся чорнымі шчылінамі, тонкія вусны ледзьве варушыліся, а голас быў асіплы і грубы:

— Мы б усе падаліся ў лес. Кінулі б, рынулі б усё дашчэнту, абы толькі душу ўратаваць. Дык хіба ж пойдзеш? Гэтыя во зіркатыя ды макраносыя папрыкіпалі нас да хаты і не пускаюць. Можа, і горай яно будзе: пастраляць могуць усіх, але ж і ў лесе ім зіму не вытрымаць — пазаходзяцца, не раўнуючы як тыя каравякі на марозе. А што да хлопцаў? Дык хлопцы вартыя, совесныя, савецкія хлопцы. Бярыце, не пашкадуеце... Ды некаму ж і вас карміць трэба. Праўду я калеў, га? Так што сядзецьмем, пакуль усіх гітлераў не выб'еце чыста. А вы біце, не шкадуйце іх, гадаў.

Пасля мітынгу камароўцаў запрашалі вячэраць, частавалі, чым толькі былі багатыя, што ўдалося прыхаваць ад фашысцкіх «выбі-

валаў». Васіль Захаравіч папярэджваў сваіх хлопцаў: «Глядзіце мне. Ні-ні! Ні грама». Некаторыя скардзіліся на прастуду і прасілі дазволу хоць трохі «падлячыцца».

— Свята ж, таварыш камандзір, дазвольце хоць па маленькай.

— Ёсць загад — ні грама і ніякіх прастуд. А то накрыюць фрыцы цёпленькіх, вось тады і пасвяткуеце. Трыццаць хвілін на пачастунак і ніводнай секунды болей.

У атрадзе быў сухі закон. Корж любіў паўтараць: «Ад гарэлкі розум мелкі, а цвярозы мае спрыт і розум». Толькі адубелым у разведцы ці сапраўды хворым сам камандзір часам наліваў сто грамаў.

Праз паўгадзіны атрад сабраўся на аселіцы Міхлавіч. Пад нагамі ўгіналіся храпкі падшэрхлай зямлі, заінелі платы, пачарнелыя ад сцюжы вяргіні і мальвы. Атрад вялі мясцовыя хлопцы толькі ім вядомымі сцежкамі.

У змроку выйшлі на луг каля Паварчыц. Нібыта казачныя шаломы, цямнелі стагі.

— Сяліцеся, хлопчыкі, кожнаму асобная кватэра: зацішна, мякка і мухі не кусаюць. Дазоры маскіруюцца каля стагоў,— сказаў Васіль Захаравіч і пачаў раскопваць сабе нару пад вялікім мурожным стогам.

Месячная ноч была халодная. Атава зіхацела срабрыстай шэранню, ад стагоў падалі доўгія цені, і ў іх хаваліся дазорцы.

Васілю Захаравічу прыгадалася, як у дзяцінстве ездзіў з хлопцамі на начлег, як дурэлі і расказвалі страшныя казкі, лежачы на кажушках каля зыркіх вогнішчаў. Прыпомнілася дружная працавітая сям'я. Даўно ўжо няма ні таты, ні мамы, ні мудрага дзеда Рыгора.

З Паварчыц даносіліся бязладныя стрэлы ды сабачы брэх. Часам загараліся ракеты, залiваючы хісткім святлом усё наваколле. «Значыць, баяцца. Палахлівы вартаўнік заўсёды мацней грукае ў калатушку і крычыць, каб смялей было. Няхай сабе пастрэльваюць. Да раніцы абрыдзее»,— думаў у сваёй утульнай нары Васіль Захаравіч, правальваючыся ў чуйную дрымоту.

У чатыры гадзіны раніцы вылез з цёплае нары. Месяц зайшоў за чорныя зубцы бору. На небе міргцелі вялікія колкія зоркі, марознае паветра дыхнула бадзёрасцю. Камандзір асцярожна і ласкава пачаў будзіць сваіх байцоў. Пад стогам знайшоў скурчанага заінелага Эдуарда Нордмана.

— Што, доктар, загартоўваешся?

— Вінаваты, Васіль Захаравіч, не дапоўз да нары. Сон змарыў.

— А ну, бягом да таго стога з падпоркаю і назад. Бегай, пакуль не ўпарышся... Немцы і паліцаі ўсю ноч нас вартавалі, а цяпер змарыліся. Чуеш, як ціха ў Паварчыцах?

Праз падшэрхлае балотца атрад вёў мясцовы жыхар. Ён ведаў кожную хату ў вёсцы, імя і прозвішча старога і малога. Спыніліся каля першага дома, паціху пастукалі. Да шыбіны прытулілася жаночае аблічча.

— Агата, будзі Саўку. Хутчэй толькі. Начальства патрабуе,— сказаў сусед.

— А ён у адрыне. Толькі пад раніцу прылёг.

Саўку абяззброілі і ўзялі ў абдымкі, што ён і ачухацца не паспеў.

Па вуліцы, поплеч з ім ішлі Камароўцы з паліцыянцкімі нарукаўнікамі. Перапалоханы Саўка будзіў сваіх «бобікаў». Тыя, распатланыя і заспаныя, у адных сподніках, адразу траплялі да партызан. Перапалоханыя паліцаі высыпалі патроны, аддавалі вінтоўкі і бадаліся, што іх сілком прымусілі ўзяць зброю супраць сваіх.

Двое спрабавалі ўцячы, але далёка не адбегліся. Пачуўшы стрэлы, заварушыліся паліцаі на другім канцы Паварчыц: будзілі адзін аднаго і з вінтоўкамі выскаквалі з хат. Там выпадкова апынуўся Эдзік Нордман. Убачыўшы, што проста на яго бягуць два паліцаі, Эдзік скамандаваў:

— Стой! Кідай зброю, а то зараз прыстрэлю! Хлопцы, сюды!

Ашаломленыя нечаканай «засадай», паліцаі пакідалі вінтоўкі і патранташы, а калі пераканаліся, што апрача невялічкага хлопца з аўтаматам паблізу нікога няма, ірванулі куды каторы. Нордман пачапіў на плячо вінтоўкі і пайшоў да сваіх.

— Глядзіце, глядзіце, хлопцы, як узброіўся Эдзік,— зарагатаў Чуклай.— Ну ж і дасць табе камандзір. Куды адбіўся ад сваіх?

А Васіль Захаравіч абняў і пахваліў кемлівага партызана.

У той жа дзень была ліквідавана фашысцкая паліцыя ў саўгасе «Плянта». Дапамагаў партызанам мясцовы чалавек Пятро Быкаў. Фрыцы спрабавалі яго прымусіць служыць «новаму парадку», выклікалі ў раённую паліцыю, а ён усяляк выкручваўся. Потым прыйшоў у атрад Камарова, расказаў пра сваю бяду і прывёў партызан у саўгас.

Каб не наклікаць кары на сям'ю Быкава, яму для прыклёпу звязалі рукі, штурхалі руляю вінтоўкі, а жонцы яго параілі мацней галасіць. І яна выдатна выканала гэтую ролю.

Партызан акружылі ўсе сяляне, распытвалі пра навіны на фронце. У адказ Васіль Захаравіч прачытаў прамову Галоўнакамандуючага ў дзень 24-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Людзі рада-

валіся, што Масква наша, што Чырвоная Армія гераічна змагаецца з ворагам.

Сілком загнаныя ў паліцыю радаваліся, што іх раззброілі, і пачалі прасіцца ў атрад. Васіль Захаравіч да кожнага ўважліва прыглядаўся, з кожным сам гаварыў і, калі пераконваўся ў шчырасці хлопца, казаў: «Добра. Звяжам табе рух«, патузаем трохі і забяром у атрад».

— Навошта звязваць, таварыш камандзір? Я сам пабягу.

— Ну і дурань, калі пабяжыш. А пра бацькоў, пра жонку, пра дзяцей падумаў? Ты пабяжыш, а іх на шыбеніцу павалакуць. Звязанага павядзём,— немцы ім яшчэ і паспагадаюць.

Васіль Захаравіч да кожнага пільна прыглядаўся, з кожным гутарыў, распытваў пра сям'ю, сваякоў, пра ранейшую работу. Партызаны дзівіліся, што камандзір наскрозь бачыць кожнага чалавека: яму не схлусіш, ад яго не затоішся. А Корж часта дакараў сябе, што ў самым пачатку паспешліва падбіраў людзей у атрад: многія не вытрымалі нягодаў партызанскага жыцця і падаліся на ўсход. Што ж, і гэта някепска. Калі дабяруцца да сваіх, будуць біць гітлераўцаў там. І суцяшаўся, што ў атрадзе ўсё ж не было ніводнага здрадніка і баязліўца.

З саўгаса ішлі ўзлессем, залітым святлом месяца. Доўгія цені падвойвалі партызанскі строй, і здалёк здавалася, што ідзе цэлая партызанская армія.

Паваліў густы снег. Сцежку таптаў камандзір. Ён часам спыняўся, прапускаў наперад атрад і прыглядаўся, ці добра завея зараўняла сляды. Бег наперад, падбадзёрваў зморраных байцоў і вёў далей атрад па цаліку.

На досвітку падышлі да маленькай вёсачкі Стамагілы. У суседнім сяле Чыжэвічы стаяў вялікі нямецкі гарнізон. На левы бераг Случы пераправіцца трэба непрыкметна і хутка. Паблізу няма пі мастоў, ні лодак. Усе глядзелі з надзеяй на камандзіра: да чаго дадумаецца? Што загадае?

— Вёску заняць без адзінага стрэлу. Сабраць колькі можна вяровак і дроту. Групе Чуклая разабраць свіран, што стаіць бліжэй да ракі. Аперацыю правесці за сорак хвілін.

Работа закіпела. На бераг падкочвалі бярвенні, прыносілі вяроўкі, лейцы, скруткі дроту. Васіль Захаравіч спрытна вязаў плыты. На першым пераправілі два кулямёты і паставілі іх на тым беразе, каб можна было прыкрыць пераправу астатніх.

Плылі плыт за плытом. Іх цягнулі за абледзянелыя вяроўкі — смылелі паабдзіраныя далоні, у ботах хлюпала настылая вада.

Апошнім пераправіўся камандзір і зноў павёў атрад па лясных сцежках. Мяцеліца засцілала сляды.

Так і не дазналіся немцы, што ў іх над носам пераправіўся атрад Камарова, які яны так упарта шукалі. Толькі дзівіліся ўсе, куды дзеўся свіран і адкуль да таго берага прыбіліся плыты?

На базу трапілі толькі надвячоркам. У гушчары стаялі замеценыя снегам буданы з сена і яловага лапніку, датлявалі вогнішчы, у вялікім катле булькала і дражніла спакуслівым пахам бульбяная паліўка. Саша Бяркові адразу перадаў камандзіру апошнія зводкі Савінфармбюро, а Грыша Карасёў пазнаёміў з новым папаўненнем.

— Гаўрыла Сцешыц.

— Трахім Рудзеня.

— Філановіч.

І яшчэ чалавек з дзесяць іх баявых сяброў. Усе былі мясцовыя, старобінскія, і партызанілі невялічкай групай. Яны ведалі ўсіх у навакольных вёсках, падтрымлівалі сувязь з надзейнымі людзьмі, якіх наслалі «служыць» у паліцыю і раённую ўправу.

А Саша Бяркові у суседніх вёсках стварыў некалькі камсамольскіх арганізацый і груп, надабраў надзейных разведчыкаў і сувязных.

— Дзе збіраешся райком адкрыць?— пажартаваў Васіль Захаравіч.

— Пачакайце, і райком будзе. Няхай падпольны, але райком. Людзі гатовы змагацца з акупантамі.

Камандзір радаваўся, што расце і загартоўваецца ў баях атрад, што хлопцы становяцца добрымі арганізатарамі. Абышоў лагер, агледзеў буданы з лапніку і сена. У іх не перазімуеш. Трэба ўсталёўвацца, каб было цёпла і зручна. І звярнуўся да Сцешыца:

— Як лічыш, Гаўрыла Пятровіч, знойдзем непадалёк добрае месца?

— Я ўжо нагледзеў у Вялікім лесе сухі ўзгорак. Падысці туды нялёгка, а з яго ўсё добра відаць,— адказаў разважлівы Сцешыц.

Узгорак у Вялікім лесе сапраўды быў вельмі зручны: крутыя схілы зараслі густым ельнікам, за ім пачыналіся балоты і лясныя азярынкі. Неўзабаве на ўзгорку выкапалі і абсталявалі дзве прасторныя зямлянкі, злучылі іх ходамі, вакол лагера пракапалі акопы, а выкінуты пясок разраўнялі і прыцерушылі снегам: падыдзеш да самага ўзгорка і нічога не заўважыш.

Партызаны рабілі пары, усталёўваліся грунтоўна, нават думалі пра лазню. Памыцца даводзілася не часта, таму многія чухаліся, трэслі над вогнішчамі споднія кашулі.

Камароўцы і старобінскія хлопцы разам хадзілі на заданні: разжываліся вінтоўкамі, патронамі ў разгромленых гарнізонах, прыносілі харчы і нават паліцэйскія нарукаўнікі. Адны думалі, што камандзір збірае іх для больш дакладнага ўліку, іншыя лічылі гэта дзівацтвам Каржа.

Ноччу Васіль Захаравіч паклікаў Бандараўца, Меркуля, Сцешыца, Карасёва, Нордмана і Чуклая і расказаў пра свой намер разграміць варожыя гарнізоны ў Забароддзі, Чырвоным возеры і ў Осаве.

— План, як бачыце, просты, але і рызыкоўны. Патрэбна жалезная вытрымка, спакой і кемлівасць у самых непрадбачаных сітуацыях.

— От гэта здорава, Васіль Захаравіч. Як у кіно,— заіскрыліся гарэзлівыя вочы Нордмана.

— І ў гэтым кіно табе прыйдзецца выконваць галоўную ролю.— Корж уважліва глядзеў на невысокага зграбнага Эдзіка.

— Які з мяне артыст? Няхай лепей Ваня. Ён большы за мяне.

— Ваня не падыдзе. А ты з паўсотні нямецкіх слоў ведаеш і... аблічам інтэлігентней выглядаеш. Што ні кажы — «без пяці хвілін дохтур».

— Усё жартуеце, Васіль Захаравіч. Ад гэтай кайстры з конскімі таблеткамі ў мяне ўсе бакі ў сіняках,— прызнаўся Нордман.

— Вось што, хлопцы, пакуль не выйдзем на аперацыю, нікому — ні слова. Усіх трэба надзяліць на групы па 4—5 чалавек. Адзежу і амуніцыю падагнаць, каб і камар носа не ўтачыў.

На тым і разышліся.

На дасвецці адзінаццатага лістапада, ацярэбленыя ад ігліцы і пяску, з белымі паліцэйскімі перавязямі на рукавах, партызаны пакідалі лагер. У добра наглянцаваных афіцэрскіх ботах, у зграбным шынялі з пакручастымі срэбнымі пагончыкамі паперадзе важна ішоў Эдзік Нордман, мармытаў нейкія нямецкія словы, ляскаў па халяве стэкам, то сасмыкваў, то нацягваў тугія скураныя пальчаткі.

Хлопцы пазіралі на яго і ледзьве стрымлівалі рогат.

— Ну, артыст! Чысты Фрыц, га? — дзівіўся Іван Чуклай.— Не, так у мяне не выйдзе.

— Можа, і сапраўды Фрыц. Прозвішча ж не наша,— азваўся хлопец са старобінскага атрада.

— Сам ты Фрыц. З дзіцячага дому ён. А прозвішча яго цяпер Севераў,— запярэчыў Чуклай.

— Ён такі Севераў, як ты Іваноў,— не сунімаўся старобінскі.

— А як жа, я і ёсць Іваноў.

У ранішнім змроку падышлі да Заброддзя. Мясцовыя хлопцы павялі партызан да хат, у якіх спалі паліцаі.

Корж з «камендантам» спыніліся каля дома солтыса і пастукалі ў шыбу. Убачыўшы высокае начальства, солтыс кінуўся ў сенцы, загрымела завала, шырока расчыніліся дзверы.

— Проша, проша, паночкі,— мармытаў разгублены солтыс. А раз'юшаны «камендант» нешта крычаў па-нямецку. Калі выкрычаўся, «перакладчык» пераказаў солтысу, чым абураны пан «камендант».

— Дайдакуеце тут, абібокі і здраднікі! Самагонку смокчаце ды спіце да паўдня, а партызаны, што хочуць, тое і робяць у вас пад носам. Мы прыехалі на барацьбу з гэтымі бандытамі. Пан камендант загадвае зараз жа на трывозе сабраць усіх паліцэйскіх. На зборы даю дваццаць хвілін.

— Я, я, цванціг мінутэн,— пастукаў па шкельцу гадзінніка «камендант».

Солтыс засоўваў калашыны штаноў у шырокія халявы, нацягваў суконны курцік і ніяк не мог уцэліць у рукаў, мітусіўся і мармытаў:

— Я іх ментам падыму, панове. У тую ж хвілю. Што з імі зробіш: жлукцяць пяршак, па ўдовах валочацца ды спяць да паўдня. Хоць бы вы іх трохі прыструнілі. Не слухаюцца, басата!

— Пра-ву-чым! Таму і прыехалі,— суцешыў солтыса суровы «перакладчык», і яны ўтрох найшлі ўздоўж вуліцы. Солтыс грукаў у вокны і загадваў: «Пан камендант патрабуе зараз жа на збор. Пры поўнай баявой. Хутчэй, хутчэй, лежні!» І ішоў да наступнай хаты. А заспаны паліцай, падпяразваючыся на хаду, адразу з парога трапляў у абдымкі да партызан, узнімаў угору рукі і, калоцячыся, енчыў: «Браточкі, не сіраціце дзетак. Не сам я, дальбог, не сам. Сілком, гады, загналі».

Раптам у апошняй паліцэйскай хаце грымнуў стрэл, пачуліся крыкі і валтузня. Корж перадаў солтыса «каменданту», а сам кінуўся ў хату. На падлозе качаліся партызаны Сымон Данілевіч і Раман Быкаў, а з-пад іх вылузваўся здаравенны паліцай і крычаў жонцы: «Сякераю іх, сякераю антыхрыстаў». Жанчыну на дрывотні перахапіў Нордман і паставіў побач з солтысам. А Корж так ухапіў паліцая за нос, што той за ім пабег, як цяля на павадку.

На світанні ўсіх паліцаяў у Заброддзі абяззброілі і ўзялі пад варту, вінтоўкі склалі на сані і рушылі ў вёску Чырвонае возера.

Пры дарозе ў калгасным гумне сяляне малацілі жыта. Афіцэра на чале атрада паліцаяў заўважыў солтыс, кінуўся насустрач, выцягнуўся і далажыў:

— Малоцім збожжа для адпраўкі вялікай Германіі.

«Камендант» крычаў нешта з падручніка для сямігодкі, а ў «перакладзе» гэта азначала:

— Пан камендант абураны вашай бяздзейнасцю. Каля вёскі арудуюць партызаны, а вы баіцеся з хаты нос высунуць. Колькі ў вас гэтых абібокаў? Зараз яга сабраць усіх і выйсці разам з нашым атрадам па барацьбу з лясными бандытамі.

— Вінаваты, пан камендант. Паліцэйскіх 28, а ўзброена толькі 20. Астатнія яшчэ не маюць вінтовак. Зараз усіх збяру ў школу.

— Вінтоўкі здасце, а замест іх атрымаеце аўтаматы,— кіўнуў Корж на фурманку са зброяю з Забароддзя.

Солтыс, як падмецены, ірвануўся збіраць у школу сваё «войска». Хутка ўсе былі ў вялікім класе. Каля сцен станавіліся прыезджыя «паліцаі».

Угневаны «камендант» падышоў да стала, нервова ляпаў па далоні скураною пальчаткаю і нешта крычаў.

— Пан камендант выказвае вам недавер,— «перакладаў» Корж.— Як вы дапусцілі такое мноства партызан у сваіх лясах? Сёння пачынаем рашучую аперацыю супраць бандытаў. Зараз жа строем ідзіце да калгаснага гумна, там замест гэтых ламачын атрымаеце новую аўтаматычную зброю і пакажаце, дзе хаваецца зброд нейкага там Камарова.

Унурыўшыся, паліцаі пайшлі да аселіцы. Там іх чакалі ўзброеныя людзі з белымі павязкамі на рукавах. Раптам «перакладчык» занепакоіўся: здалёк заўважыў Бандэраўца. Загадаў жа яму не вытыркацца да канца аперацыі. Мікіту Іванавіча — партыйнага работніка — у раёне ведаў, бадай, кожны. А ён, відаць, не ўтрымаўся. Тут яго і пазнаў хтосьці з чырвонаазёрскіх паліцаяў і памкнуўся ўцякаць. За ім кінуўся другі. Уцекачоў спынілі трапныя партызанскія стрэлы.

Раптам «камендант» голасна і выразна загадаў:

— Рукі ўгору, здраднікі! Скласці зброю! Усім лажыцца!

Камароўцы з белымі павязкамі імгненна абяззброілі паліцаяў, пазвязвалі ім рукі і паклалі на прыцярушаную снегам зямлю.

Стрэлы ў Чырвоным возеры напалохалі Осаўскую паліцыю, і яна рушыла на дапамогу сваім.

Метраў за трыста ад гумна паліцаі спыніліся і заляглі ў прыдарожнай канаве.

Корж на хвіліну задумаўся і ледзь чутна сказаў:

— Хадзем, Эдзік!

«Камендант», абыякава махаючы стэкам, ішоў праз поле да канавы. За ім падхалімскім трушком спяшаўся «перакладчык». Калі падышлі зусім блізка, ён загадаў, каб да іх наблізіўся адзін паліцэйскі.

Неўзабаве выпаўз даўгалыгі хлопец з вінтоўкаю ў руцэ і пайшоў насустрач да бяззбройнага «начальства».

— Пакладзі вінтоўку і падыдзі сюды,— спакойна сказаў перакладчык.

Паліцай паслухаўся. «Камендант» падаў яму руку, паляпаў па плячы і весела сказаў: «Паліцай гут, партызан капут!»

— Хлоп-цы! Давайце сюды! Свае. Пан камендант кліча.

З канавы выйшла васемнаццаць дзецюкоў... «Перакладчык» загадаў ім скласці зброю каля вінтоўкі «парламенцёра», падысці бліжэй і пастроіцца для праверкі.

Ад гумна падышлі дзесяць аўтаматчыкаў з белымі павязкамі на рукавах, сталі паміж вінтоўкамі і строем осаўскай паліцыі. «Камендант» у прыгожай кніжачцы, тым самым Tagebuch,пачаў запісваць прозвішчы паліцаяў. Па знаку Васіля Захаравіча партызаны паднялі аўтаматы.

— Ні з месца, здраднікі! Рукі ўгору! Звязаць і адвесці да тых выжлятнікаў,— загадаў Корж.

Партызаны спрытна выканалі загад камандзіра.

Паліцаяў рассартавалі па іх «заслугах». Тым, што не заплямілі сябе злачынствамі, далі магчымасць актыўна змагацца супраць захопнікаў. Многія з іх пачалі прасіцца ў атрад.

— Гэтае права трэба заслужыць сумленнай барацьбой з фашыстамі. Заслужыце — самі знойдзем і прымем у свае шэрагі.

Калгаснікаў і людзей, затрыманых на дарозе ў час аперацыі, партызаны запрасілі на мітынг.

Людзей набілася поўная школа. Ім чыталі матэрыялы ўрачыстага святкавання 24-й гадавіны Вялікага Кастрычніка ў Маскве, знаёмілі з апошнімі зводкамі, заклікалі кожнага пачынаць барацьбу з ворагам, усімі сродкамі дапамагаць народным мсціўцам.

— Мы з вамі, сябры, будзем святкаваць перамогу над фашызмам не толькі ў Маскве, не толькі ў кожным горадзе і калгасе, а і ў самім Берліне. Памятайце, што савецкі народ ніхто не перамагаў і не пераможа! — закончыў прамову партызанскі камандзір.

Калгаснікі пацiскалі рукі камароўцам, з замілаваннем разглядалі і слухалі вясёлага і гаваркога «каменданта».

Пасля мітынгу атрад строем рушыў у Осава. Корж з Нордмапам ішлі паперадзе, за імі — партызаны з белымі павязкамі на рукавах. Жонкі і сваякі паліцаяў выбеглі іх сустракаць, шукалі сваіх, пыталіся, дзе яны, ім няпэўна адказвалі: «Там» і тлумачылі, што ў страі гаварыць не дазваляецца.

А сумленныя сяляне туляліся за парканамі, паглядалі праз шчыліны з сянец і свіронкаў. «Перакладчык» загадаў сабраць усіх дарослых. Нехаця, трывожна азіраючыся, падыходзілі мужчыны, жанкі і падлеткі, хаваліся за нечыя спіны, тулілі да сябе дзяцей.

На складзеныя пры плоце бярвенні ўскочыў шыракатвары мужчына ў кароткай паддзёўцы і падняў руку. Усе сціхлі.

— Таварышы, вы палічылі нас фашысцкімі паслугачамі і памыліліся. Мы — чырвоныя партызаны, прадстаўнікі Савецкай улады і Камуністычнай партыі тут, на часова захопленай ворагам тэрыторыі.

Натоўп заварушыўся. Тыя, што туляліся за спінамі пярэдніх, працiскаліся бліжэй да прамоўцы.

— Здраднікі з Чырвонага возера, Заброддзя і Осава раззброены і арыштаваны. Тых, што здзекаваліся з савецкіх людзей, чакае суровая кара па законах ваеннага часу. Той, хто не запляміў сваё сумленне злачынствамі, будзе мець магчымасць давесці сваю адданасць Радзіме і савецкаму народу. Апраўдаць давер магчыма толькі самаахвярнай барацьбой з ненавіснымі фашыстамі. Яны разбураюць нашы гарады, паляць вёскі, забіваюць сумленных людзей, здзекуюцца з нашых жонак, сясцёр і дачок. Трэба стварыць такія ўмовы, каб ні ўдзень, ні ўночы ворагі не ведалі спакою.

Сёння яны застрэлілі твайго суседа, а заўтра навесяць цябе. Здабывайце зброю, ідзіце ў лясы, бараніце сябе, сваіх бацькоў і дзяцей, нашу Радзіму ад фашысцкай навалачы. Гэта наш абавязак, да гэтага нас заклікалі кіраўнікі партыі ў дзень святкавання Кастрычніцкай гадавіны на Краснай плошчы.

— А хіба Масква яшчэ наша? — запыталі з натоўпу,

— Наша і заўсёды будзе нашаю!

Корж прачытаў тэкст выступления Сталіна і заклікаў кожнага, здольнага трымаць зброю, уступаць у партызанскія атрады, усяляк дапамагаць партызанам і папярэдзіў, что народ ніколі і нікому не даруе здрады.

На змярканні осаўцы праводзілі партызан далёка за сяло. Палускваў лёгкі марозік. Снег засцілаў сляды камароўцаў. Партызаны праз Скаўшын вярталіся ў свой лагер.

Па прывале каля вогнішча Васіль Захаравіч запісаў ў свой дзённік: «II/XI-41 у тры гадзіны раніцы ўзялі 21 чалавека і разам з суседнім атрадам найшлі на сумесную аперацыю. Пасля кароткага адпачынку ў 6 гадзін раніцы пачалі аперацыю. Яна прайшла ўдала: самая актыўная паліцыя ў Заброддзі, Чырвоным возеры і Осаве ліквідавана, зброю забралі. Аперацыя закончылася ў 2 гадзіны дня. Узнікла неабходнасць аб'яднацца з суседнім атрадам».

На палянцы сышліся ўсе партызаны і аднагалосна абралі камандзірам аб'яднанага атрада Васіля Захаравіча Каржа, яго намеснікам — Меркуля, камісарам — Бандэраўца.

— Толькі ў далейшым, Мікіта Іванавіч, там, дзе цябе добра ведаюць, не вытыркайся,— з усмешкаю папярэдзіў Корж і паківаў пальцам.

## І ЗНОЎ БОЙ...

Васіль Захаравіч любіў смажыць на ражэнчыку сала. Прымошчваўся каля вогнішча: у левай руцэ — луста хлеба, у правай — ражэнчык з нанізанай скваркаю. Здавалася, камандзір заклапочаны толькі адным — каб як мага меней туку капнула ў агонь. Спрытна надстаўляе лусту над гарачыя бурштынавыя кропелькі. Толькі што ён насварыўся на кухара, што хацеў падкінуць яму большую скварку. І выдаў загад: «Камандзірам і радавым харчы дзяліць толькі пароўну. За парушэнне — суровая кара».

І партызаны трымаюць ражончыкі над зыркімі языкамі полымя, задуменна глядзяць, як у змроку знікаюць іскры і дым. Кожнаму прыгадваецца далёкае маленства, начлежныя вогнішчы і тупат коней на туманных лугах. Марацъ хлопцы, як зажывуць пасля вайны.

— А ведаеце, Васіль Захаравіч,— звярнуўся да камандзіра Іван Некрашэвіч,— калі вы з Эдзікам пайшлі насустрач осаўскім паліцаям, мяне дрыжыкі калацілі. Думаю, пастраляюць. А яны сабе стаяць і вухам не вядуць.

Корж, не спяшаючыся, здымае скварку, дзьмухае на яе і спакойна гаворыць:

— Я заўсёды памятаю словы Далорэс Ібаруры: «Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях».

— А вы бачылі Далорэс?

— Бачыў і чуў... Там, у Іспаніі. Хоць і не кожнае слова разумеў, але здавалася ўсё ясным. Столькі агню, сілы і веры было ў кожным яе выступленні.

— Раскажыце, Васіль Захаравіч, як ваявалі ў Іспаніі,— просяць камсамольцы.

— Доўгая гэта гісторыя, хлопцы. За раз не раскажаш.

— Хоць самае галоўнае,— не адстае Віктар Ліфанцьеў.

— Ну добра. Было яно так: у лістападзе 1936 года вяртаюся я з адпачынку праз Маскву. Ніякіх асаблівых спраў у сталіцы не было. Дай, думаю, адведаю добрага таварыша па ранейшай сум ссі і ай рабоце, і зайшоў да чэкіста Мікалая Іларыёнавіча Церашатава. Хва-

люся загарам, распытваю пра справы, сям'ю і агульных знаёмых. Потым разгаварыліся пра падзеі ў Іспаніі.

«А ведаеш, кажу, адчуваю я сябе дэзерцірам. Дапамажы паехаць туды. Упэўнены, што мой партызанскі вопыт спатрэбіцца ў вайне з фашызмам». Паспрабабаваў Мікалай мяне адгаворваць. А я стаю на сваім, і сам пераконваюся, што маё месца толькі там. Калі ж упэўніўся, што не пераканае, найшоў да начальства. Усё вырашылася амаль адразу. І, не пабачыўшы сям'ю, праз некалькі дзён я ўжо быў у цягніку. Толькі паспеў паведаміць сваім: «Не хвалюйцеся. Выязджаю ў доўгатэрміновую камандзіроўку».

За акном мільгаюць знаёмыя станцыі з польскімі назвамі. У свой час мы тут з атрадам Кірылы Арлоўскага наганялі страх на паноў, асаднікаў і жандараў. Успамінаю, а сам азіраюся, каб часам не пазнаў мяне які-небудзь сышчык. Некалі ж мае здымкі разаслалі па ўсіх пастарунках. Пакуль ехаў праз Польшчу, прыкідваўся, што сплю. На світанні перасеклі мяжу з Германіяй. На вакзалах пахаджвалі бамбізы ў карычневых кашулях з павуком свастыкі на рукавах, скрозь шнырылі гітлераўскія малойчыкі. Не, не страшна, агідна было глядзець на іх.

Неўзабаве цягнік ішоў паміж узгоркаў Бельгіі, мільгалі маляўнічыя домікі, дагледжаныя палі і вінаграднікі. Па наступны дзень прыехалі ў Парыя«. Вось гэта, сапраўды, го-о-рад! Тры дні блукалі па шыкоўных бульварах, па ўзбярэжжах Сены, дзіваваліся з Эйфелевай вежы, хадзілі на плошчу Бастыліі і на Елісейскія налі. Але гэта так, паміж іншым.

На чацвёрты дзень я апынуўся ў аўтобусе. Прыслухаўся — кожны гаворыць на нейкай незразумелай мове: тут і немцы, і чэхі, македонцы і славакі, французы і латышы.

— Як яга вы разумелі адзін аднаго? — не ўтрымаўся Нордман.

— Гаварылі: «Рот-фронт», «Но пасаран», «Віва Іспанія!» — і ўсё было зразумела.

Толькі прыехалі ў гарадок Порт-Боу, адразу пачалася бамбёжка. Пацягнула смуродам выбухаў і пажараў, убачылі пакалечаных дзяцей і жанчын. Вось тады я ўпершыню сутыкнуўся з фашызмам, запомніў яго аблічча і ўзненавідзеў на ўсё жыццё.

Мадрыд сустрэў нас жахлівымі руінамі, заваламі на вуліцах, друзам на месцы дамоў. Пасялілі нас у атэлі. Так у іх гасцініцы завуцца. Усіх размеркавалі па баявых атрадах. Адзін я аказаўся лішнім. Кавалёў тады было маё прозвішча. Жыву ў пакоі на апошнім паверсе, а ўнізе шпіталь размясціўся. Адамкнуў свой чамадан і пачаў прымяраць набытую ў Парыжы новую форму: чорны берэт, якраз

такі, як у нас дзяўчаты насілі, гімнасцёрку з вялікімі кішэнямі, зялёныя галіфэ, крагі і чаравікі па тоўстай падэшве. Зірнуў у люстэрка — ні сам сябе, ні маці родная не пазнала б.

— О-о, вы ўжо ў форме, Кавалёў,— нечакана пачуў за спіною.

У пакоі стаяў і ўсміхаўся мужчына ў паўвайсковай форме. У яго гаворцы адчувалася каўказскае вымаўленне. Ён назваўся — Ксанці. «Ваш абавязак, таварыш Пабла, так, з гэтага часу вы — Пабла, вучыць іспанцаў і інтэрбрыгадаўцаў стратэгіі і тактыцы партызанскай барацьбы. Інструкцыі атрымаеце, а цяпер хадзем вячэраць».

За доўгім сталом рэстарана гучала руская гаворка. Усе ўважліва слухалі невысокага мужчыну ў акулярах. Расказаў ён пра пахаванне лётчыка Антоніо і дастаў з кішэнькі маленькі ключык. У Іспаніі звычайна замыкаюць дамавіну, а ключ аддаюць бліжэйшаму сваяку нябожчыка. У Антоніо не было нікога бліжэй за вядомага савецкага журналіста Міхаіла Кальцова. Гэта ён сядзеў у цэнтры агульнага стала.

Корж паварушыў кійком вуголле і галавешкі. На ружаватым снезе чарнелі цені партызан. Вакол датлелага вогнішча стаялі маўклівыя і задуменныя хлопцы.

— Ну, на сёння, мабыць, хопіць?

— Што вы, Васіль Захаравіч! На самым цікавым спыніліся.

— Пра бaі, пра іспанскіх партызан раскажыце.

— А як вы гаварылі з падначаленымі. Ці разумелі яны вашы каманды? — дапытваўся Віктар Ліфанцьеў.

— Ох і назолы ж вы! Як на споведзі, усё выкладай,— і, памаўчаўшы, працягваў: — Спачатку быў у мяне перакладчык. Аляксеем звалі. Потым і сам трохі навучыўся па-іспанску гаманіць... Цікавы хлопец быў гэты Аляксей. Былы белагвардзеец. Так, так, самы сапраўдны, ды яшчэ які люты. Прыйшоў ён да мяне і папярэдзіў: «Спачатку я павінен вам расказаць сваю гісторыю, тады рашайце — браць мяне ці не браць».

А гісторыя складаная. Паходзіў ён з багатага чачэнскага роду. Каня, шаблю, джыгітоўку палюбіў з дзяцінства. Прыйшоў час, і прызвалі яго на службу ў гвардзейскі полк яго імператарскай вялікасці. У стайні гарачага горца абразіў нейкі вахмістр. Бліснула шабля над галавою, але ззаду нехта моцна сціснуў Аляксееву руку. Азірнуўся — аж сам палкоўнік трымае яго. Калі астыў і супакоіўся, зразумеў, хто яго ўратаваў ад бяды, і застаўся служыць пры ім ардынарцам. Пасля рэвалюцыі, доўга не думаючы, пайшоў разам з палкоўнікам у белую армію, зрабіўся бязлітасным рубакам. Потым разам уцяклі ў Турцыю. Туляліся, галадалі. Спадзеючыся на лепшае, пераехалі ў Францыю, і

Аляксей найшоў у парабкі да фермера каля горада Бардо. На рабоце пакалечыў руку і апынуўся на вуліцы, без прытулку і кавалка хлеба. Французскія таварышы сталі на яго абарону і абвясцілі забастоўку. Баставалі, пакуль не прымусілі гаспадара зноў узяць Аляксея на ферму. Тады і працверазеў былы белагвардзеец, адчуў сілу інтэрнацыянальнага адзінства рабочых. Сябрам і дарадцам пакалечанага парабка стаў французскі камуніст П'ер Ліго. На многае ён адкрыў Аляксею вочы, а калі пераканаўся, што той стаў іншым чалавекам, прапанаваў уступіць у камуністычную партыю Францыі. «Я не варты яшчэ такога гонару»,— адказаў Аляксей. А мне ён прызнаўся: «Спадзяюся гэтае права заслужыць у барацьбе з фашызмам».

Я яго ўзяў за перакладчыка і не памыліўся.

Васіль Захаравіч памаўчаў, паглядзеў на ўсыпанае зоркамі неба, загадаў Івану Некрашэвічу праверыць пасты, да хрусту пацягнуўся, устаў з паленца.

— Пара, таварышы, спаць. Спаць, спаць! Заўтра — цяжкая і адказная работа. Ды і спіна нешта здранцвела.

Прайшоўся па лагеры, пагаварыў з паставымі і падаўся ў сваю зямлянку. Дакончыць іспанскую гісторыю ні заўтра, ні праз месяц так і не ўдалося.

У дзённіку Васіль Захаравіч таропка запісаў:

«20/XI-41. У 16 гадзін на лагер напала 60 гітлераўцаў. Нашы пасты абстралялі іх. Непрыяцель рассеяны агнём нашых кулямётаў. Пасля бою прыйшлося пакінуць абжытыя зямлянкі, хоць і вельмі шкада іх. Начавалі ў лесе. Пайшоў снег: холадна і следна. Але сёння была добрая зводка — вынікі за 5 месяцаў вайны».

Гітлераўцаў у лесе першы заўважыў дазорны Яновіч і паведаміў у лагер. Там адразу падрыхтаваліся да бою. Ворагі падкрадаліся, разлічваючы знянацку напасці на лагер. А іх ужо трымалі на мушцы, падпускалі ўсё бліжэй і бліжэй. І раптам з паднятых люкаў, секанулі кулямётныя чэргі. Без прамашкі касіў варожы ланцуг Язэп Максімавіч Лабач. Партызаны ўзнікалі з-пад зямлі і бязлітасна білі ворагаў. Яны скочваліся з узгорка, уцякалі ў лясны гушчар. Корж шкадаваў, што фашысты ўхіліліся ад бою, а партызанам дасталося толькі 12 вінтовак, трохі патронаў і такая-сякая амуніцыя. Асабліва шкада было пакідаць абсталяваны і абжыты лагер.

Некаторыя партызаны пераконвалі сябе, сваіх сяброў і ўгаворвалі камандзіра, што трэба аставацца на месцы, бо немцы больш не наважацца сюды паткнуцца.

Пасля нарады з Бандараўцом, Сцешыцам і Меркулем Васіль Захаравіч загадаў: «Усім сабрацца!» Перакусілі рэшткамі астылага

крупніку, закапалі катлы, каб, як вернуцца, можна было іх зноў дастаць, і пачалі збірацца ў дарогу.

Шкада было разлучацца з утульнымі зямлянкамі ў Вялікім лесе, але, калі загадвае камандзір, трэба слухацца. Відаць, ён усё ўлічыў і прадугледзеў.

У начной цемры па замеценых сцежках ішлі след у след. Тужліва шумелі хвоі, з маладзенькіх елачак зрываліся камякі падшэрхлага снегу, пахруствала збуцвелае ламачча. Спачатку ішлі на поўнач, потым крута звярнулі на захад і апоўначы трапілі ў леснічоўку Хадыкі. Там жылі надзейныя, адданыя людзі. Яны трымалі сувязь з атрадам, чым маглі, дапамагалі партызанам. Усе былі рады, што да іх завіталі Камароўцы: распытвалі пра навіны на фронце, слухалі апошнія зводкі, шчодра частавалі сваіх абаронцаў.

— А тут надоечы казалі, што бытта да партызанаў перайшоў нямецкі ахвіцэр і дапамог нашым хлопцам разагнаць паліцыю ў Заброддзі, Чырвоным возеры і Осаве. Калі не брэшуць, дык усе стрэльбы ў гэтых цюцек пазабіралі і яшчэ ('убранне правялі. А той немчык і панашаму гаварыць можа.

Корж з асаблівай цікавасцю распытваў у дзеда пра таго перабежчыка-афіцэра і здзіўляўся: «Няўжо праўда?», «Не можа быць!» Гаспадары, перабіваючы адзін аднаго, даводзілі, што той афіцэрых? стаў адважным партызанам і аб'явіўся недзе аж каля Жыткавіч. А Эдзік Нордман моўчкі выскрабаў з патэльні тоўчаную бульбу і ледзь прыкметна ўсміхаўся. Партызаны спакойна спалі ў зацішнай леснічоўцы, а дзяды і кабеты да світання ўглядаліся і ўслухоўваліся ў наваколле.

Раніцаю камандзір даведаўся, што на Вялікі лес па Слуцкім гасцінцы ідуць танкі і часці СС.

— Дык як, хлопцы, можа, вернемся ў свае зямлянкі? — пытаўся Корж у тых упартых «аптымістаў», што не хацелі пакідаць лагер.

Партызаны зноў пераканаліся, што іх камандзір і на гэты раз не памыліўся. Затрымлівацца ў вёсцы было нельга. Людзей, што давалі прытулак партызанам, гітлераўцы жорстка каралі, а вёскі палілі. Трэба было неадкладна ісці далей, не пакідаючы ніякага следу. Заходзіць у іншыя вёскі і спыняцца ў суседніх лясах таксама было небяспечна: раз'юшаныя дзёрзкімі аперацыямі партызан, ворагі сцягвалі карнікаў з суседніх раёнаў, пасылалі супраць атрада артылерыю і танкі.

Корж растлумачыў чарговую задачу:

— Цяжкасці нашы часовыя. Немцы не супакояцца, пакуль мы будзем тут. Ды яшчэ зіма памагае не нам, а ім — кожны след відзён, і харчу ў нас малавата. Што ж, прыйдзецца зацягнуць папруягкі на

апошняе вочка. Але гэта не бяда. Былі б цэлыя галовы ды косці. І памерзнуць прыйдзецца: паліць вогнішчы небяспечна. Расцягвайце харчы да канца паходу, а ён будзе нялёгкі і доўгі. Ідзём на Любаншчыну. Там, кажуць, дзейнічае некалькі партызанскіх атрадаў. Установім з імі сувязь, абмяркуем планы дзеяння, умацуемся і звалімся сюды, як снег з яснага неба. Задача ясная? Ну, калі зразумела, наперад, марш!

Хоць і быў канец лістапада, а палусквалі ад марозу яліны, дубелі рукі і ногі, снег хвастаў у твары і густою сеткаю засціў прагалы і сцежкі.

Корж радаваўся:

— І прырода нам памагае. Цяпер трасцу адшукаюць нашы сляды. Зніклі. Няма нас. Няхай пакруцяцца, высалапіўшы языкі.

Начавалі ў глухім лесе без вогнішчаў і прыварку, грэлі адзін аднаго, тулячыся спіной да спіны, расціралі закляклыя ад сцюжы далоні, тупалі і падскоквалі, каб адышлі ногі.

А на дасвецці камандзір зноў пратоптваў сцежку, за ім ішлі след у след партызаны. Яны дзівіліся сіле свайго камандзіра: на пераправе за вяршыню сасны бяруцца тры хлопцы, а камель нясе адзін Васіль Захаравіч і не ўгінаецца. Яшчэ прыспешвае: «Давай! Давай! Хутчэй!»

Начавалі Камароўцы ў настылых стагах, туліліся пад густым яловым веццем, дзялілі на роўныя драбочкі апошні сухар. А каб зусім не абленаваліся сківіцы, смакталі і грызлі звіслыя з вецця ледзяшы.

Па карце Васіль Захаравіч вызначыў, што пад вечар дабрыдуць да вёскі Ніжы и на правым беразе Арэсы. Ён чуў, што там няма ні немцаў, ні паліцаяў, а насельніцтва ахвотна дапамагае партызанам, дзеліцца з імі апошнім. Але камандзіра апанавала новая трывога: згаладалыя хлопцы могуць прагна накінуцца на пачастунак, а ніжынцы будуць дзівіцца: «Ну і партызаны — самі сябе пракарміць не могуць!» Нельга, каб людзі кепска пра партызан думалі.

І Васіль Захаравіч папярэдзіў хлопцаў:

— Пастарайцеся не кідацца сквапна на яду. Нічога не патрабуйце і не прасіце. Людзі нашы добрыя і шчодрыя, апошнім падзеляцца. Трымайцеся прыстойна, як вартыя павагі абаронцы Радзімы.

— Зразумела, таварыш камандзір. Пастараемся трымаць марку савецкага партызана,— адказалі змораныя, схуднелыя хлопцы, з галодным бляскам у запалых вачах.

Корж нават расчуліўся, гледзячы на іх. Кожнага ён разумеў сэрцам, ведаў пра адважныя ўчынкі, памылкі і слабасці, але верыў, што хлопцы не падвядуць ні яго, ні сябе. А іх уяго сто трынаццаць. Людзі рознага лёсу і звычак. Адны сталі ў строй адразу па загаду сумлення і

абавязку, некаторых давялося ратаваць з ліпкага павуціння варожай прапаганды і гвалту.

У Ніжын увайшлі надвячоркам. Доўгая вёска расцягнулася над рачною кручаю. У хатах міргалі цьмяныя агеньчыкі, рыпелі калодзежныя жураўлі, мэкалі авечкі. Нават чуваць было, як цыркаюць і звіняць у даёнках пругкія струменьчыкі малака. Здавалася, вёска жыве спакойным мірным жыццём. Хтосьці ціха прадэкламаваў:

А на рэчцы на Арэсе
Сталася прыгода:
Ідзе наступ на балота
З поўначы і ўсхода.

— Вось мы і на Арэсе, услаўленай Янкам Купалам. Пра яе хлопцы ў школе пісалі сачыненні. Адны пяцёркі, а нехта, мабыць, і двойкі хапаў,— звярнуўся Корж да камісара.

— Двойкі наўрад,— запярэчыў Бандэравец.— Паэму бадай кожны ведае на памяць. Нават цяпер не забыліся.

А ўжо ніжынцы гасцінна сустракалі партызан. Слава камароўцаў дакацілася сюды. Расказвалі пра іх незвычайную адвагу, пра сумленнасць і дабрыню. Гаспадыні ставілі ў печ вялікія чыгуны бульбы, на патэльнях цвірчэлі скваркі, пахла квашанаю капустай.

— Піце, хлопчыкі, сырадойчык,— частавалі кабеты і ставілі гладышы на стол.— Не саромейцеся. Як-кольвек перабіваемся. А вы ж нешта вельмі перапалі. Відаць, нялёгка туляцца па лесе? Каб гэтыя кручаныя выжлятнікі да свайго апошняга дня з жабрацкімі торбамі валачыліся.

— Вельмі ж вы, гаспадынька, літасцівыя да іх,— запярэчыў разважлівы Іван Некрашэвіч і зірнуў на абразы ў куце.— Нават у свяшчэнным пісанні гаворыцца: «Хто з мечам прыйдзе, той ад меча і загіне».

— А мы таго пісання не чыталі,— усміхнулася гаспадыня, ссоўваючы на патыліцу старую канаплянку. Адкрылася маладое прыгожае аблічча.— Гэта мы святога пачапілі дзеля ратунку. А то наляцяць гэтыя гіцлі з чарапамі на шапках, калі абразоў няма, аж дзяруцца: «А, камуністы!» Кідаюцца, нібы кручаныя сабакі, і ніякага ратунку не вымаліш. Маладзіцы ўсе ў сяле ў жалобныя хусткі ды старэчыя спадніцы паўбіраліся, валасы мукою пасыпаюць, сажаю замурзаюцца, каб старымі здавацца, і як могуць ратуюцца ад гэтых выжлятнікаў. Дзякуй ім, партызаны нас у крыўду не даюць. Тут яны, блізенька стаяць. У Барыкове атрад і на Зыславе ёсць.

Штаб Камарова размясціўся ў будынку былой меліярацыйнай станцыі. Ранічкою камандзір паслаў свайго прадстаўніка ў саўгас, каб

звязацца з кіраўніцтвам суседняга атрада. А партызаны тым часам галіліся, адмываліся, адпачывалі пасля цяжкага пераходу. Адразу памаладзелі, павесялелі, заўсміхаліся, сыпалі жарцікамі, пакеплівалі адзін з аднаго, дапамагалі гаспадарам рэзаць дровы, насілі ваду і сена,— з асабліваю асалодаю рабілі знаёмую змалку работу.

Надвячоркам каля штаба спынілася фурманка, і ў пакой увайшоў падцягнуты мужчына ў белым паўкажушку, вайсковай шапцы і ў «лётных» бурках. Ён адразу пазнаў камандзіра і назваў сябе:

— Розаў Мікалай Мікалаевіч. Камандзір атрада.

Корж працягнуў шырокую моцную далонь:

— Камароў Васіль Захаравіч.

— Пра камароўцаў шмат чулі. Самі збіраліся адшукаць вас. А пра вашы даўнейшыя партызанскія справы расказваў Васіль Іванавіч Казлоў.

— І ён тут? Мы ж з ім некалі ў Старобінскім раёне працавалі, калгасы на ногі ставілі. Ну, тады мы, можна лічыць, трапілі да радні і зможам яшчэ дзянёк абскрабацца і трохі акрыяць.

— Як у сябе дома,— усміхнуўся Розаў.

— А цяпер, Мікалай Мікалаевіч, давайце разбяромся ў абстаноўцы,— схіліўся над нартаю Корж.

— Вось тут, у Барыкове, частка майго атрада,— тлумачыў Мікалай Мікалаевіч.— Астатнія — у зямлянках каля хутара Опій. Атрад Далідовіча ў буданах на ўсходзе вёскі Старасек. Група Патрына ў лесе каля Слаўевіч. У Акцябрскім раёне дзейнічае атрад Героя Савецкага Саюза Фёдара Іларыёнавіча Шклоўскага. Яны яго разам з Бумажковым у першы дзень ванны стварылі. Пэўна, чулі. Штаб знаходзіцца ў раённым цэнтры і кантралюе вялікую зону. Там фактычна існуе Савецкая ўлада: сельскім Саветам талковы дзядзька Барыс Адзінец кіруе, выдаецца газета, праводзяцца раённыя партыйныя канферэнцыі, нават у школе дзяцей вучаць.

— Выходзіць, тут і вайны няма,— усміхнуўся Васіль Захаравіч.

— Асноўныя варожыя сілы знаходзяцца ў Любані, у саўгасе Сосны, і кіламетраў за дзесяць адсюль у вёсцы Кузьмічы. З Кузьмічамі трымаем сталую сувязь. Надзейныя людзі заўсёды нам паведамляюць, якія аперацыі рыхтуюць гітлераўцы. Прыходзіцца, вядома, сустракаць іх належным чынам там, дзе нас не чакаюць,— расказваў Розаў і адзначаў на карце найбольш важныя стратэгічныя пункты. Корж уважліва слухаў і час ад часу нешта занатоўваў у блакноцік.

Дамовіліся ўсё прадумаць і ўзважыць, каб, сустрэўшыся заўтра, скласці план сумесных дзеянняў.

Корж падлічваў партызанскія сілы, і яму бачылася цэлая армія народных мсціўцаў, здольная ўзяць пад кантроль і абарону некалькі раёнаў. Хутка манеўруючы, можна будзе біць ворага ў райцэнтрах і самых далёкіх кутках Палесся.

Назаўтра Васіль Захаравіч адвёў свой атрад у лясныя і балотныя нетры, каб не наклікаць бяду на ніжынцаў, што так гасцінна сустрэлі сваіх абаронцаў: ён ведаў, як бязлітасна распраўляюцца фашысты за дапамогу партызанам.

Каля хутара Опій выкапалі зямлянкі, паставілі буданы і пачалі рыхтавацца да сумесных дзеянняў з атрадамі Любанскай зоны. Але доўга затрымацца на новым месцы не прыйшлося. 13 снежня ў II гадзін раніцы дазорныя Сцяпанава і Чарняк заўважылі ў лесе ланцугі ворагаў. Узброеныя аўтаматамі немцы папередзе гналі паліцаяў. Пачуўшы стрэл, група Шырына адкрыла агонь, усе партызаны занялі зручныя пазіцыі.

Кулямётчыкі групы Чуклая касілі гітлераўцаў шквальным агнём. Запальныя варожыя кулі падпалілі на хутары хлеў і гумно. Партызаны гналі ворагаў у глыбіню лесу, а там іх сустрэла агнём група Фёдара Шырына. Гэта і вырашыла вынікі бою: фашысты пачалі панічна разбягацца, пакінуўшы ў лесе II забітых і 6 параненых. Партызаны падабралі шмат накінутых вінтовак, патронаў. Многія ўцекачы, каб лягчэй было ратавацца, скідалі кажухі і шынялі. І яны не былі лішнія партызанам.

Калі змоўкла страляніна, Корж загадаў камандзірам сабраць і праверыць сваіх байцоў.

— Усе ў наяўнасці, параненых няма!

— Страт няма! — дакладвалі камандзіры.

У гэты дзень Васіль Захаравіч запісаў у сваім дзённіку: «Сёння асабліва вылучыліся Іваноў (Чуклай), Севераў (Нордман), Іван Некрашэвіч, Філановіч, Раманаў і многія іншыя. Перад пачаткам бою мы з камісарам былі ў байцоў загадзя выстаўленай засады. Мясцовасць прастрэльвалася наскрозь, і бегчы да асноўных сіл было немагчыма. Давялося прапаўзаць па замерзлай канаве. Па дарозе сустрэлі групу Бобрыца, накіравалі яе на хутар і загадалі адкрыць кулямётны агонь».

На сумеснай нарадзе з камандзірамі пяці любанскіх атрадаў было вырашана ў бліжэйшы час заняць саўгасы Барыкоў, Сосны і Жалы, кантраляваць усю тэрыторыю раёна. Не абараняцца, а наступаць, шырэй разгарнуць работу сярод насельніцтва, папаўняць атрады адданымі патрыётамі.

— Пераходы пехатою замаруджваюць нашы дзеянні, стамляюць людзей,— гаварыў на нарадзе Корж.— Трэба, каб у кожным атрадзе

было дастаткова коней і саней. Тады мы зможам нечакана з'яўляцца ў патрэбным нам месцы і гэтак жа хутка знікаць, каб апынуцца ў супрацьлеглым кутку раёна.

Прапанову Каржа падтрымалі ўсе камандзіры атрадаў і вырашылі адправіць у Старобінскі раён 15 чалавек на чале з Таўрыдай Сцешыцам. Яны павінны мабілізаваць коней, сабраць сані і вупраж, нарыхтаваць фураж і прадукты харчавання і адначасова весці агітацыйную работу сярод насельніцтва. Групе Пратасені даручылі малоць збожжа і нарыхтоўваць харчы на ўвесь час рэйду.

Корж з Бандараўцом узначалілі групу, якая разграміла паліцэйскія ўчасткі ў вёсках Крываносы, Рухава, Пасека і Прусы. Кожная аперацыя заканчвалася вялікім мітынгам. Партызаны расказвалі пра мужнасць Чырвонай Арміі, зачытвалі апошнія зводкі, уключалі радыёпрыёмнік, і голас Масквы нахтняў людзей: яны ўступалі ў атрады, здабывалі ў ворагаў зброю, станавіліся разведчыкамі і сувязнымі.

12 лютага 1942 г. у дзённіку Коряг запісаў: «Накіраваў 35 партызан на чале з Мікітам Іванавічам у вёскі Барбароў, Бабровічы і Касарычы на барацьбу з карнікамі. Знішчылі 7 немцаў, узялі 17 коней».

На мітынгу ў Прусах вырашылі раздаць калгаснікам усю грамадскую жывёлу, збожжа і насенне, падрыхтаваныя да адпраўкі ў Германію. Некалькі тон хлеба калгаснікі перадалі партызанам.

Неўзабаве атрады Камарова, Рогава, Патрыца і Далідовіча на конях рушылі на Кузьмініцкую воласць і разграмілі магутны фашысцкі гарнізон. Партызаны, якія ехалі на сотні фурманак, зрабілі моцнае ўражанне на насельніцтва. У вёсках расказвалі пра вялізную партызанскую армію. Людское ўяўленне падвойвала і патройвала сілы народных мсціўцаў, а перабольшаныя чуткі наганялі жах на акупантаў.

Сфера дзеянняў і ўплыву партызан пашыралася з кожным днём: вёскі і цэлыя сельсаветы вызваляліся ад гітлераўцаў, мацнелі дух, упэўненасць і сілы сялян. У розных кутках ствараліся партызанскія групы і атрады, іх арганізоўвалі і ўзначальвалі мясцовыя камуністы і камсамольцы, у многіх вёсках дзейнічалі камсамольскія і нават вучнёўскія падпольныя арганізацыі. Яны дапамагалі партызанам і заўсёды адчувалі надзейную падтрымку лясных салдат. Юныя патрыёты распаўсюджвалі антыфашысцкія лістоўкі, збіралі важныя весткі і праз сваіх разведчыкаў і сувязных перадавалі ў штабы партызанскіх атрадаў.

Стыхійны патрыятычны рух трэба было ўзначаліць і скіраваць у патрэбнае рэчышча, навучыць маладых патрыётаў канспірацыі і метадам партызанскай барацьбы, найбольш моцных і здатных арганізаваць у баявыя адзінкі. Дзеля гэтага Васіль Захаравіч накіраваў во-

пытных партызан, выпрабаваных камуністаў Рыгора Карасёва і Харлампій Савасцянчыка ў Лясковічы і Забалоцце.

У гэтыя вялікія сёлы часта прыязджалі Корж і Сцешыц. Яны шчыра і проста гаварылі с сялянамі, даведваліся пра перадыслакацыю нямецкіх войск, пра колькасць зброі. Сяляне расказвалі партызанскім камандзірам пра зверствы фашыстаў у мястэчках і вёсках, выкрывалі здраднікаў і розных памагатых акупантаў. Васіль Захаравіч умеў па-простаму нагаварыць з кожным дзедам, хлопцам і малым дзіцем. Ён добра разумеў душу і характар палешукоў, ведаў побыт і звычаі тутэйшых людзей. Пра яго звычайна казалі: «А гэты камандзір свойскі хлопец. Душа-чалавек, сваіх шкадуе і абараняе, а гэтым «гіцлераўцам» адхлання не дае».

У гэтым было, бадай, самае дакладнае разуменне характару і паводзін Васіля Захаравіча, якога тады ўсе звалі таварышам Камаровым.

Неўзабаве ў Лясковічах і ў Забалоцці 60 чалавек уступілі ў партызанскі атрад і камандзірам абралі свайго аднавяскоўца Папуша. Атрад адразу пачаў актыўныя дзеянні — граміў нямецкія гарнізоны, ратаваў савецкіх грамадзян і заслужыў павагу ў насельніцтва і ў кіраўнікоў Мінскага падпольнага абкома.

А Васіля Захаравіча па-ранейшаму не задавальнялі аперацыі асобных атрадаў. Ён марыў пра масавую барацьбу з акупантамі і рыхтаваў план супольнага партызанскага рэйду па некалькіх раёнах. Нездарма яшчэ на першай нарадзе камандзіраў ён настойваў на мабілізацыі коней. Г. П. Сцешыц паспяхова выканаў гэтае заданне: у атрадзе больш не было «пехацінцаў» — партызаны селі на коней, а з саўгасаў і калгасаў Старобінскага і Любанскага раёнаў прыбывалі і прыбывалі новыя фурманкі.

Некаторыя не верылі ў план Каржа. Казалі, што з коньмі шмат клопату — карміць, паіць, даглядаць трэба.

— І не абы-як карміць,— настойваў Корж,— а пеставаць і берагчы кожную жывяціну але да самай перамогі. Вы падумалі, што будзем рабіць, калі пратурым фрыцаў? Трэба я« будзе араць і засяваць калгасныя палі. А чым узарэш? Трактары знішчаны, коней гоняць у Германію або перакручваюць на фашырку. Дзе выйсце? Самім запрагацца прыйдзецца.

— Ой, вельмі ж пра далёкае дбаеш, Васіль Захаравіч,— пярэчылі некаторыя камандзіры.— Спачатку перамажа, а там ужо думай пра сяўбу.

— Кепскі той гаспадар, хто не думае, як заўтра жыць будзе,— адказаў Коряс. Ён загадаў партызанам, вольным ад заданняў і нарадаў, нарыхтоўваць аглоблі і дугі.

— Блазнуе стары,— упіналіся некаторыя гультаяватыя, хоць гэтаму старому ішоў толькі сорак трэці год. Праўда, па стажу і па вопыту барацьбы ён быў старэйшы за ўсіх.

Васіль Захаравіч не толькі загадваў, але і цярпліва тлумачыў:

— Садовая твая галава! Рушаць сотні фурманак, а ў цябе ў дарозе зламалася аглобля ці лопнула дуга. Што, пабяжыш у лес? А ўсе будуць чакаць, пакуль высечаш бярозку, абстругаеш, прыкруціш новую аглоблю? Так? Чаго маўчыш? А тут запасныя часткі ў санях. Саскочыў, прыкруціў — но-о! І паехаў.

У пачатку сакавіка 1942 года у Загалле з вострава Зыслаў прыехалі сакратар Мінскага падпольнага абкома партыі Васіль Іванавіч Казлоў, члены абкома Бондар, Бельскі, Мачульскі і камандзіры атрадаў.

На нарадзе Корж пазнаёміў камандзіраў з планам коннага рэйду:

— Два атрады пакідаем тут, у любанскіх лясах. Яны праводзяць звычайныя аперацыі, скоўваюць непрыяцеля і ствараюць уражанне стабільнасці нашых пазіцый. Атрады Камарова, Далідовіча і Розава размяшчаюцца па тры чалавекі на сані, запасаюцца фуражом, прадуктамі і ляснымі дарогамі праходзяць па Любанскім, Старобінскім і Чырвонаслабадскім раёнах,— ён схіліўся над картай.— Пройдзем вось праз гэтыя паселішчы Пінскай вобласці, у раёне вёскі Філіповічы праз Вераб'ёўскія лясы, наведаем Капыльскі і Трэскі раёны і паўз Старыя Дарогі вернемся сюды, на асноўную базу. Мэта нашага рэйду,— лаканічна тлумачыў Корж,— ліквідаваць варожыя гарнізоны ў вялікіх сёлах і ў самой Чырвонай Слабадзе. Каля Філіповіч неабходна знішчыць фашысцкія транспарты, якія ідуць на фронт. У кожным паселішчы па сваім шляху будзем праводзіць палітыка-выхаваўчую работу сярод насельніцтва. Я думаю, таварышы, гэты рэйд трэба лічыць не толькі стратэгічным, а і прапагандысцкім.

— Аглоблі стругаем, каб ад фашыстаў адбівацца? —« нехта з'едліва падкусіў Каржа.

Ён паблажліва ўсміхнуўся і спакойна адказаў:

— І дугамі таксама. Паспрабуй! Пабачыш, як добра выходзіць. Бяда, браце, што забыўся, з якога боку каня запрагаюць,— і, памаўчаўшы, спакойна растлумачыў, чаму ў такім рэйдзе неабходны «запасныя часткі», паведаміў, колькі яго атрад нарыхтаваў дуг і аглобляў.

— Ну і хітры ж мужык ты, Васіль Захаравіч. На тры аршыны пад сабою бачыш,— сказаў Розаў.

— Мужык і ёсць. Хорастаўскі. Дзеда майго, між іншым, «Мудрым» звалі. А я толькі яго ўнук.

За нарыхтоўку запасных дуг, аглобляў, гужоў і закрутак узяліся ўсе атрады.

У дзённіку ў гэтыя дні Васіль Захаравіч запісвае: «З 16 студзеня 42 г. па 10 лютага — разведка ў розныя канцы. Набываем харчаванне і забяспечваемся транспартам».

Пасля некалькіх запісаў пра баявыя дзеянні асобных груп, камандзір занатоўвае зноў: «З 16/II па 20/II — разведка. Набыццё харчу сабе і коням».

Карацейшых запісаў быць не можа. Напружаны лаканізм сведчыць, наколькі быў заняты камандзір, колькі хваляванняў, турбот, бяссонных начэй, душэўнага і фізічнага напалу крыецца за адным кароткім словам «разведка».

Разведка вялася на ўсіх дарогах будучага рэйду, з вёскамі налаdjвалася самая цесная сувязь — кожны разведчык дасканала ведаў свой аб'ект, меў надзейных людзей у кожным паселішчы.

Васіль Захаравіч сам падбіраў, сам рыхтаваў, маскаваў разведчыкаў, прыдумляў ім надзейныя легенды, забяспечваў бездакорнымі дакументамі. Першы сустракаў сваіх адважных хлопцаў і выпытваў усё да самых драбніц.

Перад такім рэйдам трэба ведаць усё.

У канцы лютага камандзіры яшчэ раз абмеркавалі маршрут і ўсе дэталі дзёрзкага паходу па варожых тылах.

Камандаваць рэйдам было даручана яго ініцыятару — Васілю Захаравічу. Калону адкрываў яго атрад, за ім ішоў атрад Розава, замыкаў атрад Далідовіча.

Васіль Захаравіч яшчэ раз праверыў усе дэталі, і ў пачатку сакавіка з любанскіх балот выехала каля 300 саней. На кожных санях сядзела тры ўзброеныя партызаны. Развалкі былі напакаваны сенам, у перадку ляжаў мех аўса, запас харчавання, разлічаны на ўвесь рэйд. Ехалі ноччу,ляснымі дарогамі. Паперадзе коннікі вялі разведку і накіроўвалі калону, сачылі, каб ніхто не збіўся з маршруту і не збочыў на якую-небудзь лясную прасеку або дарожку. Усё прадугледзеў Корж: «Бывае, задрэмле фурман, адстане, а конь зверне ўбок і павядзе за сабою астатніх куды-небудзь на вароягуго засаду».

Выехаўшы на ўзлессе, камандзір спыняўся, праз бінокль угледаўся у наваколле, сачыў, што робіцца ў суседніх вёсках. Сустракаўся які-небудзь дзядзька з сенам або з дровамі,— цікавіўся, дзе стаяць

гарнізоны, колькі ў вёсцы гітлераўцаў, дапытваўся, ў каго яны кватаруюць, чым узброены. Прасіў перачакаць, пакуль праедуць партызаны, каб не замінаць ім. Звычайна казаў:

— Прыедзеш пасля нас. А часам спытаюць, адкажаш: «Бачыць не бачыў, чуць не чуў».

І нечакана ўрывалася на вясковую вуліцу конная партызанская армія, займала ўсе выхады, абязбройвала паліцаяў і здраднікаў — ніхто не адважваўся супраціўляцца такой сіле. Тыя, што пад прымусам трапілі ў паліцыю, малілі літасці, зрывалі агідныя павязкі і прасіліся ў атрад. Іншых выпорвалі з свіронкаў, сцягвалі з гарышчаў. Судзілі іх самі аднавяскоўцы, расказвалі пра ўсе грахі і злачынствы здраднікаў.

Разгром гарнізона звычайна заканчваўся вялікім мітынгам: камандзіры і камісары атрадаў расказвалі пра становішча на фронце, нічога не ўтойвалі і не прыхарошвалі, гаварылі пра жорсткія баі і страты, пра гераізм Чырвонай Арміі, выкрывалі хлусню гебельсаўскай прапаганды, якая ўжо каторы раз «займала Маскву». Уключалі прыёмнік — і радасці не было межаў. У тыле ворага на вясковай вуліцы гучалі знаёмыя пазыўныя і спакойны голас: «Гаворыць Масква».

Зноў пад сотнямі капытоў курылася снежным пылам дарога.

А паперадзе рэйду з вёскі ў вёску кацілася народная пагалоска: маленькія гарнізоны паліцаяў разбягаліся да з'яўлення партызан, тыя, што спрабавалі супраціўляцца, ліквідаваліся з ходу.

Рэйд пракаціўся па некалькіх раёнах, памнажаючы партызанскую сілу і славу, папаўняліся атрады адданымі патрыётамі, у насельніцтва мацнела вера ў неперамажнасць савецкай зброі.

На мітынгі пераважна збіраліся жанчыны і падлеткі.

— Давайце, таварышы, шчыра пагаворым,— звярнуўся да іх камандзір.— Гітлераўская бандыцкая навалач знішчае наш народ, разбурае гарады і паліць вёскі, ды яшчэ плявузгае рознае глупства пра партызан. А мы, не шкадуючы ясыцця, ратуем нашых людзей ад фашысцкіх катаў, ад здзекаў і знішчэння.

Вы добра намятаеце, як мы шчасліва жылі і працавалі да нападу гэтых вылюдкаў на нашу Радзіму. Цяпер яны заліваюць зямлю нашай крывёю. Колькі расстраляе, павешана, спалена жывымі сумленных савецкіх людзей, жанчын і дзяцей толькі за тое, што яны любяць Радзіму і наш савецкі лад,— і Корж расказваў пра масавыя расстрэлы ў Жыткавічах і ў Мікашэвічах, пра тысячы юнакоў і дзяўчат, забраных у фашысцкае рабства.

— Асабліва балюча і крыўдна, што ворагу ўдалося ашукаць, запалохаць, а часцей, прымусіць некаторых дурняў узяць зброю

супраць сваіх братоў. Фашысты даручаюць ім крывавую работу, каб потым знішчыць саміх — небяспечных сведак жахлівых злачынстваў. А суд будзе. Справядлівы, бязлітасны суд над усёю гітлераўскаю навалаччу, над усімі злачынцамі і іх памагатымі. Нават ворагі ненавідзяць сваіх служак-здраднікаў і распраўляюцца з імі, як толькі тыя ўжо не патрэбны. Так будзе і з тутэйшымі «бобікамі». Калі ж яны яшчэ не заплямілі свае душы народнай крывёю, апамятаюцца, шчыра прыйдуць да нас і змыюць з сябе віну ў барацьбе з фашызмам, яны выратуюць сябе ад кары, а сваіх блізкіх ад ганьбы і людской нянавісці. Скончыўшы прамову, камандзір загадваў Чуклаю: — Дай, Ваня, людзям нашу памятку, няхай пачытаюць нягоднікам, што завяліся ў сяле і недзе, як цюцькі, туляюцца па завуголлю.

Чуклай даставаў з палявой сумкі лістоўкі, надрукаваныя на паперы з вучнёўскіх сшыткаў. У іх было грознае папярэджанне ўсім здраднікам:

«...Вы ўзялі зброю. Вашы гаспадары ўжо некалькі разоў гналі вас, дурняў, у лес на партызан. Вы баіцеся партызан гэтак жа, як і сваіх гаспадароў. Здраднікі, апамятайцеся! Вы яшчэ не паспелі заплямiць свае рукі крывёю, дык павярніце зброю супраць фашыстаў, супраць сваіх сапраўдных ворагаў, ідзіце да партызан разам з імі змагацца за праўду, за наш народ, за нашу савецкую Радзіму. Гэтым вы змыеце ганебную пляму з сябе і са сваіх сем'яў. Калі ж вы гэтага не зробіце, дык памятайце, не далёка той час, калі наша непераможная Чырвоная Армія, патрыёты нашай Радзімы ачысцяць савецкую зямлю ад чужынцаў, вашых гаспадароў і вас. Ад вас застанецца мокрае месца і ганьба назаўсёды. Камандзір партызанскага атрада Камароў. Памочнік сакратара па камсамолу Чуклай». Жонкі паліцаяў выцiралі слёзы, лаялі, клялі сваіх дурняў і абяцалі выправіць іх у партызаны.

Але самаю пераканаўчаю прапагандаю былі баявыя дзеянні партызан. Пра іх у дзённіку Васіля Захаравіча засталіся кароткія запісы. Таропкія няроўныя радкі сям-там размыты сняжынкамі ці кроплямі дажджу.

«6/III-42. Разгром Доўгаўскага гарнізона. Знішчана 11 чалавек. Узялі 25 вінтовак, разбілі валасць.

7/III-42. Разгромлена Капацэвіцкая валасць. Вызвалены ўсе арыштаваныя.

9/III-42. У Вялічкавічах прастаялі два дні. Атрад адбіў налёт немцаў. Знішчана некалькі салдат...

18/III-42. Разграмілі Скаўшынскі гарнізон. Знішчылі два варожыя грузавікі».

На старонках дзённіка пералічваецца, колькі ліквідавана ворагаў, якія ўзяты трафеі, называюцца вызваленыя вёскі. І на кожнай старонцы — «гутарка з народам».

Рэйд быў нялёгкі. Пачыналася веснавое разводдзе, правальваліся і распаўзаліся балотныя зімнікі, канчаліся фураж і харчы. Камандзіры любанскіх атрадаў патрабавалі вярнуцца на свае базы. Атрады Розава і Далідовіча ўзялі кірунак на Князь-возера. Камароў разграміў яшчэ некалькі вароягых гарнізонаў і, мінаючы Старобін і Слуцк, павёў свой атрад на Любаншчыну.

Каля вёскі Вялікія Мілевічы Розаў з Далідовічам сустрэлі невялікі, але добра ўзброены атрад генерал-маёра Міхаіла Пятровіча Канстанцінава. Прабіраючыся на ўсход да лініі фронту, атрад ішоў па тылах гітлераўцаў, знішчаючы варожыя гарнізоны. Генерал узрадваўся сустрэчы з партызанамі і далучыўся да іх.

23 сакавіка атрад Камарова вярнуўся ў Загалле, а праз некалькі дзён партызаны занялі невялікую лясную вёску Бібачкі.

Камароўцы парыліся ў гарачых лазнях і сушнях, галіліся, латаліся, чысцілі і рамантавалі зброю. Камандзір быў узорам падцягнутасці і чысціні. Ён не мог цярпець у атрадзе неахайных.

— Памятайце, мы ж савецкія партызаны, і выгляд у кожнага павінен быць прыстойны. Неахайны знешне — неахайныя і паводзіны. Чэрава пустое, а ты песні спявай,— навучаў Васіль Захаравіч партызан...

Любанскія лясы і Загальскія балоты зрабіліся партызанскай рэспублікай — на дзесяткі кіламетраў людзі жылі па савецкіх законах, у Акцябрскі раён гітлераўцы баяліся паткнуцца. Тут можна было адпачыць перад наступнымі паходамі і баямі.

Агледзеў Васіль Захаравіч сваіх байцоў, праверыў зброю, загадаў перакаваць коней, упарадкаваць вупраж. Значыць, неўзабаве зноў у паход — здагадаліся партызаны.

— А чаго нам адседжвацца? Тут управяцца і любанскія атрады. А па асноўных магістралях і па чыгунцы гітлераўцы пруцца на ўсход. Нас чакае работа там,— і камандзір загадаў збірацца ў дарогу. Перад самым адыходам дачуўся, што ў Пасталах ёсць паліцэйскі ўчастак, і гітлераўцы люта здзекуюцца з сялян, знішчаюць савецкіх актывістаў і партызанскіх сувязных. Вырашылі ліквідаваць фашысцкае котлішча. Кіраваць аперацыяй даручылі генералу Канстанцінаву.

Выправіліся ў Пасталы на досвітку. Без адзінага стрэлу знялі вартавых. Перапалоханыя паліцаі адцураліся кулямёта і кінуліся наўцёкі. Следам свісталі кулі стужкі, якую яны самі заправілі ў

кулямёт. Дымным вогнішчам запалаў невялікі заводзіў які працаваў на фашыстаў.

У той жа дзень Корж запісаў у сваім дзённіку :

«Налёт на ўмацаваны варожы ўчастак. Разгром яго. Спалілі завод, узялі станкавы і ручны кулямёты. Знішчана 25 паліцэйскіх».

Горача развітваўся Васіль Захаравіч з Казловым, Канстанцінавым, Мачульскім, Рогавым і Далідовічам. Дамаўляліся трымаць сувязь, калі спатрэбіцца — дзейнічаць разам. Партызанская армія Каржа зноў рушыла ў дарогу.

— Дзе цябе на ўсякі выпадак шукаць? — крыкнуў наўздагон Канстанцінаў.

— У Старобінскім і Ленінскім раёнах.

Захлюпалі па перамешаным з гразёю снезе капыты, партызаны памахалі на развітанне баявым таварышам, і атрад знік у густым ельніку.

## ФРОНТ У ТЫЛЕ

Фашысты лютавалі ў гарадах і сёлах: на плошчах чарнелі шыбеніцы, варушылася зямля пасля масавых расстрэлаў, маладых і дужых гналі ў рабства на Захад. Гітлераўская машына працавала на знішчэнне.

Вось толькі некалькі радкоў са справаздачы камандзіра батальёна, маёра ахоўнай паліцыі Голінга ад 30 верасня 1942 года:

«Батальёну з падпарадкаванымі яму падраздзяленнямі і дададзеным 16-м жандарскім мотаўзводам было даручана 23 верасня 1942 г. знішчыць на паўночным усходзе ад Макран вёскі Барысаўну, Баркі і Забалоцце...

У адпаведнасці з загадам вёскі былі спалены. Пасля адбору надзейных сем'яў было расстраляна: у Барысаўцы — 169 чалавек, у Барках — 705 чалавек, у Забалоць — 289 чалавек. Жывёла, інвентар, збожжа, вазы і машыны канфіскаваны са згоды адпаведных раённых упаўнаважаных па сельскай гаспадарцы».

Такія «справаздачы» пасылаліся з большасці ўпраў і раёнаў. Калі такое чаўплося на роднай зямлі, хіба ж маглі заставацца спакойнымі партызаны? Камандаванне атрадам клапацілася пра пашырэнне сваіх радоў, старалася здабыць дасканалую аўтаматычную зброю і забяспечыць партызан боепрыпасамі. Неабходна было больш дзейсна бараніць насельніцтва ад знішчэння і здзекаў, узмацніць удары па ворагу, адцягнуць і скаваць у тыле найбольшую колькасць фашысцкіх войскаў, бязлітасна помсціць захопнікам і катам.

Ствараць новыя атрады даручылі вопытным партызанам і здольным прапагандыстам Р. Карасёву, Ф. Лісовічу і А. Савіцкаму. Праз сувязных яны заклікалі вясковую моладзь ісці ў лес. Хлопцы адбівалі зброю ў немцаў і паліцаяў і групамі ішлі да партызан. З іх вясною 1942 года быў створаны атрад Пятровіча (А. П, Савецкага) , які хутка вырас у брыгаду імя Кірава.

Дачуўся Васіль Захаравіч, што каля Чырвонай Слабады з'явіўся невядомы раней партызанскі атрад. На сувязь з ім Корж паслаў свайго стрыечнага брата Рыгора Карасёва.

Партызанскі «пасол» абуў лапці, падперазаў вераўчынаю старую світку, узяў доўгі кій, схаваў два пісталеты, гранату і па лясных сцяжынках, пераскокваючы з купіны на купіну, боўтаючыся ў халоднай веснавой вадзе, падаўся ў чырвонаслабодскія лясы.

У гушчары яго затрымаў вартавы і пераправіў да камандзіра. Гэта быў высокі сінявокі капітан Чырвонай Арміі Васіль Аляксеевіч Васільеў. Да затрыманага падышоў і камісар атрада, былы старшы сержант Іван Васільевіч Зібараў.

Карасёў распароў у шапцы падкладку і падаў Васілёву маленькую пісульку ад Камарова. Камандзір і камісар чулі пра аперацыі адважных камароўцаў, але цяжка было паверыць сувязному такоганеваяўнічага выгляду. А што, калі правакацыя? Можа, немцы заманьваюць у пастку?

Доўга раіліся камандзір з камісарам, узважвалі ўсе акалічнасці і магчымыя варыянты. Яны разумелі, як неабходна ўстанавіць сувязь з суседнім атрадам. І рызыкоўна было трапіць у абдымкі да ворагаў. Нарэшце ўзялі з сабою двух аўтаматчыкаў і пайшлі ўслед за Карасёвым. А ён спрытна пятляў са сцяжынкі на сцяжынку, пераскокваў балотныя калюжыны, знаходзіў толькі яму вядомыя кладкі праз дрыгву і надвячоркам прывёў Васільева і Зібарава ў свой штаб.

Камароў гасцінна сустрэў камандзіраў, пачаў распытваць, хто яны і адкуль. Капітан Васільеў родам з Уладзіміршчыны. Зібараў — сібірак з Краснаярска. Разам служылі ў Беластоку, у 23-м аператыўным спецпалку. Адыходзячы з баямі, атрымалі загад злучыцца з 10-й арміяй у раёне Баранавіч. Пакуль дайшлі да Случчыны, Баранавічы апынуліся ў далёкім тыле.

— Пераапрануты ў цывільнае,— расказваў Васільеў,— сам пайшоў разведваць дарогу. Толькі выткнуўся з алешніку, адразу чую «хальт!». Рукі скруцілі два здаравенныя немцы. На допыце ўдалося пераканаць, што вызвалены з турмы і дабіраюся дадому. Праўда, паверылі настолькі, каб адразу не расстраляць, і адправілі пад Беласток біць камень. Вытрываў толькі тыдзень. Адшукаў сярод нявольнікаў

былога лейтэнанта Фёдарава. Адразу зразумелі адзін аднаго з паўслова. Здабылі сякі-такі інструмент, перарэзалі калючы дрот і ўцяклі. Некалькі дзён паблукалі па лесе, выйшлі на дарогу, спыталі ў нейкага тыпуса, ці няма наперадзе немцаў. Ён запэўніў, што молена ісці спакойна. А толькі ўзышлі на масток, як зноў нас схапілі і прыгналі ў лагер ваеннапалонных. На кухні сустрэлася добрая жанчына. Разгаварыліся. Муж яе — камандзір Чырвонай Арміі, недзе ваюе на фронце. Яна і дапамагла нам уцячы зноў. Неўзабаве ўдалося знайсці сваіх таварышаў. Каля Крынак сабралася група чырвонаармейцаў, адрэзаных ад сваіх часцей. Усе яны былі добра ўзброеныя і спрабавалі прабіцца да сваіх, каб уліцца ў рады Чырвонай Арміі.

Цяпер у атрадзе больш за паўсотні байцоў, верных вайсковаму абавязку. Усе імкнуцца біць фашыстаў у радах рэгулярных войск. Таму і кіруемся ўвесь час на ўсход,— расказаў Васільеў.

— А вы ведаеце, да чаго заклікала партыя народ у першыя дні вайны? — дапытліва паглядзеў Корж і выразна, адсякаючы кожнае слова, працытаваў: «У занятых ворагам раёнах трэба ствараць партызанскія атрады, конныя і пешыя, ствараць дыверсійныя групы для барацьбы з часцямі варожай арміі, для распальвання партызанскай вайны скрозь і ўсюды, для ўзрываў мастоў, дарог, пашкоджання тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі... У захопленых раёнах ствараць невыносныя ўмовы для ворага і ўсіх яго пасобнікаў, знаходзіць іх і знішчаць на кожным кроку, зрываць усе іх мерапрыемствы». Як вы лічыце, вас гэта датычыцца?.. Дзе цяпер праходзіць лінія фронту, вы ўяўляеце? — і Корж па карце правёў рысу далёкіх вогненных рубяжоў вайны.— Пакуль будзеце прабівацца, страціце нямала людзей і куды дойдзеце, яшчэ невядома. А тут кожны партызан варты цэлага ўзвода. Мы павінны затрымаць як мага больш варожых сіл, каб лягчэй было там,— ён паказаў рукою на ўсход.— Пакуль саюзнікі адкрыюць другі фронт, мы яго ўжо адкрылі тут. Збяром сілы і будзем на ўсіх дарогах знішчаць жывую сілу і тэхніку, каб яна не дайшла да фронту.

— Ваяваць мы гатовы і ўмеем. Нават збольшага авалодалі метадамі партызанскай барацьбы, але вернасць прысязе патрабуе змагацца ў дзеючай арміі,— не так ужо рашуча запярэчыў Васільеў.

— А хіба ж мы бяздзейнічаем? Вунь колькі фрыцаў і іх памагатых патаўклі за гэты час, колькі выратавалі савецкіх людзей! Хіба гэта не вернасць вайсковаму абавязку? Ваш страявы, мой партызанскі вопыт памножаць нашы сілы. Будзем разам ставіць і вырашаць складаныя задачы. Мне ж не толькі ў дваццатыя гады, але і ў Іспаніі давялося партызаніць.

Васільеў і Зібараў з даверам і павагай слухалі ўпэўненага чалавека з шырокім стомленым тварам і маладымі яснымі вачыма. Пра баі ў Іспаніі яны ведалі толькі з газет, а тут сустрэлі ўдзельніка падзей, за якімі сачыў увесь свет.

— Та-ак,— уздыхнуў Корж,— у партызанскай барацьбе няма статутных правіл пазіцыйнага бою. Кожная хвіліна рыхтуе непрадбачаныя нечаканасці, прымаць рашэнне і дзейнічаць трэба імгненна. У нас не бывае аднаго бою, падобнага на другі... Памятаю, у горадзе Кастуэра падрыхтаваў я інтэрнацыянальную групу падрыўнікоў. Чалавек сорак. Былі ў ёй іспанцы, чэхі, югаславы і мой перакладчык Аляксей. Я ўжо нашым хлопцам расказваў пра яго. Цікавы чалавек быў. Дык вось, выправіліся мы з транспартам зброі ў тыл франкістам, а вяртаючыся назад, трэба было зрабіць завалы на горных дарогах. Зброю ўсклалі на 12 мулаў. Абуўся я ў альпаргаты, у такія брызентовыя чаравікі на вяроўчанай падэшве, каб не коўзка было на камяністых сцежках. Выйшлі мы з Кастуэра на змярканні. Горы кантралявалі фашысты, і нам прыйшлося на ноч схавацца ў дзвюх зарослых кустамі пячорах. У адной паставілі мулаў, другую занялі самі...

Да вогнішча паціху падыходзілі партызаны. Нехта сказаў: «Васіль Захаравіч пра Іспанію расказвае»,— і пацягнуліся адзін за адным. А ён працягваў:

— Спяць мае змораныя байцы, а я вачэй не магу заплюшчыць: усё прыпомнілася і перадумалася пад зорным іспанскім небам. Задрамаў толькі пад раніцу, а на світанні чую — недзе на горным схіле блямкаюць званочкі. Пабудзіў свайго камісара Хуана і загадаў, каб затрымаў пастухоў з казіным статкам, што пазвоньвае непадалёк. «Мы ж не фашысты,— запярэчыў ён.— Што скажуць пасля гэтага людзі пра сваіх абаронцаў? Не бойцеся, таварыш камандзір, бедныя пастухі нам не зробяць шкоды». Падумаў я, памеркаваў і згадзіўся з камісарам — ён жа лепей ведае нораў і характар сваіх землякоў. Згадзіўся, а потым пашкадаваў. З тае пары заўсёды ў час аперацыі затрымліваю кожную фурманку і любога падарожніка. Так яно спакайней.

— Што ж было далей? — пацікавіўся Васільеў.

— Не прайшла і гадзіна, як на схіле з'явіліся ўзброеныя франкісты, зараўлі машыны. Тут ужо доўга думаць не прыходзілася. Загадваю рыхтавацца да бою. Хуценька з камення складаем барыкады, робім кулямётныя гнёзды, умацоўваем хады і пячоры. А на нас паўзуць і паўзуць фалангісты. Гляджу, многія мае байцы ледзьве стрымліваюцца, каб не націснуць на курок. Папярэджваю: «Без каманды не страляць!» А фашысты падпаўзаюць бліжэй і бліжэй, ужо і твары

выразна відаць. Застаецца меней за сто метраў. Камандую «Агонь!». Трапныя стрэлы скасілі дзесятак фашыстаў, астатнія пруцца наперад. Некалькі падпаўзло зусім блізка, бачу — бяруць на мушку мяне, але мой перакладчык Аляксей забіў аднаго, потым другога.

Біліся да змяркання. Сем атак адбіла наша маленькая група. Схіл гары ўкрыўся трупамі фашыстаў. Хоць мы і перамаглі, але было зразумела, што зброю даставіць нам не ўдасца. Калі адкаціліся апошнія фалангісты, нашы байцы вырашылі зволіць камісара за яго памылку. Ён быў прыгнечаны. Акрыленыя першай перамогай, байцы памякчэлі і згадзіліся даравацъ Хуану. У нас страт не было, але і заданне выканаць пе ўдалося. Вось што значыць «дробязь» у партызанскай вайне. Выходзіць, і пастухі розныя бываюць,— скончыў Корж і кіёчкам паварушыў вогнішча.

— Кажуць, Васіль Захаравіч, вас узнагародзілі за баі ў Іспаніі? — пацікавіўся Зібараў.

— Ордэнамі Чырвонага Сцяга і Чырвонай Зоркі. А да ордэнаў былі цяжкія баі ў Валенсіі і на Арагонскім фронце. Каля Бельчыта быў паранены ў руку, але поля бою не пакінуў, пакуль не акружылі і не ўзялі ў палон двухтысячную групоўку франкістаў. Вось тады і разгледзеў фашысцкае аблічча, і нянавісць запяклася ў сэрцы на ўсё жыццё.

Корж устаў, размяў здранцвелыя ногі, прыжмурыўшы вочы, паглядзеў на Васільева і Зібарава.

— Ну дык як, хлопцы, разам ці паасобку? Вы ж ведаеце байку пра венік: па пруточку і дзіця пераламае, а звязаны і асілак не сагне.— Памаўчаўшы, дадаў: — Мой прынцып такі: не зможаш знішчыць ворага, выратуй з бяды нашага чалавека.

— Давайце разам, Васіль Захаравіч. Будзем чакаць вашага загаду,— па-вайсковаму адказаў Васільеў.

— Загады загадамі, але і сам варушы мазгамі, смялей дзейнічай і глядзі пільна,— па праву старэйшага Корж перайшоў на «ты».

Васільеў запомніў гэту параду камандзіра. Дачуўся неяк, што ў Чырвонай Слабадзе лютуе нямецкі гарнізон, і пачаў рыхтаваць адказную і дзёрзкую аперацыю. Разведка паведаміла, дзе размешчана ахова і асноўныя варожыя сілы.

Калі ўсё было гатова, у тры гадзіны ночы атрад Васільева выйшаў з Малога Рожана на Чырвоную Слабаду. На дасвецці партызаны нячутна знялі варту каля ўправы і паліцэйскага ўчастка, у памяшканне кінулі некалькі гранат. Разбуджаныя выбухамі немцы і паліцаі выскаквалі з суседніх дамоў у адных споднiках, адстрэльваючыся, уцякалі з мястэчка.

Атрад Васільева захапіў 18 аўтамашын, шмат зброі і патронаў, партызаны асядлалі каля двух дзесяткаў заараных у немцаў коней.

Увечары ў клубе партызаны правялі ўрачысты сход, прысвечаны 25-й гадавіне Кастрычніка. Расказвалі пра становішча на фронце, заклікалі чырвонаслабодцаў да актыўнай барацьбы з фашыстамі. Вечар закончыўся песнямі і танцамі. За поўнач партызаны разыходзіліся з мясцовымі хлопцамі.

Назаўтра разам з атрадам у лес пайшло каля пяцідзесяці ўзброеных юнакоў. Хутка атрад Васільева перарос у буйную партызанскую брыгаду, якая ўзяла пад кантроль Чырвонаслабодскі і Ганцавіцкі раёны. Данясенні «аб праробленай рабоце» ў штаб Камарова перадаваліся «па ланцужку» ад сувязнога да сувязной. Тым жа шляхам ішлі і заданні камандзіра.

Дзеянні камароўцаў выклікалі давер і любоў навакольнага насельніцтва. Да атрада далучаліся невялікія ўзброеныя групкі акружэнцаў, падлячыўшы раны, знаходзілі сцежкі да партызан так званыя «прымакі», ішла моладзь і сталыя людзі. З кожным з іх гутарыў, кожнага правяраў сам камандзір. І ніколі не памыляўся.

Прыбіўся неяк да атрада салідны чалавек. Назваў сябе савецкім палкоўнікам Раеўскім, пералічыў нумары палкоў, у якіх служыў, назваў прозвішчы камандзіраў. Доўга прыглядаўся да яго Васіль Захаравіч і засумняваўся ў шчырасці гаваркога і мілага з выгляду прыблуды. Праверка пацвердзіла яго сумненні. Фашысцкі лазутчык, хітра замаскіраваны шпіён. Прыціснуты фактамі, «Раеўскі» вымушаны быў прызнацца, каяўся, прасіў літасці. Але хіба можна быць літасцівым да здраднікаў і перавертняў?

...Аднойчы прывёў Іван Некрашэвіч свайго брата, якому ўдалося з Асіповіч прабрацца ў сваю апусцелую хату ў Баравой. Браты сустрэліся ноччу. «Што збіраешся рабіць, Сяргей?» — спытаў старэйшы брат.

«Я чалавек рабочы, які-небудзь занятак сабе знайду».

«Не, браце, выбар у цябе адзін: з намі ці супраць пас. Калі часам надумаешся працаваць на фашыстаў, судзіць цябе будзем і прысуд выканаем самі»,— папярэдзіў Іван.

«Куды я без вас дзенуся? Дарога ў нас адна. Вядзі!» — згадзіўся Сяргей.

Усю размову з братам Некрашэвіч пераказаў камандзіру: ведаў, змоўчаць або схлусіць яму нельга.

— Мы цябе, Сяргей, даўно чакалі,— папракнуў Васіль Захаравіч.— Твая спецыяльнасць якраз нам і патрэбна.

Неўзабаве Сяргей Некрашэвіч зрабіўся майстрам дыверсій на чыгунцы, пусціў пад адхон не адзін варожы эшалон, быў адзначаны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі.

Да пачатку 1943 года атрад Камарова вырас у магутнае партызанскае злучэнне. У яго ўваходзілі брыгады Васільева, Герасімава, атрад імя Чапаева, на чале з Нранягіпым, атрады Дамброўскага і імя Шчорса. У брыгадах і атрадах працавалі партыйныя і камсамольскія арганізацыі. Толькі ў атрадзе Камарова было 79 камуністаў. Члены партыі і камсамольцы вялі вялікую выхаваўчую работу. Самыя рызыкоўныя і адказныя заданні выконвалі камуністы. Яны трымалі цесную сувязь з насельніцтвам і з падпольнымі групамі ў мястэчках і сёлах.

Ленінскі, Лунінецкі і Ганцавіцкі раёны былі ў руках партызан. У бязлесных Драгічынскім, Іванаўскім і Жабчыцкім раёнах яшчэ трымаліся немцы. Яны павялічылі гарнізоны і ўмацаваліся ў раённых цэнтрах, каб планамерна і бязлітасна знішчаць мірнае насельніцтва. Камандаванне злучэннем накіравала ў Іванаўскі раён мясцовых жыхароў Кунькова, Прахацкага і Міхайлоўскага для работы з насельніцтвам. У хуткім часе з патрыётаў раёна арганізаваліся тры атрады, якія адразу пачалі граміць фашысцкія гарнізоны, ірваць і паліць масты на магістралях, якія вялі на ўсход.

Разведка паведаміла Васілю Захаравічу, што ў пасёлку Леніна гітлераўцы знішчылі каля дзвюх тысяч савецкіх грамадзян і трымаюць у турме яшчэ паўсотні смяротнікаў.

Глыбока ўражаны гэтаю весткаю, задумаўся камандзір. Падабраў самых здатных і кемлівых разведчыкаў, пачаў распрацоўваць аперацыю. Стала дакладна вядома размяшчэнне варожых агнявых гнёздаў, размяшчэнне гарнізона, вывучаны падыходы да турмы і да фашысцкіх установ.

Камандзіры прадумалі і ўлічылі ўсе акалічнасці, прадугледзелі самыя нечаканыя варыянты і сітуацыі. Як толькі ўсё было падрыхтавана, 150 партызан атрадаў Камарова, Пятровіча і Шыша, узброеныя ручнымі кулямётамі і аўтаматамі на світанні ўвайшлі ў раённы цэнтр. Адразу захлынуліся 6 кулямётных гнёздаў, партызаны ўзарвалі тры фашысцкія ўстановы, узялі шмат зброі і патронаў, з турмы вызвалілі 48 патрыётаў. Уся аперацыя заняла не больш гадзіны.

Яшчэ адзін раён стаў партызанскім. Праз некалькі дзён ліквідавалі гарнізон на станцыі Сянкевічы, узарвалі мост праз Лань, спалілі эшалон з боепрыпасамі, які ішоў на фронт, знішчылі 75 гітлераўскіх салдат і афіцэраў.

Па 21 дзень быў спынены рух на чыгунцы.

## НЯМА СПАКОЮ НІ ХВІЛІНЫ

Ранняя вясна падсушыла дарогі і лясныя сцежкі, зялёнай смугою ахутала гаі і ўзлессі, на маладых хвойках выпырхнулі ружаватыя, у слязінках смалы парасткі, заселянелыя бары і дубровы зазвінелі, заціўкалі птушынымі галасамі.

Праз зялёную смугу клейкай лістоты пырснуў малінавы прамень сонца. Васіль Захаравіч устаў з яловага веціця, прыцярушанага леташнім сенам, нячутна абышоў суседа, прыслухаўся да мірнага птушынага шчэбету і на хвіліну здалося, што няма ні вайны, ні пакут — скрозь цішыня і спакой.

Прайшоўся па лагеры, прыкрыў шынялём соннага Чуклая, паглядзеў на спакойны твар Нордмана, спыніўся каля Ліфанцьева. Тады, у першы дзень у Пінску, ён без асаблівага энтузіязму браў іх у атрад: кволымі здаваліся хлапчукі. А якімі адважнымі байцамі сталі цяпер, якія надзейныя таварышы гэтыя «камеамаляты».

Праверыў пасты. Трахім Рудзеня далажыў, што непадалёк ад лагера дзве дзяўчыны пасуць чараду кароў.

— Яшчэ трава толькі праклюнулася, а яны пасвяць,— прабурчаў Корж.— Некалі пастухі мне шмат крыві папсавалі,— ён зноў успомніў казіны статак на гары Арначэс.— Вось што, Трахім, схадзі ты да іх, далікатна пагавары і скіруй куды-небудзь у другі бок, схлусі, што там трава гусцейшая. Хай гоняць туды.

Сунуўшы пісталет у кішэню, Рудзеня пайшоў. Корж назіраў, як ён, размахваючы рукамі, угаворвае дзяўчат з нейкімі дзіўнымі касмыкамі на галовах. Не ўтрымаўся, павесіў на грудзі аўтамат і падаўся да іх. Падышоўшы бліжэй, разгледзеў, што на галаве ў дзяўчат прывязаны пукі кудзелі, і яны спрытна круцяць на верацяно зрэбную нітку. Не адрываючыся ад работы, дзяўчаты адказалі на прывітанне.

— Гэта вас паны фашысты да прабабчынага рамяства прывучаюць? — спытаў Васіль Захаравіч.

Адна азірнулася і ціха адказала:

— А што рабіць? Голымі і босымі гэтыя вылюдкі пакінулі. Зімою афіцэры і тыя ў бабскія транты пазакручваліся. Мы да вайны і прасці не ўмелі. А навошта — бяры ў магазіне, што душы трэба.

З лесу падышлі Сцешыц з Шырыным. І ў гэты момант зусім побач, па дарозе на Ананчыцы, загрукатаў нямецкі абоз. Партызаны пападалі за зваленую сасну. Корж з папрокам зірнуў на сяброў, што прыйшлі без зброі, і ўзяў на мушку седакоў на першай фурманцы. Кароткая чарга збіла чатырох фрыцаў.

— Гранаты да бою! Акружаць ворагаў! Наперад за мною! — крычаў камандзір і бег да разгубленых фашыстаў.

Стрэлы і крыкі пачулі ў лесе, і партызаны кінуліся да дарогі з другога боку. Немцам, відаць, здалося, што трапілі ў пастку, і яны кінуліся наўцёкі. Тыя, што ўратаваліся, доўга блукалі па лесе, па дрыгве, натыкаліся на партызанскія засады і гінулі адзін за адным.

Рудзеня, Сцешыц і Шырын балюча перажывалі сваю прамашку.

— Другі раз будзеце разумнейшыя,— казаў Корж.— На вайне нават на спатканне з дзяўчынаю трэба ісці з аўтаматам.

Партызаны дзівіліся рашучасці свайго камандзіра: «Гэта ж трэба, адзін пайшоў з аўтаматам на фашысцкі абоз. Перачакаў бы, пакуль праедуць. Усё адно ўсіх не пераб'еш».

— А яны якраз ехалі тваю жонку ці маці вешаць, вёску тваю паліць. Ты б чакаў, пакуль праедуць? Я, напрыклад, кожнага нашага чалавека кроўным родзічам лічу і абавязаны абараніць яго, а пра сябе думаць няма калі,— упікнуў Корж занадта асцярожнага байца. І растлумачыў: — Біць ворага трэба знянацку. Калі б яны нас першымі заўважылі і абстралялі, нам бы кепска было, а тут мы захапілі ініцыятыву, нагналі страху. Яны ж і ўявіць не маглі, што ў пас толькі адзін аўтамат. Ды і нам навука, як кажуць, не хадзі за хлеў без друка.

Пасля снедання Камароўцы рушылі на Чырвоную Слабаду, у тыя мясціны, дзе зімою прамчалася 300 партызанскіх фурманак, дзе быль і небыль пра гэты рэйд расказваюць яшчэ і цяпер.

Па набрынялай ад веснавога разводдзя дрыгве перабіраліся марудна і доўга. Ногі засмоктвала багна, у ботах чвякаў тарфяны жужаль, месцамі брылі ў сцюдзёнай іржавай вадзе і, вядома, праклінали палескія балоты.

— Дарэмна лаеце, хлопцы. Гэта ж наша золата. Вось прагонім фрыцаў, пракапаем тут канавы, загудуць трактары, і на гэтых тарфяніках загамоніць пшаніца, як гай.

— А вы летуценнік, Васіль Захаравіч,— усміхнуўся Сцеіныц.

— А ты хіба не марыш пра будучае? Пра перамогу, напрыклад. Без мары, браце, нельга жыць і рабіць нічога нельга. Тут усе летуценнікі. Таму і падстаўляюць лабацІны пад фашысцкія кулі... Ворагі Уладзіміра Ільіча лічылі летуценнікам, а ён быў рэаліст... Д'ябал! Памажы выцерабіцца. Так і ў пекла не доўга шуснуць,— хапаючыся за кусты, прабурчаў Корж і ледзьве вылез з густога балотнага жужалю.

Нарэшце перайшлі балотнае разводдзе і рушылі па торнай сцежцы. У лесе іх ужо чакаў сувязны. Ён расказаў, што немцаў непакоіць мноства партызан у гэтым раёне і яны каля вёскі Салагошч зрабілі ўзмоцненую засаду.

Партызаны абышлі яе з тылу, уварваліся ў вёску, разбілі фашысцкі гарнізон, захапілі значныя трафеі і, не страціўшы ніводнага байца, пераправіліся цераз Случ, абмінулі Старобін і прайшлі па маршруту зімовага рэйду.

Вясной і летам перад камандаваннем злучэння стаяла адна задача: актыўна і ў розных месцах біць ворага, знішчаць эшалоны з жывой сілай і тэхнікай па дарозе на фронт. Па чыгуначных магістралях Піншчыны ішлі і ішлі вайсковыя эшалоны на ўсход. Хіба можна іх прапускаць далей? Неабходна ўзрываць цягнікі, разбураць чыгункі, узмацніць дыверсіі на станцыях і лясных дарогах. Але як? Толу, здабытага яшчэ ў Пінску, амаль не засталося, іншых сродкаў пакуль што няма.

Камандзір адшукаў Сяргея Некрашэвіча, адвёў яго ўбок і пачаў распытваць:

— Скажы ты віне, таварыш рабочы клас, як можна пусціць пад адхон цягнік?

— Гэта вельмі проста. Трэба адкруціць рэйкі, выцягнуць кастылі і... загрыміць як міленькі.

— А яшчэ як? — пытаўся Корж.

— Падкапаць 24 шпалы. Паравоз ускочыць на іх, асядзе, вагоны і папаўзуць адзін у адзін, як тыя карабкі запалак.

— Не менш як 24, кажаш?

— Бачыце, паравоз якраз становіцца на 24 шпалы. Калі падкапаць меней, можа і праскочыць,— тлумачыў Сяргей.

— Дзякую за параду... Вось што... Збірайцеся з Іванам на адказнае заданне.

Праз два дні Іван Некрашэвіч узначаліў групу з 20-ці чалавек. Раздаў байцам сухі паёк і павёў іх на заданне: разабраць каля Жыткавіч чыгунку, па якой увесь час цягнікі вязуць танкі, салдат і афіцэраў на фронт. Тэхнічнае кіраўніцтва дыверсіяй было даручана Сяргею. Яго адзіным інструментам быў французскі ключ і рыдлёўка. У лесе групу дагнаў малодшы брат Некрашэвічаў — Міша. Як яго ні ўгаворвалі, як ні палохалі, хлапчук не здаваўся.

— Куды вы, туды і я. Сам жа казаў: «Аддзяленне Некрашэвічаў». Чым я горшы?

Так і не адстаў.

Ноччу выйшлі на чыгунку. Партызаны залеглі ў кюветах, а Сяргей з Іванам, змяняючы адзін аднаго, адкручвалі гайкі, выдзіралі кастылі, спрытна выграбалі з-пад шпалаў баласт і ўсё рабілі акуратна, каб ніхто не заўважыў слядоў іх працы.

На світанні адышлі ў лес адпачыць. Там Іван сустрэў меншага брата партызанскага камандзіра Лісовіча. Ён расказаў, што ў вёсцы Браніслаў жыве агент гестапа, які выдае партызанскія сем'і і былых савецкіх работнікаў. Група Некрашэвіча вырашыла абараніць вяскоўцаў ад прадажнага найміта і пакараць здрадніка. Толькі падняліся, чуюць — па рэйках прагрукацела дрызіна. Іван запытальна паглядзеў на Сяргея. Той паспяшаўся супакоіць брата:

— Так і павінна быць. Дрызіна праскочыць. Правяраюць. Значыць, хутка пойдзе цягнік. Сядзець нам тут няма чаго. Хадзем!

У Браніславе гестапаўскага агента ўзялі адразу. Закалаціўся, папоўз па падлозе, пачаў маліць літасці: «Я не вінаваты. Бярыце жандара. Ён усіх на шыбеніцу аддае. Ву-у-нь яго хата». Такое, відаць, нутро ў здраднікаў — гінуць весялей разам з такімі, як сам.

Жандар люта супраціўляўся. Каб не рызыкаваць жыццём сяброў, Некрашэвіч загадаў жонцы і дзецям здрадніка выйсці з хаты. Калі жандар застаўся адзін, хату запалілі. А ў гэты час на чыгунцы пачуўся страшэнны грукат і выбухі. Над лесам узнялося воблака жоўтага дыму, зноў загрымелі выбухі, шуганула зыркае полымя.

Надвячоркам адшукалі ў лесе таго самага пастушка Лісовіча, і ён расказаў, што зваліўся паравоз і вялізныя жалезныя скрыні. У іх доўга рваліся снарады. Немцы ачапілі гэтае месца і нікога не падпускаюць.

— Бронецягнік! — усміхнуўся Сяргей.

— А ўсё ж заданне Васіля Захаравіча не выканалі,— зажурыўся Іван.— Было загадана спусціць эшалон з жывою сілай, а тут загрымелі нейкія жалезныя скрыні. Не-е, хлопцы, з пустымі рукамі вяртацца нельга. Прыйдзецца папрацаваць яшчэ.

Група накіравалася да станцыі Старушкі. Тым жа спосабам падкапалі шпалы і раскруцілі рэйкі.

А Корж хваляваўся, чакаючы групу Некрашэвіча. Рэха выбухаў каля Браніслава дакацілася да атрада. Прайшлі ўсе тэрміны, а партызаны не вярталіся. Камандзір пасылаў разведчыкаў, але тыя нічога не маглі паведаміць.

Нарэшце стомленыя, агаладалыя «чыгуначнікі» з'явіліся зусім з другога боку.

— Усе цэлыя? — першы да Некрашэвіча падбег камандзір.

— Нават з прыбыткам. Выходзіла 20, вярнулася 21,— ласкава паляпаў па плячы малодшага брата Іван.

— Дзе ж вы прападалі?

— Адразу не ўдалося выканаць ваша заданне. Кульнуўся бронецягнік, грукату нарабіў шмат, а толку мала. Салдат у ім, можа, якія дзесяткі два было ўсяго. Вось і пайшлі цікаваць. Вы ж загадалі

знішчыць эшалон з жывою сілаю. Цяпер парадак. Заданне выкапана, таварыш камандзір!

Пачуўшы такі рапарт, Корж рагатаў да слёз.

— А ты разумееш, садовая твая галава, што такое бронецягнік? Колькі тон смерці везлі на нашага брата! Цяпер фрыцам доўга разбіраць завал. Малайцы, хлопцы!

Пазней за гэтую аперацыю Іван Аляксеевіч Некрашэвіч быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

А ў дзённіку камандзіра з'явіўся такі запіс:

«8/VI-42 г. Шляхам раскручвання рэек зроблена крушэнне вайсковага эшалона, які ішоў па фронт, паміж Жыткавічамі і ст. Старушкі. Па вестках ад жыхароў, якія былі на месцы крушэння, знішчана 300 салдат і афіцэраў, шмат паранена».

Праз некалькі дзён да запісу Васіль Захаравіч Дадаў:

«Па больш дакладных вестках знішчана 600 гітлераўцаў».

А 26 чэрвеня ў старобінскіх лясах партызаны пачулі паведамленне Савінфармбюро, што ў Беларусі партызанскі атрад тав. К. арганізаваў крушэнне эшалона з боепрыпасамі і жывой сілай праціўніка. Пасля аднаўлення чыгункі партызаны пусцілі пад адхон яшчэ адзін вайсковы састаў.

— Браткі, пра нас ведае і гаворыць Масква! — аж захлыналіся ад шчасця Камароўцы і віншавалі групу Некрашэвіча.

— От каб нам хоць пудоў з пяць толу ды добрых запалаў, мы б ім не такі канцэрт наладзілі,— бедаваў Сяргей.— А гэта так, саматужніцтва.

Але і гэтае «саматужніцтва» рабіла сваю справу. На чэрвеньскіх старонках дзённіка В. З. Каржа шмат такіх запісаў:

«Расшылі шлях у тым жа месцы. Крушэнне адбылося ў 2 гадзіны ночы. Насельніцтва паведаміла, што шмат забіта і паранена немцаў».

«Паміж Жыткавічамі і Дзедаўкай у 6 гадзін раніцы пушчаны пад адхон цягнік. Колькасць забітых і параненых пакуль што не вядома».

Рэха выбухаў на палескіх магістралях даходзіла да Масквы. За дзейнасцю злучэння Каржа ўважліва сачыў Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі. Пра справы Пінскага злучэння паведамляла рацыя Мінскага падпольнага абкома партыі, які ўзначаліў В. І. Казлоў.

А партызаны дзейнічалі ўсё больш актыўна. Сотні нямецкіх снарадаў не дайшлі да фронту, мільёны варожых куль не вылецелі з руляў аўтаматаў, тысячы гітлераўскіх галаварэзаў засталіся на адхонах беларускіх чыгунак, не паспеўшы зрабіць ніводнага стрэлу. Колькі нашых салдат, жанчын і дзяцей абавязаны жыццём мужнасці і вынаходніцтву партызан!

У верасні 1942 года савецкія самалёты прарваліся ў глыбокі тыл і даставілі атрадам Піншчыны рацыю, шыфры і кваліфікаваных радыстаў, а неўзабаве з Вялікай зямлі прыбыў упаўнаважаны ЦК КП(б)Б А. Я. Кляшчоў і ўзначаліў Пінскі падпольны абком партыі. У склад абласнога камітэта быў уведзены камандзір злучэння, якое ўжо налічвала больш за 2 тысячы байцоў.

У пастанове ЦК КП(б)Б ад 25 жніўня 1942 года гаварылася: «Даручыць тт. Кляшчову і Каржу прыняць захады для наладжвання работы партыйнага падполля, па аднаўленню дзейнасці падпольных партыйных арганізацый у раёнах, з якімі страчана сувязь, узмацніць палітычную работу сярод насельніцтва, пашыраць партызанскі рух на тэрыторыі вобласці, актывізаваць дзейнасць існуючых атрадаў (ствараць новыя атрады, устанаўліваць з імі сувязь)».

У кожным атрадзе і брыгадзе разгортвалася дзейнасць партыйных арганізацый па выхаванню моладзі, у кожным вызваленым ад гітлераўцаў сяле камуністы адразу пасля бою праводзілі масавыя мітынгі, расказвалі пра падзеі на франтах, знаёмілі з важнейшымі партыйнымі дакументамі і зваротамі, стваралі падпольныя арганізацыі і групы, атрады папаўняліся адважнымі і сумленнымі патрыётамі. Голас Масквы натхняў партызан Палесся. Дапамогу і клопаты Радзімы яны адчувалі заўсёды.

Ужо не з французскім ключом і рыдлёўкаю хадзілі дыверсійныя групы на чыгункі — на ўсіх магістралях поўдня рэспублікі грымелі выбухі, ляцелі пад адхон саставы з жывою сілай і тэхнікай, ірваліся і гарэлі масты, на многія тыдні спыняўся рух на чыгунцы. Толькі паспеюць акупанты аднавіць дарогу, як зноў ад першых жа эшалонаў заставаліся груды металу і трэсак.

Цяжкі час арганізацыі, падбору, згуртавання, выхавання мужнасці народных заступнікаў і адважных мсціўцаў даўно прайшоў. За год атрад Каржа, у якім пад восень 1941 года заставалася 15 байцоў, вырас у магутнае партызанскае злучэнне Пінскай вобласці. Старобінскі, Чырвонаслабодскі, Ленінскі, Ганцавіцкі, Лунінецкі, Пінскі, Столінскі раёны былі партызанскімі і жылі па савецкіх законах.

Кожная аперацыя брыгады, атрада, дыверсійнай групы вымагала вялікай рызыкі, патрабавала дакладнай стратэгічнай распрацоўкі, партызанскай кемлівасці, вытрымкі і мужнасці.

Чыгуначныя магістралі, масты і дарогі пільна ахоўвалі гітлераўцы. Партызаны навучыліся нячутна здымаць вартавых, так закладваць і маскаваць зарады толу, што нават кваліфікаваныя сапёры не маглі іх заўважыць.

З 8 на 9 жніўня 1943 года Камароўцы каля Лунінца падышлі да чыгункі, абстралялі ахову і ўзарвалі 1957 рэек. Выбухі на чыгунцы ў нямецкім гарнізоне палічылі за артылерыйскую кананаду і пачалі рыхтавацца да эвакуацыі. Магістраль не працавала каля месяца. Гітлераўцы тэрмінова пачалі рамантаваць дарогу — удзень і ўночы трамбавалі палатно, укладалі шпалы і рэйкі. 19 верасня камісія прыняла адрамантаваны ўчастак, паставілі ўзмоцненую варту, а ноччу 20 верасня выбухі зноў скаланулі суседнія лясы, паляцеў пад адхон паравоз, палезлі адзін на адзін вагоны. Магістраль, па якой везлі тысячы тон смяротнага грузу і апантаных галаварэзаў, зноў замерла больш як на месяц.

Беларускі штаб партызанскага руху вызначаў самыя важныя ўчасткі чыгуначных магістраляў, забяспечваў Пінскае злучэнне толам і запаламі. Нячутна падпаўзалі партызаны да адхонаў, калі трэба было, здымалі варту, і на чыгунках Палесся грымелі выбухі, ляцелі ў паветра эшалоны. З 15 па 23 верасня 1943 года брыгада імя Будзённага ўзарвала 1500 рэек, брыгада імя Кірава — 1200, імя Леніна — 800. Чыгунка поўдня Беларусі замерла на доўгі час. Пасля выбухаў на паўночных чыгунках, у раёне Обалі, Полацка і Віцебска, фашысты вымушаны былі асноўныя смертаносныя грузы адпраўляць па дарогах Палесся, але і тут сотні эшалонаў траплялі ў партызанскія пасткі і ператвараліся ў груды металічнага лому і друзу.

Самаахвярная работа партызан Пінскага злучэння выратавала тысячы савецкіх воінаў, адвяла смерць ад тысяч сумленных людзей. 40-тысячную гітлераўскую армію скоўвалі партызаны, не давалі фашысцкім захопнікам спакою ні ўдзень, ні ўночы, ратавалі савецкіх людзей ад выгнання ў фашысцкае рабства, бязлітасна каралі фашысцкіх катаў і іх памагатых.

Зімою 1943 года штаб і асноўныя сілы Пінскага злучэння размясціліся бліжэй да родных мясцін Васіля Захаравіча. Атрады занялі вёскі Хорастава, Гоцк, Гаўрыльчыцы, Беразняк!, Навіну і Варапаеў гару.

На вялікай паляне сярод лесу, каля Векарава, партызаны падрыхтавалі аэрадром. У змроку палалі сігнальныя вогнішчы. Да іх праз лінію фронту прарываліся нашы самалёты, выгружалі боепрыпасы, свежыя газеты, пасылкі і лісты ад родных і зусім незнаёмых сяброў і сябровак з далёкага тылу. Самалёт даставіў партатыўную друкарню. У спецыяльна абсталяванай зямлянцы нараджаліся маленькія лісткі вялікай выбуховай сілы — друкаваўся орган Пінскага абласнога камітэта Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі «Палеская праўда». Па навакольных сёлах разляталіся сотні лістовак. Зводкі Савінфармбюро, інфармацыя пра баявы і працоўны гераізм савецкіх людзей,

расказы пра подзвігі партызан натхнялі патрыётаў на барацьбу з фашызмам.

У вёскі, занятыя партызанамі, баяліся паткнуцца фашысты і іх паслугачы. Кожны вечар то ў Хораставе, то ў Рахавічах, то ў Чаланцы ў чыёй-небудзь прастарнейшай хаце звечара рыпаў гармонік, бухаў бубен. Збіраліся не толькі маладыя, прыходзілі сталыя і нават старыя кабеты і мужчыны: слухалі партызанскіх камандзіраў і палітрукоў, распытвалі, гаманілі, а на разыходзіны звычайна адрывалі польку-трасушку або грацыёзна-павольную кадрылю. Па гэтых вечарынках чыталі ўголас «Палескую праўду», часам партызаны прыносілі хоць і запозненыя маскоўскія газеты. «Правда», «Красная звезда» пераходзілі з рук у рукі, многія прасілі: «Дай толькі патрымаць».

На гэтыя вечарынкі часта заходзіў Васіль Захаравіч — пагаварыць, параіцца з землякамі, паслухаць, хто што бачыў, дзе што чуў. На адной такой вечарынцы Васіль Захаравіч сустрэў маладую настаўніцу Ніну Пятроўну Грышчанка. Падсеў, распытаў, як жывецца, што думае рабіць далей.

— Куды вы, туды і я падамся. Хопіць хавацца ад гэтых чорных анёлаў смерці. Ведаю, нялёгка будзе: Алачцы маёй толькі гадок мінуў, але сярод сваіх і паміраць весялей.

— Навошта паміраць? Жыць трэба, змагацца за будучае вашай Алачкі... Вас у атрадзе якраз і не хапае — грамацей патрэбен нашай газеце.

Угаворваць Ніну Пятроўну не прыйшлося. Яна стала карэктарам «Палескай праўды».

— У нашу рэдакцыйную зямлянку часта заходзіў Васіль Захаравіч,— праз трыццаць гадоў успамінае Ніна Пятроўна.— Цікавіўся, ці не цячэ страха, ці не галодныя мы, ці хопіць паперы на наступны нумар газеты.

Паперу нам здабывалі партызаны ў разгромленых гарнізонах, у занятых вёсках раздавалі нашу газету, праз падпольшчыкаў перадавалі ў Пінск і ў Столін. Гэта даводзіла гітлераўцаў да шаленства.

У часе блакады Васіль Захаравіч у першую чаргу выводзіў у бяспечнае месца жанчын і дзяцей. Не толькі мая Алачка, сотні партызанскіх дзяцей абавязаны жыццём Васілю Захаравічу і яго злучэнню.

У кожным нумары газеты мы друкавалі зводкі з фронту і заклікі партыі да народа.

Восенню 1942 года пачаўся новы масавы прыліў насельніцтва ў партызанскія атрады. Прыходзілі групамі і па адным, з вінтоўкамі і аўтаматамі, здабытымі ў фашыстаў і іх служак. Нават два святары папрасіліся ў партызанскі атрад Камарова. Яны хадзілі ў раз-

ведку, удзельнічалі ў баях і заклікалі веруючых брацца за зброю, бязлітасна біць «пякельныхірадаў», каб абараніць родную зямлю ад крыважэрнай нечысці.

У адной вёсцы Хорастаўскага сельсавета партызаны забілі здрадніка. Але як пахаваць веруючым хрысціянам «убиенного», калі ва ўсім наваколлі не засталося ніводнага папа? Бацькі нябожчыка паслалі на партызанскую заставу свайго родзіча прасіць камандзіра, каб адпусціў на пахаванне бацюшку. Пасланец запэўніў, што ні з кога і волас не ўпадзе.

Васіль Захаравіч здзівіўся такой незвычайнай просьбе. Паклікаў абодвух «святых айцоў» — няхай вырашаюць самі. Айцец Аляксей адразу замахаў рукамі: «Ирода нечестивого» хаваць не буду.

— Я паеду. Нельга ж адправіць фашысцкага ваяку ў пекла без божага «напутствия»,— сказаў протаіерэй Раманушка. Ён ўзяў аблачэнне, крыж, кадзільніцу і з двума аўтаматчыкамі выехаў у суседнюю вёску. На магілкі сышлося ледзь не ўсё сяло. Кожнаму хацелася паслухаць, як гэта партызанскі нон будзе адпяваць фашысцкага нягодніка. Усё пачалося па рытуалу. Але замест «Рыдания надгробного» і «Упокой, господи, душу раба твоего», свяшчэннік заспяваў: «Анафема забойцу і адступніку, душагубу праведнай паствы госпадняй...» Закончыўшы адпяванне, нон заклікаў усіх прысутных «не шкадуючы «живота» свайго, бараніць родную зямлю ад паганай навалачы. А здрайцам усім праклён на векі вечныя! Нішто не ўратуе іх ад пякельных пакут на страшным божым судзе!».

Протаіерэй заклікаў усіх парафіян узняць карны меч справядлівасці супраць лютых ворагаў чалавецтва.

Спачатку знямеў, потым загайдаўся і загаманіў натоўп.

— Калі бацюшка ў партызаны падаўся, дык і нам пара боскую волю спаўняць,— казалі веруючыя і прасілі аўтаматчыкаў:

— Хлопчыкі, мы ж свае, вазьміце і нас. За святое дзела і загінуць не страшна.

З дзесятак мясцовых хлопцаў кінуліся да свірнаў. З падстрэшша, з застаронкаў выцягвалі здабытую зброю і станавіліся поплеч з партызанскімі аўтаматчыкамі. Раманушка і яго спадарожнікі прывялі ў штаб злучэння цэлы ўзвод новых байцоў.

Доўга потым смяяўся Васіль Захаравіч, слухаючы протаіерэя Аляксандра Тодаравіча Раманушку і яго спадарожнікаў, а айцец Аляксей зайздросціў свайму калегу і шкадаваў, што не ён правёў гэту «пахавальную аперацыю».

— Усе сумленныя сродкі ў справядлівай барацьбе падыходзяць, — разважаў камандзір і праз сувязных і падпольшчыкаў перадаў

пінскаму архіепіскапу матэрыялы 3-га Усеславянскага мітынгу і свае парады, як лепей весці работу сярод веруючых супраць акупантаў.

Выбухі на чыгунках, знішчаныя саставы, ліквідаваныя фашысцкія гарнізоны, вызваленыя ад акупантаў сельсаветы і нават раёны мацавалі ў народзе веру ў хуткую перамогу над ворагам...

Актыўныя дзеянні партызан сур'ёзна непакоілі немцаў.

10 лютага 1943 года рэгулярныя войскі пачалі наступаць з Вялікага Рожава на атрады Пінскага злучэння. Першы ўдар прыняла брыгада Васільева і паспяхова адбіла варожыя атакі каля хутара Дубіца і вёсак Вейна і Гоцк.

Назаўтра на злучэнне рушылі ўсе фашысцкія рэзервы са Старобіна. Самалёты з чорнымі крыжамі бамбілі атрад імя Кірава. Партызаны замініравалі ўсе падыходы да лагера, занялі абарону і вырашылі трымацца да апошняга патрона. Нават цяжка параненыя не накідалі строй. Адна за адною захлыналіся фашысцкія атакі ў шквале партызанскага агню. У бой уступілі атрады Камарова, Шыша і імя Чапаева. Фашысты насядалі з розных бакоў. Партызанам прыходзілася весці толькі прыцэльны агонь, бо ў патранташах не вельмі было густа.

13 лютага атрады занялі абарону каля Хорастава і Чаланца. Нямецкія танкі пачалі акружаць атрад Шыша. Яны хацелі і астатнія атрады прыціснуць адзін да аднаго, акружыць і знішчыць.

План гітлераўцаў адразу разгадаў Васіль Захаравіч і непрыкметна, у начной цемры, праз Грычынавіцкія балоты пачаў выводзіць брыгады з акружэння. Апоўначы закруціла, заскавытала лютая мяцеліца. Атрад Шыша адзін утрымліваў пазіцыі, прыкрываючы адыход таварышаў. Супраціўленне партызан прыкметна слабела. Немцы адчулі сваю перавагу і пачалі замыкаць кальцо блакады. А праз вузкую гарлавіну з акружэння выходзіў апошні партызанскі заслон. За ноч па балотных купінах партызаны прайшлі больш за 40 кіламетраў. Завея зараўняла іх сляды.

На світанні 15 лютага немцы замкнулі кальцо і пачалі прачэсваць лес, але ніводнага партызана так і не знайшлі. Усе параненыя і забітыя таксама былі далёка ад гэтага месца.

Немцам нічога не заставалася, як далажыць начальству і абвясціць па ўсім наваколлі, што партызаны поўнасцю знішчаны.

А Палескае злучэнне пасля цяжкіх баёў і начнога пераходу на куп'істым балоце прыпынілася ў Лагішынскім раёне. Змораныя, схвастаныя завірухай партызаны адпачывалі ў цёплых хатах, перавязвалі параненых, рыхтавалі зброю да новых баёў і вялі разведку ў Целяханскім і Лагішынскім раёнах.

Толькі адпачынак білу кароткі. 21 лютага на атрад імя Шчорса з Лагішына напалі немцы і адціснулі камароўцаў да вёскі Рудня. Там знаходзіўся штаб злучэння і асноўныя партызанскія сілы. Зноў пачаліся баі з часцямі эсэсаўцаў. Партызаны адбілі некалькі атак і прымусілі гітлераўцаў адысці.

— Але, таварышы, захапляцца перамогай рана,— гаварыў Корж. — Немцы адышлі, каб сабраць сілы для новага ўдару. Хоць у гітлераўскай прапаганды ніяк не сыходзяцца канцы з канцамі: Старобінскі гарнізон абвясціў нас знішчанымі, а Лагішынскі не можа ўправіцца з намі. І мы павінны паказаць сваю моц — не абараняцца, а наступаць, выматваць варожыя сілы, манеўраваць з раёна ў раён. Няхай шукаюць нас, а мы заўсёды ведаем, дзе і каго біць, і будзем з'яўляцца нечакана і знікаць, не пакідаючы слядоў.

Корж вырашыў знішчыць нямецкі гарнізон у вёсцы Святая воля. Там умацавалася больш за 60 гітлераўцаў. Яны абкружылі вёску акопамі, злучанымі з чатырма дзотамі.

Досвіткам на гарнізон неспадзявана напалі атрады Шыша і імя Чапаева. Нялёгка было падавіць варожыя агнявыя кропкі. Бой не сціхаў сем гадзін. Пад шквалам кулямётнага агню партызаны не пакідалі сваіх пазіцый, знішчалі адно варожае гняздо за другім, паступова займалі акопы, і пад вечар гарнізон быў ліквідаваны. Як сваіх збавіцеляў сустракалі калгаснікі партызан, расказвалі пра лютасць гестапаўцаў, збіралі трафейную зброю і ўліваліся ў рады народных мсціўцаў.

Пасля разгрому гарнізона ў Святой волі Корж зразумеў, што ворагі пачнуць наступ на партызан, і старанна рыхтаваў брыгаду да будучых баёў.

Неўзабаве з Івацэвіч на Пінскае злучэнне было кіну та 1500 гітлераўцаў, з Целяхан паступала прыкладна столькі ж салдат і афіцэраў, плануючы блакіраваць і знішчыць партызан.

Камандаванне злучэння распрацавала дакладны план прарыву блакады, каб з найменшымі стратамі выйсці да Выганаўска^ возера. Каля вёскі Доўгае партызаны пайшлі на прарыў. Гітлераўцы не шкадавалі боепрыпасаў і сіл, каб толькі стачыць разарваны ланцуг, але гэта ім не ўдалося. Пад ударамі партызан прарыў пашыраўся. У гэтым баі загінулі мужны камандзір атрада Дамброўскі, начальнік штаба Баброў і палітрук Шырыш Немцы страцілі больш за 40 салдат і афіцэраў. Партызаны праз Агінскі канал выйшлі ў Лунінецкі і Ленінскі раёны.

На працягу месяца камандаванне двойчы вывела злучэнне з фашысцкіх пастак, зберагло асноўныя сілы і ўсё галасней і выразней

заяўляла пра сваю магутнасць і непераможнасць выбухамі на чыгунках, разгромам гарнізонаў, вызваленнем савецкіх людзей, якіх гітлераўцы збіраліся адправіць у фашысцкае рабства.

У глыбокім тыле адзначаліся рэвалюцыйныя святы, у вёсках вывешваліся чырвоныя сцягі, а на чыгунках грымелі выбухі, ляцелі ў паветра варожыя эшалоны, на доўгі час перапынялася тэлеграфная і тэлефонная сувязь паміж штабамі і гарнізонамі.

Пра ўсе свае аперацыі і патрэбы, пра дыслакацыю і перамяшчэнне варожых войск кіраўнікі Пінскага злучэння дакладвалі штабу партызанскага руху і Цэнтральнаму Камітэту Кампартыі Беларусі, атрымлівалі ад яго неабходную дапамогу і парады.

## СУМКА РАДАСЦІ

I мая 1943 года Беларускі штаб партызанскага руху выклікаў Васіля Захаравіча ў Маскву. Кіраўніцтва злучэннем Корж перадаў сакратару Пінскага абкома КП (б) Б Аляксею Яўхімавічу Кляшчову і начальніку штаба Мікалаю Сцяпанавічу Фядотаву.

Палявая сумка Васіля Захаравіча была набіта лістамі, паштоўкамі родным і блізкім баявых таварышаў, запісамі адрасоў сем'яў партызан, якія з першага дня вайны нічога не ведалі пра лёс сваіх сыноў, мужоў і бацькоў. «Сумкаю радасці» называў яе Корж.

Камандзіры атрадаў і брыгад прасілі запісаць іх просьбы: «Падкінуць больш аўтаматаў», «Не шкадаваць толу і запалаў», радысты прасілі прыслаць электрабатарэй, рэдактар «Палескай праўды» — паперы і друкарскай фарбы, урач Мікалай Іванавіч Варановіч надаў заяўку на медыкаменты, бінты і хірургічныя інструменты.

Корж стаяў каля крыла маленькага самалёта, даваў апошнія нарады баявым таварышам і запісваў іх просьбы.

Пагойдваючыся, прабегла па лясной палянцы двухкрылая машына, адарвалася ад зямлі і знікла ў смузе вячэрняга неба. Узяў Васіль Захаравіч свой дзённік з пералікам найбольш значных аперацый злучэння. На апошняй старонцы запісана 28 прозвішчаў найбольш адважных партызан, якіх камандзір лічыў патрэбным прадставіць да ўрадавых узнагарод: I. Чуклай I. I. — ордэн Леніна, 2. Шырын Ф. I. — Леніна, 3. Меркуль В. М. — Леніна, 4. Пордман Э. Б. — Чырвонага Сцяга, 5. Некрашэвіч I. А.— Чырвонага Сцяга... Не было ў спісе толькі прозвішча камандзіра злучэння.

Паплылі пад крылом сінія бары і бярозавыя пералескі, коміны спаленых вёсак, руіны беларускіх гарадоў і паселішчаў.

«Колькі прыйдзецца пакласці працы і сілы, каб зноў расцвіла гэтая скалечаная зямля. Як толькі даб'ём ворага, закаласяцца палі, узнімем з руін новыя сёлы і гарады. Толькі не прыйдуць на свята нашай Перамогі баявыя таварышы Бандаравец, Дамброўскі, Баброў. Не зведаўшы ўсіх радасцей жыцця, аддалі сваё жыццё за шчасце нашчадкаў, за родную зямлю. Не, і яны будуць на свяце Перамогі. Толькі б нікога не забыць». Думкі Васіля Захаравіча перапыніла нейкае пстрыканне за бортам самалёта. Зірнуў туды — беленькімі парашуцікамі разрываюцца зенітныя снарады, а пілот кідае машыну то ўніз, то ўгару, то ўлева, то ўправа, пятляе паміж разрывамі. Усё змоўкла раптоўна, як і пачалося. Корж убачыў вясёлы твар пілота: «Парадак! Праскочылі!» — зразумеў ён па руху засмяглых вуснаў.

Паказаліся падмаскоўныя лясы, дачныя пасёлкі, лініі леташняй абароны.

З падмаскоўнага аэрадрома адразу паехаў Васіль Захаравіч у Беларускі штаб партызанскага руху. Знаёмыя дамы сталіцы былі ў стракатых плямах камуфляжу, па вуліцах спяшаліся людзі ў кіцелях і гімнасцёрках. Здавалася, уся краіна апранулася ў вайсковую вопратку.

Начальнік штаба Пятро Захаравіч Калінін уважліва слухаў расказ Каржа пра найбольш значныя аперацыі, запісваў усе патрэбы злучэння, удакладняў і адзначаў на карце пункты дыслакацыі брыгад і штаба, распытваў пра настрой насельніцтва, цікавіўся, як партызаны звязаны з мясцовымі падпольшчыкамі, прасіў расказаць пра работу партыйных і камсамольскіх арганізацый.

Корж часам зазіраў у прыгожую запісную кніжку з бронзаваю зашчапкаю, удакладняў лічбы, прозвішчы і даты. Калінін звярнуў увагу на камандзірскі дзённік, а калі пачуў, як ён трапіў да Васіля Захаравіча, весела ўсміхаючыся, сказаў:

— Гэта вельмі знамянальна: партызанскі камандзір запісвае ў дзённік фашысцкага афіцэра баявыя справы свайго злучэння. Беражы яго, Васіль Захаравіч, гэта ўжо гістарычны дакумент. Адпачнеш, акрыяеш трохі і прыйдзецца паездзіць па краіне, расказаць рабочым пра гераізм і цяжкасці партызанскай барацьбы.

Са штаба Корж адразу зайшоў на паштамт і апаражніў сваю сумку. Лісты, паштоўкі і тэлеграмы ў Краснадар, Чыстапаль, Горкі, Гусь-Хрустальны — у сотні адрасоў панеслі радасныя весткі родным баявых сяброў.

Калі збольшага адышоў, ачысціўся і адмыўся, пачаліся вандроўкі па краіне, выступленні ў цэхах уральскіх і сібірскіх заводаў, на прадпрыемствах Масквы і Горкага.

«Сем'і сваіх таварышаў знаходжу то там, то тут, а дзе мае дачушкі і Лёня — нічога не ведаю»,— усё часцей думаў Васіль Захаравіч. Ён узяўся настойліва шукаць іх сляды. Развітваючыся з дзецьмі ў Пінску, параіў ехаць у саўгас «Крапоткінскі». Там яго ўсе ведалі, памяталі і прытулілі б дзяцей. Але і там, у прыдонскіх стэпах, яшчэ грымелі баі. Куды ж іх закінула вайна? Куды завезлі выпадковыя эшалоны? І раптам успомніў адрас сям'і даўняга друга па грамадзянскай вайне і па баях у Іспаніі. Васіль Захаравіч завярнуў у знаёмы завулак, спадзеючыся што-небудзь дазнацца пра сваіх. І не памыліўся.

Сустрэла здзіўленая жонка прыяцеля. «Адкуль? Якім чынам?» Засыпала пытаннямі. «Ці не сустракаў майго? Ён жа партызаніць недзе ў баранавіцкіх лясах». Васіль Захаравіч расказваў, а самому карцела хутчэй дазнацца пра сваіх.

«А твае дзяўчаты... Ну, сарві-галовы, ваююць». Жанчына пакорпалася ў шкатулцы і паклала перад Васілём Захаравічам некалькі франтавых трохкутнічкаў з нумарамі палявой пошты. Вольга, Зіна і Лёня на ўсякі выпадак напісалі маскоўскай знаёмай і прыслалі свае адрасы.

Вольга паведамляла, што, вяртаючыся з санаторыя ў Анапе, заехала ў «Крапоткінскі» і сустрэлася там з Зінай. А з саўгаса якраз адпраўлялі на Паўночна-Каўказскі фронт трактары і цягачы. Дзяўчаты прымасціліся на платформе і наехалі бліжэй да вайны. У Нальчыку так дапяклі ваенкому, што той нарэшце залічыў надакучлівых сясцёр у 4-ы кавалерыйскі корпус генерала Пліева.

Зіна ўжо старшыііа-саніііструктар. Лёня да паўналецця ўзначальваў у саўгасе трактарную брыгаду, а цяпер вучыцца ў танкавым вучылішчы і вось-вось паедзе на фронт.

Корж уважліва перачытваў лісты сваіх дзяцей, хацеў уявіць іх пасталелымі ў пекле вайны і не мог — усё бачыліся такімі ж дзецьмі, як пры апошнім развітанні.

Жанчына паглядзела на Васіля Захаравіча і спагадліва сказала:

— Ну, Лёню я разумею. Хлопец. А дзяўчат чаго панесла на фронт?

— Вайна ж усенародная,— думаючы пра нешта сваё, адказаў Корж.— І ў дзяўчат наш, каржоўскі, характар — ніколі не быць убаку.

— А барані божа што здарыцца? Што тады скажаш?

— Не бойся, мы загавораныя. Каржоў кулі не бяруць. Вось пабачыш, перамогу ўсе разам святкаваць будзем,— Васіль Захаравіч хітра ўсміхнуўся, схаваў у сумку лісты сваіх дзяцей, усцешаны і шчаслівы развітаўся з даўняй знаёмай.

Наперадзе было яшчэ шмат клопатаў, баёў і трывог.

* * *

У Беларускім штабе партызанскага руху рэгулярна перадавалі Васілю Захаравічу навіны і лісты з яго злучэння, дастаўленыя самалётамі праз лінію фронту. Цяпер паветраны мост паміж Масквою і партызанскім аэрадромам сярод Хорастаўскіх лясоў быў сталы і надзейны.

На дзвюх паштоўках начальнік штаба злучэння М. С. Фядотаў пісаў камандзіру: «17/VI-43 г.

Дарагі Васіль Захаравіч!

Прывітанне Вам з далёкага вострава. Жыццё наша цячэ без асаблівых змен,— працуем, як належыць, настрой бадзёры, хоць метэаралагічныя ўмовы гэтым летам кепскія — увесь час ідуць дажджы. Нашы астравы так размоклі, што, здаецца, зямля вось-вось ператворыцца ў рэдзенькую кашу.

...У наша суровае партызанскае жыццё ўліўся свежы, новы для нас струмень — прылёт самалётаў. Праўда, іх пакуль што было не вельмі многа, але яны надзвычай узнялі дух усіх партызан і мясцовых жыхароў, ад якіх немагчыма ўтаіць прылёт самалётаў. Зараз зноў чакаем іх.

Васіль Захаравіч, мы з дня на дзень чакаем Вас у наш куточак, не надта ўтульны, але затое густа населены партызанамі.

Мы часта ўспамінаем Вас і ўяўляем, як Вы ходзіце па Краснай плошчы, як выступаеце на сходах і г. д. Нашы агульныя сябры жывыя і здаровыя ўсе. Вялікае прывітанне ад Аляксея Яўхімавіча, Паўла, Парыса Сымонавіча, Гаўрылы, Некрашэвіча і інш. Карацей, прывітанне ад усіх партызан злучэння. Усе чакаюць Вас і часта пра Вас пытаюць.

Жадаю поспехаў і хутчэйшага Вашага звароту.

З прывітаннем М. Фядотаў.

P. S. Вельмі прашу, В. З., дазнацца пра маю сям'ю. Адрас: Масква, шаша Энтузіястаў, гарадок ВІА, каля завода «Пражэктар», дом 13, кв. 5. Фядотава Еўдакія Іванаўна».

Пра асабістае, пра сям'ю толькі ў постскрыптуме.

Хадзіў і ездзіў Васіль Захаравіч па розных адрасах. У штабе афармляў дакументы і пасылаў грашовыя атэстаты жонкам і маці партызан, у лістах і паштоўках пісаў пра мужнасць іх блізкіх. А калі здаралася, што дарогі яго камандзіровак праходзілі непадалёк ад гарадкоў і сёл, дзе жылі родныя яго партызан, адшукваў у блакноце іх

адрасы і завітваў хоць на некалькі хвілін, каб суцешыць і расказаць пра баявыя справы сына, мужа ці бацькі.

На мітынгах Васіль Захаравіч натхнёна гаварыў рабочым пра адвагу і нязломнасць палескіх партызан, пра цяжкасці і нягоды іх ляснога жыцця, пра бяссонныя ночы ў завейных пушчах, пра галодныя паходы і прарывы з блакіраваных балот.

Расказы пра партызанскую кемлівасць і прыгоды баявога жыцця рабочыя сустракалі бурнымі воплескамі, а часам і вясёлым смехам.

— Тут пыталіся, як нам удаецца граміць лепш узброеныя за нас варожыя гарнізоны. Усяляк, таварышы, даводзіцца. Нялёгка бывае, але б'ём,— расказваў каржакаваты, з шырокім сялянскім тварам партызанскі камандзір.— Вось, калі хочаце, адзін выпадак: у вёсцы Ярэмічы Кобрынскага раёна стаяў дужа ўмацаваны нямецкі гарнізон і раззваніў на ўсё наваколле, што ўшчэнт разграміў партызан, і след іх даўно прастыў. Сваё котлішча гітлераўцы абкружылі дотамі і бетаніраванымі акопамі, на ўсе бакі выставілі кулямёты. Нашы спробы ўзяць Ярэмічы штурмам кожны раз правальваліся. Не падступіцца. А ўзяць трэба. Неабходна абараніць насельніцтва ад здзекаў і ліквідаваць апорны пункт акупантаў. Думалі-думалі і нарэшце дадумаліся. Запрэглі дзесяць параконных фурманак, у конскія грывы ўплялі каснікі і папяровыя кветкі, на дугі навешалі званочкаў і розных шамочкаў. Як трэба прыбралі «жаніха», фату і вяночак здабылі «нявесце», «шафераў» з «шаферкамі» насадзілі на вазы, а на пярэднім «сват» і «сваха» абраз багародзіцы з дзіцяткам на руках трымаюць. Ну і, вядома, «п'янаваты» гарманіст польку рэжа і прыпеўкамі сыпле.

Вось такое «вяселле» і ўляцела ў Ярэмічы. Павыскаквалі немцы на дзіва паглядзець. Рагочуць, фотаапаратамі пстрыкаюць. Цікаўныя і з дотаў павылазілі. Чалавек 40 сабралася. Коні спыніліся каля казармы. «Жаніх» на вышываным ручніку паднёс афіцэру бутлю самагону і нізка пакланіўся. А той ад радасці ззяе, як велікодны самавар: «Шнапс, шнапс. Данне Піён», і пачаў частаваць сваю хеўру.

У гэты момант «маладая» з-пад шырокай спадніцы выхапіла аўтамат, з фурманак грымнуў залп. 32 фашысты засталіся ляжаць на месцы, пяцёра курчыліся і стагналі ад ран, астатнія, як зайцы, лупанулі ў алешнік.

Так мы разграмілі самы люты гарнізон, а па наваколлі пайшла пагалоска пра адвагу і кемлівасць партызан.

Стары рабочы ў замасленай кепачцы крыкнуў:

— Такое вяселле некалі ў кіно паказвалі.

— Але, паказвалі. Бачыў і я,— пацвердзіў Корж.— А хіба забаронена карыстацца вопытам грамадзянскай вайны? Для барацьбы з

ворагам усё падыходзіць... Але каб біць фашыстаў, не хапае нам, таварышы рабочыя, зброі, патронаў і толу. Праўда, у апошні час трохі нам падкідаюць з Масквы, а асноўнае здабываем у ворагаў, але ўсё роўна мала: атрады і брыгады растуць з кожным днём, людзей трэба ўзбройваць, а чым? Прыйшлося ў лесе абсталяваць сваю майстэрню. Нашы ўмельцы Якаў Цемякоў, Іван Сямак і Васіль Слагада робяць такія аўтаматы, што любы майстра пазайздросціць. Калгасныя механізатары нам нават такарныя станкі прывезлі, да іх ручныя прыводы змайстравалі. Але колькі такая майстэрня можа нарабіць тых аўтаматаў?

Я гэта да таго кажу, таварышы рабочыя, каб вы, куючы зброю для арміі, не забываліся пра партызан, каб звыш плана рабілі і для нас.

І рабочыя з новаю энергіяй і сілай браліся за работу.

У штабе партызанскага руху камандзіру Пінскага злучэння Васілю Захаравічу Каржу прачыталі Указ аб прысваенні яму звання генерал-маёра. Усхваляваны і расчулены партызанскі камандзір пачаў прасіць, каб яго хутчэй адправілі, як ён любіў казаць, «на ранейшае месца працы».

— Справы ў злучэнні ідуць добра, а табе трэба яшчэ тут папрацаваць,— угаворваў Пятро Захаравіч Калінін.— Пасля тваіх выступленняў рабочыя працуюць з асаблівым уздымам. А зброі трэба ўсё больш і больш. Чытаў пра пераход войск Бранскага і Заходняга Франтоў у наступленне супраць Арлоўскай групоўкі? А хутка такое пачнецца, што ахнеш.

Вось яшчэ што. Раскажы, Васіль Захаравіч, як вам удалося перацягнуць на свой бок 10-ы казачы полк. Дакладная надта сціслая, а падрабязнасці нам вельмі патрэбны.

— Калі патрэбны, раскажу. Значыць, так. У студзені гэтага года ў Лунінец прыбыў полк, сфарміраваны з ваеннапалонных казакоў. Адзін дывізіён заняў Дзятлавічы. Старастам у гэтай вёсцы быў наш разведчык Алесь Бунгала. Па-нямецку чэша, як рэпу грызе. Фрыцаў так пераканаў у сваёй адданасці, што яны яму, як сабе, давяралі. Прыгледзеўся Бушыла да казакоў: маркотныя ходзяць, людзей саромеюцца, туляюцца па завуголлю. І прыйшоў «стараста» да разведчыка атрада «За Радзіму» Аляксандра Аляксеевіча Світцова. Расказаў пра ўсё і раіць: «Сустрэцца табе трэба з камандзірам дывізіёна, былым маёрам Чарнышковым. Немцаў ненавідзіць лютай нянавісцю, а нашым людзям стараецца памагчы».

У прызначаны дзень Аляксандр Аляксеевіч Світцоў і група партызан прайшлі кіламетраў трыццаць. Хлопцаў пакінуў пад сцяною, а

сам шмыгануў у стараставу хату. За сталом ужо сядзелі двое ў нямецкіх афіцэрскіх мундзірах. Адразу ўскочылі і далажылі: «Маёр Чарнышкоў!», «Лейтэнант Арлоў!»

Яны расказалі пра жахі ў лагеры для ваеннапалонных, дзе загінула больш за 50 тысяч чалавек, пра тое, як вырашылі выратавацца, атрымаць зброю і павярнуць яе супраць ворагаў.

«Як толькі кінулі нас сюды,— расказваў Чарнышоў,— на партызан, адразу пачалі шукаць сувязь са сваімі. Палкоўнік Сысоеў таксама надзейны: загадвае страляць, заплюшчыўшы абодва вокі.

Світцоў з Чарнышковым адразу дамовіліся і распрацавалі план сумесных дзеянняў.

Корж зірнуў у запісную кніжку:

— Як толькі змеркла, 16 студзеня Світцоў з Чарнышкова™ абяззброілі ахову, увайшлі ў памяшканне школы, дзе размяшчаўся дывізіён, і пастроілі ўсіх казакоў. Світцоў прывітаўся: Не палохайцеся, таварышы, мы партызаны. Прыйшлі да вас, каб выратаваць ад ганьбы і злачынства, на якое штурхаюць вас фашысты».

Потым разведчык расказаў пра апошнія падзеі на франтах, а паведамленне пра разгром гітлераўцаў пад Сталінградам казакі сустрэлі крыкамі «ўра!» і воплескамі.

Чарнышкоў звярнуўся да строю: «Хто хоча служыць немцам, два крокі наперад!» Ніводзін казак не варухнуўся. «Дзякую, браткі! Тады ўсім збірацца ў дарогу. Яна ў нас адна — з нашым народам бараніць Радзіму».

Апоўначы на трыццаць фурманак пагрузілі зброю, боепрыпасы, амуніцыю і харчы, строем прайшлі па Дзятлавічах. Да рання па лясных сцежках дабраліся да базы атрада «За Радзіму».

— А як немцы абышліся з вашым старастам? — пацікавіўся Калінін.

— Узнагародзілі за «верную службу»,— хітра ўсміхнуўся Коря«.— Мы загадалі старасту верхам ехаць у Лунінец і паведаміць, што дывізіён пайшоў у лес. Каб пераканаць немцаў, што ён ледзьве уцёк ад партызан, Бушыла гранатаю падарваў вугал свае хаты, а каля Лунінца скінуў і схаваў валёнкі і паўкажушок, а сам у адных анучах ускочыў да начальства. Ну як было не аддзячыць такога «адданага служаку»?

Як толькі палкоўнік Сысоеў дазнаўся, што здарылася ў Дзятлавічах, ён разам са штабам перайшоў да партызан. Рэшткі палка немцы расфарміравалі.

На століку зазваніў адзін з тэлефонаў. Калінін уважліва слухаў, падтакваў, абяцаў падумаць, пашукаць. Раптам спахапіўся:

— Хвіліначку... Тух у мяне якраз камандзір Пінскага партызанскага злучэння таварыш Корж... Ага. Той самы. Параюся з ім і адразу ж пазваню.— Паклаў трубку і звярнуўся да Васіля Захаравіча:

— Каля Разані фарміруецца першая польская дывізія імя Тадэуша Касцюшкі. Палякі хочуць разам з нашымі войскамі вызваляць сваю радзіму. Па традыцыі ім патрэбен капелан. Ну-у, па-нашаму, ксёндз. Ці не знойдзецца часам у тваім злучэнні і такога спецыяліста?

Корж памаўчаў, падумаў, хітра ўсміхнуўся:

— Ёсць. Але самім во як патрэбен.

— Вы што, можа, набажэнствы там спраўляеце? — здзівіўся Калінін.

— А чаму не? Нават паліцаяў па ўсіх правілах хаваем, з папом і кадзілам. А што да ксяндза, дык ён выдатны зубны доктар. З бармашынаю і ўсім начыннем з вёскі Пузічаў прыйшоў у наш атрад. А зубы ў хлопцаў ад сцюжы ды без вітамінаў хістаюцца, крывавяць і баляць. Вось і вандруе са сваёю катрынкаю Францішак Купш з атрада ў атрад. Лічыцца ён у брыгадзе Васільева, а абслугоўвае ўсё злучэнне. Наогул добры таварыш і патрыёт надзейны. А якія прапаведзі перад веруючымі гаворыць, заслухаешся. І людзі ідуць за ім... у партызаны.

— Як, кажаш, прозвішча?

— Кунін, а завуць Францішак.

Калінін зняў тэлефонную трубку.

* * *

Калі закончыліся паездкі камандзіра злучэння па заводах краіны і самалёт Героя Савецкага Саюза П. А. Тарана даставіў Васіля Захаравіча ў Векарава на партызанскі аэрадром, ён адразу і не пазнаў знаёмую палянку: узлётная паласа была добра ўтрамбавана, пастаўлены сігнальныя знакі, выкапана зямлянка для аэрадромнай службы. Першымі да самалёта падбеглі начальнік аэрадрома Трахім Рудзеня і яго намеснік Віктар Ліфанцьеў.

Вызваліўшыся ад гарачых абдымкаў, Васіль Захаравіч усклікнуў:

— Ды ў вас не горш, як у Туршыне, хоць ты авіяцыйныя парады праводзь.

— Ініцыятыва таварыша Кляшчова. Усе хлопцы ў вольны час шчыравалі, як мурашкі,— тлумачыў Рудзеня.

Партызаны, убачыўшы каля самалёта нейкага генерала, падышлі бліжэй. Як жа ўсе ўзрадаваліся, калі пазналі свайго камандзіра. А ён шчодра частаваў «Беламорам» і «Казбекам», перадаваў прывітанні і лісты, якія атрымліваў для сваіх партызан у Маскве.

Усю ноч прагаварылі ў зямлянцы. Корж расказваў пра Маскву, пра першы салют у гонар вызвалення Арла і Белгарада, пра свае паездкі і сустрэчы з рабочымі, пра іх нястомнасць і працоўныя подзвігі. А партызаны дакладвалі камандзіру пра дыверсіі на чыгунках, пра знішчаныя варожыя гарнізоны. Між іншым, успомнілі Францішка Купша. Пабедавалі, што няма цяпер каму падлячыць зубы, дый наогул быў добры хлопец гэты «святы айцец» — адважны партызан і надзейны разведчык.

— Я да аэрадрома яго праводзіў,— расказваў Віктар Ліфанцьеў.— Як толькі дазнаўся бедны Францішак, што за ім спецыяльны самалёт прыслалі, закалаціўся ад страху: ніяк не мог уцяміць, каму і навошта ён спатрэбіўся ў Маскве. Хуценька сабраўся, развітаўся з хлопцамі, і рушылі мы з ім ляснымі дарогамі на аэрадром. Ехалі доўга. На карэннях ды выбоінах ледзь душу не вытрасла, і адважыліся мы завярнуць у маленькую глухую вёсачку, каб хоць трохі перадыхнуць.

Папрасіліся ў хату. Гаспадыня сустрэла нас не вельмі ветліва. Заікнуліся перакусіць — кажа: «Усё да шэлега забралі». А сама спадылба назірае на нас, відаць, думае, хто мы — свае ці, можа, часам «бобікі».

Калі ж Францішак зняў плашч, і жанчына ўбачыла ў яго на грудзях крыж, заўсміхалася, замітусілася каля печы, паслала кужэльны абрус, засквірчэла яечня, з'явіліся на стале заткнутая кудзеляю пляшка, вяндліна і шаткаванка. Шапнула нешта гаспадыня дачушцы, і тая адразу некуды збегла. Я затрывожыўся і бліжэй падцягнуў аўтамат. Неўзабаве адна за адною пайшлі ў хату жанчыны з малымі і большанькімі дзецьмі і давай прасіць: «Пахрысці, святы айцец. Усю вайну нехрысцямі жывуць». Спачатку ўпінаўся Купш. Кажа: «Я ж каталіцкі ксёндз, а вы праваслаўныя, ды і крапідла пры сабе няма і ў купелю гэтыя бэйбусы не ўлезуць».

«Нічога,— просяць.— Хрысці, як выйдзе».

І запусцілі мы з Францішкам канвеер: ён хрысціць, я падаянні прымаю — у торбу складаю кавалкі сала, сушаныя сыры, грошы бяру, якія ў каго ёсць. Ахрысцілі ўсіх, расказалі бабам, як Чырвоная Армія і партызаны б'юць фашыстаў, развіталіся і рушылі на свой аэрадром.

Там ужо чакаў Францішка самалёт. Хацеў я на дарогу аддаць яму грошы, дык дзе там — ні капейкі не ўзяў. «Харчы, кажа, параненым і хворым аддай, а грошы — у фонд абароны». Пісталет мне свой пакінуў, перахрысціў і наляцеў.

Васіль Захаравіч расказаў, што не так даўно Францішак Купш прымаў прысягу ў байцоў Першай польскай дывізіі.

— Пакуль ты там ездзіў, мы тут стварылі цэлую польскую армію,— пажартаваў Аляксей Яўхімавіч Кляшчоў.— Колькі цяпер у іх атрадзе, таварыш начштаба?

— Больш за пяцьсот чалавек,— адказаў Фядотаў.

— Чуеш, больш за паўтысячы! І ўсё баявыя хлопцы. Нездарма атрад носіць імя Тадэуша Касцюшкі. Узначаліў польскіх патрыётаў былы афіцэр Чэслаў Клім, а камісарам у яго вельмі талковы і адважны таварыш, Вацлаў Клімашэўскі... Дакладвай далей, таварыш начальнік штаба.

І Фядотаў расказаў, што касцюшкаўцы ўжо знішчылі каля дзесятка варожых эшалонаў, некалькі грузавікоў з ваеннай тэхнікай і салдатамі, узарвалі паўсотні рэек, выключную адвагу і дакладны тактычны разлік паказалі ў баі каля палескага сяла Нобель.

Атрад імя Касцюшкі ўвайшоў у добра арганізаваную і ўзброеную пінскую брыгаду Івана ПІубітыдзе. Ён, былы палонны савецкі камандзір, здолеў вырвацца з загатаванага вагона па дарозе ў Германію. Сабраў групу ўцекачоў з палону, падабраў надзейных польскіх патрыётаў і пачаў дзейнічаць у нрыбугскіх лясах. У атрад Шубітыдзе ўліліся патрыёты з навакольных вёсак і палескіх гарадкоў. І неўзабаве ў ваколіцах Пінска з'явілася грозная партызанская брыгада. Яна гаспадарыць у Драгічынскім, Іванаўскім, Маларыцкім раёнах і ўзяла над сваю апеку суседнія раёны Украіны.

Асабліва ўзрадавала Васіля Захаравіча, што брыгада Шубітыдзе ўстанавіла цесную сувязь з падпольшчыкамі Пінска.

## ВЯРТАННЕ

Увосень 1943 года праваліўся фашысцкі абарончы план «Ватай», не вытрымаў націску славуты «Усходні вал». Савецкая Армія амаль 700 кіламетровым фронтам ад Лоева да Запарожжа падышла да Дняпра, фарсіравала ўмацаваны гітлераўцамі правы бераг. Вораг пакаціўся ад дняпроўскіх стромаў, страціўшы 33 дывізіі.

Пачалося вызваленне беларускай зямлі. Святкаваў збавенне ад фашысцкай навалы Хоцімск, грымелі баі пад Віцебскам, на подступах да Магілёва і Рагачова. Першая польская дывізія прарвала варожую абарону каля вёскі Леніна.

Кожная зводка Савінфармбюро натхняла партызан на новыя подзвігі, ставіла перад камандзірамі складаныя задачы.

Пад ударамі Савецкай Арміі фашысцкія войскі адкочваліся ў заходнія вобласці Беларусі, а ім на дапамогу спяшаліся саставы з боепрыпасамі. Не пусціць іх да лініі фронту, скоўваць і граміць ва-

рожыя сілы, адразаць шляхі адступлення — была галоўная задача партызан.

У кастрычніку абласная партыйна-камсамольская канферэнцыя абмеркавала, як затрымаць ворага на Днепра-Бугскім канале, распрацавала план чарговых дыверсій на чыгунцы. Удакладняліся заданні групам падрыўнікоў. Канферэнцыя хутчэй нагадвала пашыраную ваенную нараду.

У канцы слова ўзяў камандзір злучэння:

— Слаўная Савецкая Армія з кожным днём набліжаецца да нашага ляснога краю, вызваляе гарады і вёскі роднай Беларусі. Нялёгкія гэта перамогі. Вораг люта адбіваецца. Прыйдзе Савецкая Армія, трэба будзе папаўняць яе рады свежымі сіламі маладых воінаў. Дзе іх узяць? У вёсках нашай зоны падрасла добрая, адданая Радзіме моладзь — нашы разведчыкі і сувязныя. Каб яны адразу сталі ў строй, іх неабходна падвучыць асновам вайсковай справы. Хто гэта павінен зрабіць? Вядома, мы. Таму былыя камандзіры павінны зараз жа пачаць заняткі з моладдзю прызыўнога ўзросту. Спісы і ўказанні атрымаеце ў начальніка штаба таварыша Фядотава.

І яшчэ адно пытанне неабходна абмеркаваць. Увесну нам прыйдзецца засяваць калгасныя палі. Значыць, ужо цяпер трэба думаць пра будучы ўраджай. Таму захаваць цягло, інвентар, насенне, машыны, дзе якія засталіся, і грамадскі статак — наша баявая задача.

Некаторым здалося, што гаварыць пра гаспадарчыя справы яшчэ рана. Біць ворага — галоўны абавязак партызан.

— А за што ты ваюеш? — пытаўся Васіль Захаравіч.— Каб знявечаная, акрываўленая і спапялёная зямля была вольнаю, каб на ёй закаласілася жыта, расла бульба, каб мы, нашы дзеці і ўнукі шчасліва жылі ў вызваленым і«раі.

Ці можна было пярэчыць?

На нарадзе абласнога партыйна-савецкага актыву абмяркоўваліся кандыдатуры будучага кіраўніцтва ад сельсавета да абласных органаў.

А па вясковых вуліцах ўжо маршыравалі атрады і групы прызыўнікоў. Юнакі вывучалі аўтаматы і кулямёты, вучыліся страляць і лічылі дні, калі стануць у строй абаронцаў Радзімы.

Плугі і бароны па загаду партызан калгаснікі хавалі ў надзейных спратах, коней і кароў адганялі ў лес, разбіралі па частках ацалелыя машыны. Сабраны з захаваных дэталяў трактар вясною 1944 года ў я; о заворваў акопы на калгасным полі, а цяпер стаіць на бетонным цокалі каля Пінскага краязнаўчага музея як сведка прадбачлівасці, гаспадарскай дбайнасці партызан і калгаснікаў.

Перамога ўяго была блізка, але кожны крок да яе каштаваў вялікай крыві, кожны бой прыносіў цяжкія страты — не кожнаму было суджана дайсці да светлага дня вызвалення. Фашысты ўсяляк імкнуліся скампраметаваць партызан, распаліць нацыянальную варожасць паміж беларусамі і ўкраінцамі суседніх сёл. Яны адпраўлялі банды паліцаяў пад выглядам партызан (чаплялі па шапкі чырвоныя істужкі) у беларускія вёскі рабаваць, гвалціць і здзекавацца з людзей. Бандыты выдавалі сябе за ўкраінскіх партызан. А потым налятаі рабаўнікі на ўкраінскія вёскі і казалі, што яны партызаны з атрада Камарова.

Нямецкае камандаванне раз-пораз засылала ў Пінскае злучэнне сваіх разведчыкаў і дыверсантаў, але нікому з іх не суджана было вярнуцца да сваіх гаспадароў: сто чатырнаццаць фашысцкіх лазутчыкаў было выкрыта і знішчана ў атрадах і брыгадах.

Злучэнне дзейнічала па стратэгічнаму плану, распрацаванаму ў Маскве, у Цэнтральным штабе партызанскага руху.

Галоўнаю задачаю было наносіць удары на чыгунках, шасейных і грунтовых дарогах — затрымліваць рух варожых войск да фронту, ствараць заторы нямецкай тэхнікі, якую знішчалі савецкія самалёты.

Ляцелі пад адхон фашысцкія саставы, палалі цыстэрны з гаручым, выбухі ператваралі масты і пераправы ў друз.

18 чэрвеня 1943 года брыгада Герасімава вывела са строю Днепра-Бугскі канал, па якім за навігацыю праходзіла больш за тысячу суднаў з варожай тэхнікай. З 8 на 9 жніўня партызаны ўзарвалі 1957 рэек і на 71 дзень спынілі рух цягнікоў на ўчастку Лунінец-Буда.

Не хапала толу. Яго партызаны выплаўлялі з нямецкіх бомбаў і снарадаў, адбівалі ў фашыстаў, атрымлівалі з Вялікай зямлі.

Злучэнне Камарова разам з украінскімі партызанамі Аляксея Фёдаравіча Фёдарава правяло некалькі дзёрзкіх аперацый. Разам разграмілі Любяшоўскі гарнізон і знішчылі больш за 100 фашыстаў.

На поўдні Палесся, па берагах Прыпяці і ў Ганцавіцкім раёне адзін час базіравалася славутае злучэнне Каўпака. Партызанскія камандзіры часта сустракаліся, распрацоўвалі планы супольных аперацый і наносілі нечаканыя і моцныя ўдары на ворагу.

У 1943 годзе ў зоне Пінскага злучэння было створана і актыўна дзейнічала 12 падпольных райкомаў і гаркомаў партыі, 38 партыйных арганізацый, у кожным раёне працавалі падпольныя райкомы камсамола. Вялікую ролю ў іх дзейнасці адыгралі прысланыя з Масквы сакратары ЦК камсамола Беларусі К. Т. Мазураў і М. В. Зімянін.

Разам з партызанамі яны прайшлі сотні кіламетраў палескімі сцежкамі, адважна і бязлітасна грамілі варожыя гарнізоны.

У тыле ворага, апрача абласной «Палескай праўды», выдаваліся тры міжраённыя газеты і шмат баявых лістовак.

Камандзір брыгады Іван Георгіевіч Шубітыдзе наладзіў сталую сувязь з падпольшчыкамі Пінска, дакладна ведаў, што адбываецца ў горадзе, дзе знаходзяцца варожыя ўмацаванні, дзе і якія размешчаны часці. Пра ўсё ён паведамляў камандаванню злучэння. А ўжо адтуль у штаб партызанскага руху ў Маскве ішлі паведамленні.

Вось і адно з іх:

«Паведамляю дадзеныя па г. Пінску на 13 лютага. Да сярэдзіны студзеня ў горадзе было шмат войска. Цяпер засталося 4 тысячы салдат, размешчаных у казармах. Тут жа і база боепрыпасаў (па вуд. Лагішынскай). У канцы Брэсцкай вуліцы і каля яўрэйскіх могілак установлены зенiткі. Жабчыцкі аэрадром дзейнічае. Каля фальварка Добрая Воля знаходзіцца аэрадром плошчаю на 140 га пад сто самалётаў. У памяшканнях запалкавай фабрыкі рамантуюць гарматы. Па дарозе на Галёва капаюць акопы і ставяць драцяную агароджу. Нафтабаза на Брэсцкай вуліцы мае запас бензіну 200 тон, газы 100 тон і 100 тон масла. Другая база з такою ж колькасцю гаручага знаходзіцца на ўсходняй ускраіне. Штаб камандавання паветранымі сіламі знаходзіцца па Ленінскай вуліцы, д. № 5.

У суседніх з Пінскам вёсках Падгацце — 500 немцаў і 80 танкаў, з іх 40 цяяшіх, у Стаўку — 300 немцаў, 40 танкаў. Па вестках разведкі гэтыя часці павінны выбыць у Івацэвічы праз Лагішын і Целяханы.

Корж».

Якою ж цаною здабываліся такія звесткі? Цаною крыві, цаною жыцця. Пінскія падпольшчыкі ахвяравалі самым дарагім у імя хутчэйшай перамогі, кожную хвіліну рызыкавалі сабою і сваімі блізкімі, каб толькі здабыць дакладныя каардынаты для савецкай авіяцыі.

З першых дзён вайны ў горадзе дзейнічала камуністычнае падполле. Адным з актыўных яго арганізатараў была інжынер Іраіда Акімаўна Галамазава. Дапамагалі Іраідзе Акімаўне яе муж Уладзімір Дваранінаў, Станіслаў Жарыя, Мікалай Чалей, Алесь Шахновіч, Пятро Сіманенка, Вера Пацёмкіна, Якаў Шаламіцкі, Глафіра Зайцава, дзесяткі адважных, умела замаскіраваных патрыётаў.

Выключную ролю ў пінскім падполлі іграў Уладзімір Савацеевіч Чэрскі. Ён здолеў увайсці ў давер да начальніка СД Вільгельма Рапса. Малады, адукаваны, добра выхаваны Уладзімір Чэрскі стаў не толькі перакладчыкам, але і дарадцам Рапса. Ён забяспечваў партызан

надзейнымі дакументамі, выкрываў засланых да партызан агентаў СД, перадаваў праз падпольшчыкаў спісы савецкіх людзей, якім пагражалі арышты і смерць. Чэрскі ўмела здабывэў каштоўныя дадзеныя для Савецкай Арміі. Уладзімір Савацеевіч выратаваў жыццё высачанай здраднікам Іраіды Галамэзэвэй.

Зэгадчык аптэкі Станіслаў Жарын забяспечваў партызан Піншчыны медыкаментамі, марляй, бінтамі і хірургічнымі інструментамі. Разам з падпольшчыкамі Чалеем і Шэламіцкім Жарын вырэтэвэў эд смерці групу пінскіх урэчоў і перэправіў іх у брыгады злучэння Камарова.

Еўфалія Васільеўна Пад'ельных узначаліла медыцынскую службу атрада, а Уладзімір Ульянавіч Краткоў стаў галоўным урачом брыгады.

Партызанскія медыкі лячылі не толькі сваіх параненых таварышаў, але выязджалі да хворых у суседнія вёскі, рабілі складаныя аперацыі дарослым і дзецям.

З набліжэннем Савецкай Арміі полчышчы фашыстаў густа збіваліся ў беларускіх гарадах і мястэчках, спрабавалі замацавацца на берагах рэк і Днепра-Бугскага канала.

Узброеныя вопытам партызанскай вайны, брыгады Пінскага злучэння разразалі на часткі палкі фашыстаў, занялі Днепра-Бугскі канал і скавалі немцаў на яго правым беразе. Узрываліся шлюзы, вадакачкі, ляцелі ў паветра рэйкі на чыгунках, стваралісяі заторы з вайсковых эшалонаў, ірваліся снарады ў палаючых пад адхонамі вагонах. Наша авіяцыя атрымлівала ад партызан дакладныя звесткі аб канцэнтрацыі фашысцкіх часцей і бамбіла іх з паветра.

У штаб партызанскага руху ляцелі радыёграмы:

«Тав. Бутаву. Для выканання пастаўленых задач патрэбен тол. Прашу скінуць Антановічу і атраду «За Радзіму», колькі магчыма. Куды скінуць, паведаміць Антановіч. Корж».

«Тав. Дзікану. Радыст накіраваны да Беліцкага. Падкіньце мін і мінамётаў, вінтовак, ружэйнага масла. Няма чаго курыць. Корж».

А камандзіру брыгады Аіітаіювічу Васіль Захаравіч радзіраваў: «Я вельмі задаволены, што ты адгукнуўся. Працягвай біць адступаючага ворага ў гэтым раёне. Хутка падыдзем, тады шчыльна закрыем шлях адступлення на Пінск. Камароў».

Партызаны паспяхова білі ворага, але і фашысты шалёна абараняліся, пераходзілі ў наступленне. У лютым супраць партызан Пінскага і Іванаўскага раёнаў яны кінулі 15 тысяч салдат, танкі і авіяцыю. Наступалі на брыгады Герасімава і Шубітыдзе з Драгічына, Іванава і Пінска.

Вялікія варожыя сілы адціснулі абедзве брыгады на паўднёвы бераг канала. Партызаны трымалі яго больш як 25 сутак, але канчаліся боепрыпасы, няроўныя былі сілы. У гэтых складаных абставінах Корж загадаў камандзірам брыгад адысці і з зоны баёў вывесці ў лес усё насельніцтва, каб выратаваць яго ад знішчэння і вывазу ў фашысцкае рабства.

З тысячамі калгаснікаў, чародамі кароў, з коньмі, запасам насення брыгады Герасімава і Шубітыдзе адыходзілі ў зялёныя цытадэлі на поўдні Іванаўскага раёна.

Пасля баёў на Днепра-Бугскім канале фашысты не далічыліся 600 салдат і афіцэраў.

Немалыя страты былі і ў партызан. Камандзір атрада Саломка з дзесяццю байцамі захапіў дот і трое сутак адбіваў атакі фашысцкага батальёна. Па іх прамой наводкай біла артылерыя, бамбілі варожыя самалёты, а партызаны камуніста Саломкі прыкрывалі адыход таварышаў і мясцовага насельніцтва і біліся да апошняга патрона.

У канцы лютага на брыгады імя Кірава і імя Будзённага фашысты кінулі 8 тысяч карнікаў. У першы дзень захлынуліся чатыры атакі фашыстаў. З баямі партызаны адыходзілі ў лясы і балоты. Варожыя гарматы не маглі прабіцца праз гушчар, а танкі правальваліся ў багну. Фашысты былі вымушаны вярнуцца ў свае гарнізоны. А на ўсходзе і поўдні ўжо грымела кананада: імкліва наступалі савецкія войскі. Зусім блізка вяла баі б І-я армія генерал-палкоўніка П. А. Бялова. Яна падтрымлівала сувязь з партызанамі і дзейнічала супольна з брыгадамі і атрадамі Пінскага злучэння. Ляцелі ў паветра эшалоны, якія спяшаліся на фронт, партызанскія падпольшчыкі і разведчыкі перадавалі ў штаб б 1-й арміі звышсакрэтныя весткі пра ўсе манеўры ворага, паведамлялі дакладныя каардынаты размяшчэння яго войск.

«З сакавіка 1944 г. На поўдні і поўначы Слуцка робяцца ўмацаванні. Па шашы на Сіняўку праз кожны кіламетр будуюцца дзоты. Дарогу Сінкевічы-Леніна-Жыткавічы немцам аднавіць не ўдалося. З 25 па 29 лютага з Мікашэвіч на Лунінец прасунуўся трэці эшалон нямецкага фронту ў складзе дзвюх стралковых дывізій, танкавай брыгады, эскадрона кавалерыі і 700 аўтамашын. Устанаўліваем нумары часцей і паведамім іх дадаткова. Корж».

Імклівае наступленне Савецкай Арміі, непасрэдная сувязь з камандаваннем натхнялі на новыя подзвігі, развівалі ініцыятыву злучэння і асобных партызан.

Аднойчы знік з атрада Віктар Ліфанцьеў. Камандаванне занепакоілася, куды мог падзецца выключна дысцыплінаваны партызан. Запрасілі ўсе брыгады. Віктара нідзе не было. Паслалі некалькі груп

на пошукі, і яны не знайшлі. Толькі праз дзень у зямлянцы Васіля Захаравіча з'явіўся зморапы, але шчаслівы, з вінтоўкаю і двума аўтаматамі на плячы, Віктар Ліфанцьеў і далажыў:

— Узарваў эшалон, падарваў аўтамашыну з фрыцамі і спаліў тры казармы. Вось трафеі. Астатняе не давалок,— зняў ён з пляча аўтаматы.

— За работу дзякую, а за «самаволку» — пяць сутак арышту,— сурова сказаў камандзір.

— Пасля разгрому фашыстаў гатовы адседзець усе дзесяць, а цяпер, таварыш генерал, ніяк не магу, нагледзеў вельмі важны аб'ект і падыходы падрыхтаваў.

— Ты тут партызаншчыну не разводзь,— абурыўся Корж.

— Дык я ж і ёсць партызан,— усміхнуўся Ліфанцьеў.

— Памятай: партызан са-вец-кі. Дысцыпліна перш за ўсё. Паабедай, фашысты, мабыць, не частавалі, і чашы на «губу»,— памякчэў Васіль Захаравіч.

— Затое я іх добра пачаставаў. Ёсць на «губу», таварыш генерал,— Ліфанцьеў ляснуў стаптанымі абцасамі і пайшоў з зямлянкі.

Увесь сакавік і красавік партызаны трымалі немцаў на паўднёвым беразе Днепра-Бугскага канала. Дзве брыгады выйшлі ў варожы тыл і разам з часцямі Савецкай Арміі грамілі фашысцкія дывізіі. Амаль усю тэрыторыю вобласці і найбольш важныя магістралі кантралявалі партызаны, рыхтавалі засады і пасткі, у якія траплялі варожыя часці.

У чэрвені разам з войскамі арміі генерал-палкоўніка Бялова партызаны ў варожых тылах рэзалі лініі сувязі, пускалі пад адхон саставы з вайсковай тэхнікай, снарадамі, нарабаваным дабром. За некалькі чэрвеньскіх дзён было знішчана паўтары тысячы гітлераўцаў, 4 бронецягнікі, 40 аўтамашын, 7 танкаў, 3 параходы і некалькі барж, узарвана 4912 рэек, на станцыі Бастынь спалена 25 вагонаў з вайсковым грузам.

Партызаны ўдала разрывалі варожыя баявыя парадкі: дывізіёны і роты трацілі сувязь з камандаваннем і штабамі, а гэта давала магчымасць савецкім войскам акружаць і ліквідаваць раз'яднаныя варожыя часці. Брыгада імя Будзённага кулямётным і аўтаматным агнём закрыла пераправу праз раку Случ. Заціснутая з усіх бакоў войскамі і партызанамі Пцічская групоўка была вымушана капітуляваць. Здаліся ў палон дзесяткі тысяч гітлераўцаў на чале з генерал-палкоўнікам Мілерам. На станцыі Люшча партызаны спынілі бронецягнік і пратрымалі яго, пакуль не падышлі нашы часці.

5 чэрвеня Пінскае партызанскае злучэнне разам з 55-й гвардзейскай стралковай дывізіяй генерал-маёра Турчынскага пераправілася цераз Ясельду і разам з 23-й стралковай дывізіяй разграміла варожую артылерыйскую часць і ачысціла тэрыторыю вобласці ад фашыстаў.

...Мінула тры гады з таго дня, калі загадчык сектара Пінскага абкома партыі са сваім маленькім так-сяк узброеным атрадам каля саўгаса Галена вінтовачнымі залпамі сустрэў акупантаў. Цяпер здалёк партызаны ўбачылі зялёныя купы дрэў, зацягнутыя дымам абрысы пінскіх дамоў. Горад урачыста сустракаў пяцітысячную партызанскую армію. Паперадзе ішоў легендарны генерал Васіль Захаравіч Корж.

Людзі неслі кветкі сваім мужным абаронцам і вызваліцелям. Абдымкі, пацалункі, слёзы радасці расчулілі партызан. Іх запрашалі ў госці, частавалі апошнім, бясконца распытвалі і расказвалі пра жахі акупацыі.

За ноч на плошчы з сырых дошак збілі трыбуну. 21 ліпеня на яе ўзышлі сакратар падпольнага абкома Камуністычнай партыі Беларусі Сяргей Рыгоравіч Вайцяховіч, Васіль Захаравіч Коряг, начальнік штаба злучэння Мікалай Сцяпанавіч Фядотаў, начальнік разведкі Гаўрыла Пятровіч Сцешыц, начальнік асобага аддзела Барыс Сымонавіч Ляўчэня.

Стройнымі шэрагамі стаялі пасвяжэлыя партызаны. Нават не верылася, што настаў шчаслівы дзень вызвалення, да якога вёў доўгі і горкі шлях выпрабаванняў і страт. Успаміналіся баявыя сябры і пабрацімы, што так і не дайшлі да гэтай урачыстай плошчы. Над трыбунаю трапяталі чырвоныя сцягі, а з партрэта ўсміхаўся Уладзімір Ільіч Ленін, і здавалася, узнятай рукой вітаў партызанскае войска. Духавы аркестр іграў вясёлыя маршы даваеннай пары. Іх ніхто не чуў вось ужо тры гады. Таму так калаціліся сэрцы і набягалі слёзы. Дзяўчаты і дзеці падносілі партызанам букеты кветак. Першы выступіў Васіль Захаравіч Корж. Ад хвалявання дрыжалі рукі і часта моргалі павекі. Гэта была справаздача землякам пра трохгадовую дзейнасць злучэння.

— Я з маленства засвоіў ісціну: «Прайдзі дарогу так, каб не сорамна было па ёй вяртацца назад».

26 чэрвеня сорак першага года наша невялічкая баявая група пакінула гэтыя вуліцы, каб засланіць родную зямлю ад азвярэлай фашысцкай навалы. Мы з першага дня верылі ў нашу перамогу і не шкадавалі жыцця і сіл у барацьбе за свабоду і шчасце нашай сацыялістычнай Радзімы. Не ўсе нашы баявыя таварышы вярнуліся ў родны горад, не ўсе дажылі да гэтага светлага дня. Іх месца ў страі

занялі тысячы адданых байцоў і прыйшлі пераможцамі ў наш вызвалены Пінск. Вось яна, армія адважных, сумленных, адданых народу і Камуністычнай партыі воінаў.

Яшчэ ідуць баі на захадзе пашай дзяржавы. Пачвара фашызму з перабітым хрыбтом адпаўзае ў сваё логава, хоць і люта агрызаецца. Наш абавязак — не шкадаваць сіл на поўны разгром ворага.

Пра зробленае Пінскім партызанскім злучэннем за гэтыя тры гады дaложыць начальнік штаба таварыш Фядотаў.

Падцягнуты, у злінялай гімнасцёрцы, былы кадравы камандзір у асноўным прыводзіў лічбы:

— З чэрвеня 1941 па 15 ліпеня 1944 года Пінскім партызанскім злучэннем разбіта 65 фашысцкіх гарнізонаў, знішчана 26 616 гітлераўцаў, узята ў палон 422, пушчана пад адхон 468 эшалонаў, узарвана 585 паравозаў, 4587 вагонаў і платформ, 65 цыстэрн з гаручым, 770 аўтамабіляў, 86 браневікоў і танкаў, 62 чыгуначныя масты, падарвана 23 620 рэек.

Далей Фядотаў пералічваў ліквідаваныя фашысцкія гарматы і трактары, матацыклы і кулямёты, узарваныя на Днепра-Бугскім канале шлюзы, знішчаныя радыёстанцыі і чыгуначныя дэпо. Кожную лічбу шматлюдная плошча сустракала гарачымі воплескамі, чуліся воклічы ўхвалы і ўдзячнасці народным абаронцам, адважным сынам і дочкам Радзімы.

Адразу пасля мітынгу сотні партызан уліліся ў рады Савецкай Арміі. Яны толькі змянілі свае світкі і шарачковыя фрэнчыкі на шынялі і пагналі варожую зграю далей на Захад. Партызаны старэйшага веку ўзяліся аднаўляць зруйнаваныя ворагам гнёзды, ладзіць мірнае жыццё на вызваленай зямлі.

Неўзабаве ў Пінску з'явілася дзяўчына ў гімнасцёрцы і ў пілотцы. Абапіраючыся на кіёчак, яна шукала партызанскага генерала Каржа.

У юнай франтавічцы не адразу пазнаў Васіль Захаравіч сваю старэйшую дачку Вольгу. Пасля пытанняў, што ды як, дачка расказала пра свае баявыя прыгоды пры вызваленні Румыніі, пра складаныя аперацыі, якія вытрымала пасля раненняў. Сказала, што Зіна ўзнагароджана ордэнам Чырвонай Зоркі і медалямі. Паспеў і Лёня паказаць сябе ў баях.

— Малайцы, дзеткі, не падвялі род Каржоў,— расчуліўся Васіль Захаравіч.

Як толькі акрыяла пасля ранення, Вольга Васільеўна паступіла ў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт, а скончыўшы яго, і цяпер працуе выкладчыцай на філалагічным факультэце галоўнага універсітэта краіны. Лёня стаў інжынерам, а Зінаіда Васільеўна жыве і працуе ў

Мінску. Кажуць, яна ўся ў бацьку. Як і ён, дбае пра людзей, стараецца кожнаму зрабіць нешта добрае. Яна заўсёды ў клопатах, заўсёды ў грамадскіх турботах.

Тры гады Васіль Захаравіч і дняваў і начаваў у лясах і балотах, у завіруху і ў асеннюю слату не ведаў прытулку і спачыну, блакады, прарывы, рызыкоўныя аперацыі, штодзённы клопат пра людзей далі сябе знаць адразу пасля вайны. Ужо немалады Васіль Захаравіч Корж звярнуўся да медыкаў, а потым не ведаў, як адбіцца ад іх клопатаў. Як ні супраціўляўся, давялося асвойваць шпітальныя і санаторныя палаты ў Мінску, Маскве і ў Цхалтуба.

15 жніўня 1944 года стаў самым радасным днём у жыцці Васіля Захаравіча. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прысвоіў яму званне Героя Савецкага Саюза. Залатая Зорка заззяла над двума ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнам Чырвонай Зоркі, ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені і шматлікімі медалямі. На апошняй старонцы свайго партызанскага дзённіка ён запісаў: «Нумары ордэна Леніна 20488, Звязды Героя 4448». Высокія ўрадавыя ўзнагароды вянчалі трохгадовы подзвіг сапраўднага народнага Героя.

А тым часам Васіль Захаравіч даводзіў урачам, што зусім здаровы, прасіў хутчэй выпісаць, бо не ўяўляў сабе жыцця без штодзённых клопатаў і напружанай работы.

— Праца для мяне — самыя лепшыя лекі,— настойваў Корж. І дамогся свайго.

У 1945-1946 гадах ён слухач Ваеннай акадэміі. Неўзабаве дачасна перапынены рамонт здароўя прымусіў выйсці ў запас па хваробе. Але не такі Корж, каб задаволіцца спакоем, бесклапотна сядзець у парку пад грыбком і ўспамінаць сваё баявое мінулае. Яго няўрымслівы характар прагне дзейнасці. Ён просіцца на працу. У 1949 годзе Васіля Захаравіча Каржа прызначылі намеснікам міністра лясной гаспадаркі рэспублікі.

Фашысты звялі тысячы гектараў беларускіх лясоў. Клопатаў і спраў па аднаўленні зялёнага багацця Беларусі Васілю Захаравічу хапала больш, чым мог падняць адзін чалавек. Аднак, калі заставаўся сам-насам, адчуваў, што прагне больш напружанай, гарачай, неспакойнай работы, такой, каб самому бачыць яе плён.

Чамусьці часта снілася яму роднае Хорастава.

— Садзіць і вырошчваць лясы неабходна, але, перш за ўсё, трэба людзей накарміць хлебам, каб яны адчулі радасць жыцця, за якое так змагаліся,— часта гаварыў Васіль Захаравіч сваім сябрам. І думкі гэтыя не давалі яму спакою.

Вераснёўскі пленум Цэнтральнага Камітэта ў 1953 годзе крута павярнуў лёс генерала Каржа. Васіль Захаравіч папрасіў рэкамендаваць яго на пасаду старшыні калгаса ў роднай вёсцы.

## ГЕНЕРАЛ ПАЛЁЎ

У Хорастаўе Корж бываў часта: з гадамі родныя мясціны неадольна цягнуць да сябе чалавека. Да драбніц успамінаюцца сцежкі маленства, крынічка, з якое ўпершыню напіўся, хата, дзе пачуў матчыну калыханку, і заўсёды прыгадваецца журботная жніўная песня. Родныя палі і пералескі вярэдзілі душу Каржа ўспамінамі нядаўніх баёў. Там адзін час быў штаб яго злучэння, у Вскараве — партызанскі аэрадром, там — дарагія магілы яго баявых паплечнікаў і сяброў. А цяпер родзічы і землякі на папялішчах пачынаюць новае жыццё.

У кожны прыезд Васіля Захаравіча абступалі аднавяскоўцы. Адны адводзілі душу ўспамінамі, другія спадзяваліся на дапамогу і добрую параду генерала.

Але як тут памагчы? За вайну здзічэлі, зараслі свірэпаю і асотам палі, статак звялі амаль да шчэнту, на месцы вёсак тырчалі закураныя каміны. Трэба было ўсё пачынаць нанава. Ды і вопыту супольнага гаспадарання яшчэ не было ў землякоў: да восені 1939 года гнялі іх паны і асаднікі. Пасля вызвалення толькі пачалі прыглядацца ды прымяркоўвацца да новага жыцця — грымнула вайна.

Вось таму ледзь-ледзь наскрабалі па 5 цэнтнераў збожжа з гектара, 75 цэнтнераў бульбы і атрымлівалі па працадзень капейкі і грамы. А кожнаму трэба было будавацца, каб хутчэй вылезці з зямлянак, пара неяк ужо станавіцца на ногі. Вось і ляпілі хацінкі на папялішчах, хто ўдоўж, хто ўпоперак вуліцы, як выпадала. Абы лягчэй і зручней.

Раіў Васіль Захаравіч адбудоўваць вёску па адзіным плане, з разлікам на будучае, і дамы ставіць з размахам, каб і ўнукі дзякавалі. А землякі горка ўсміхаліся і разводзілі рукамі: «Які там размах, калі латкі на штанах». «Засек даўно падмецены, і во лапаць не падплецены»,— прыказкамі пярэчылі мужыкі, з якімі некалі разам гадаваўся і ваяваў генерал Корж.

І будаваліся, як выходзіла, абы хутчэй улезці пад страху. На полі і на фермах не ленаваліся, а працадзень як быў, так і аставаўся нішчымны.

Прыглядаўся Васіль Захаравіч і да кіраўнікоў гаспадаркі. Не было ў іх дальняга прыцэлу, мары, хоць невялічкага палёту. Падобна было, што яны толькі і думаюць, як перабіцца ад сяўбы да малацьбы, жылі клопатамі аднаго дня. Круціліся, абы спіхнуць чарговую кам-

панію ды абысціся без вымовы. А ў брыгадах былі працавітыя, сумленныя і адданыя людзі, учарашнія паплечнікі па барацьбе.

Хіба ж мог Корж пакінуць іх у такім становішчы, не падтрымаць, не дапамагчы?

Студзеньскія завірухі паперамяталі дарогі, захуталі сумётамі хацінкі, замуравалі іскрыстымі ўзорамі шыбы, прыбралі ў белыя карункі сады і пералескі.

У цесным школьным класе было людна, тлумна і горача, як у лазні. Спрэчкі ўздымаліся да вышэйшага градусу: калгаснікі гаварылі пра нізкія ўраджаі, папракалі нядбайных кіраўнікоў гаспадаркі, патрабавалі механізаваць і электрыфікаваць фермы.

Уважліва слухаў, а самае істотнае занатоўваў Васіль Захаравіч. Пасля перапынку старшыня сходу прачытаў просьбу таварыша Каржа прыняць яго ў члены арцелі. Воплескі заглушылі апошнія словы заявы. А прапанову абраць Васіля Захаравіча старшынёй калгаса сход сустрэў з радасцю і надзеяй.

Устаў, расчулены даверам і ўвагай землякоў, Корж.

— Дарагія таварышы, мілыя мае землякі, я спадзяюся, што вас не вельмі здзівіла, чаму я, генерал, намеснік міністра, вырашыў стаць калгаснікам і разам з вамі змагацца за ўздым нашай гаспадаркі. Я часта бываў у вас, жыў клопатамі калгаса, чым мог, дапамагаў, хоць фармальна і не быў членам арцелі. Я тут нарадзіўся і вырас, тут біўся з рознаю варожаю навалаччу за Савецкую ўладу, ведаю кожны загон і ўзмежак.

Дзякую вам, таварышы, за давер. Будзем разам працаваць, каб ажыццявіць пастанову верасьнёўскага пленума ЦК КПСС, каб нам і дзяржаве нашай хапала хлеба і да хлеба, каб кожны дзень нам радасна жылося і працавалася.

Два дні сход абмяркоўваў планы развіцця гаспадаркі на бліжэйшыя гады, вырашалі не толькі, што рабіць, а і як зрабіць.

Пасля сходу Васіль Захаравіч застаўся ў калгасе. Паставіў раскладушку за злінялаю шырмаю ў хаце аўдавелай за вайну пляменніцы Алімпы і папярэдзіў: «Уставаць буду рана, класціся позна. Так што не крыўдуй. Надакучу — скажы. Назаляць не буду. Дзе-небудзь прыткнуся».

І пачалося неспакойнае жыццё партызанскага генерала на новай пасадзе. Адразу апанавала мноства неадкладных клопатаў і спраў. Працоўны дзень пачынаўся пры мігценні зорак, канчаўся далёка за поўнач. Перад сном яшчэ вымяркоўваў паўгадзіны, каб запісаць у сшытак назіранні і думкі, разважанні і найбольш значныя факты. Ён часта аспрэчваў усталяваныя погляды мясцовых работнікаў, абвяргаў

некаторыя метады кіравання, абураўся фармальнымі адносінамі да справы, да патрэб людзей і прыроды.

Гартаю пажоўклыя старонкі калгасных дзённікаў генерала Каржа і здзіўляюся шырыні мыслення, прадбачанню, настойлівасці і энергіі ўжо не маладога ў тыя гады пачынаючага старшыні калгаса.

Вось адзін з першых запісаў:

«16/1-54 г. У рашэнні вераснёўскага Пленума гаворыцца, што вялізныя рэзервы, закладзеныя ў нетрах буйной сельскагаспадарчай вытворчасці, мы яшчэ выкарыстоўваем кепска. Гэта цалкам і поўнасцю датычыцца нашай гаспадаркі. На тэрыторыі калгаса ў радыусе 30-35 кіламетраў раскіданы палескія вёскі, сяк-так аднооўленыя па месцы нядаўніх папялішчаў. Забудова вялася неарганізавана, як каму хацелася. Кожны спяшаўся хутчэй вылезці з зямлянкі і ляпіў сваё гняздо, дзе і як здолее. Ніякага разумнага архітэктурнага ўмяшання ў забудову спаленых ворагам вёсак не было. А партыя і ўрад з першых пасляваенных дзён клапаціліся пра планавае аднаўленне сёл, з разумным архітэктурным вырашэннем забудовы. Але да кіраўнікоў раёна, відаць, гэта не даходзіла, хоць яны часта матляліся ў гэтых мясцінах».

Здавалася, ну што цяпер зробіш? Забудавалі ж. Пабедаваў, паабураўся і на тым супакоіўся. Але не такі Коряі. У той самы дзень ён запісаў: «Патрэбен мясцовы будаўнічы матэрыял і ў дастатковай колькасці, каб усё гэта выправіць. Патрэбны цэгла і чарапіца. А дзе гліна? За ракою, за Ланню.

Учора Марк узняў у мяне настрой, пацвердзіў мае ранейшыя здагадкі. З гоцкай гліны можна нарабіць столькі цэглы і чарапіцы, што хопіць не толькі нашаму калгасу, а па адбудову ўсяго раёна. Час пераходзіць да будаўніцтва каменных пабудоў. Пара мяняць аблічча калгаснай вёскі.

Ужо трэці дзень у калгасе. Наведаў усе брыгады. Непачаты край работы па ўсіх напрамках. Толькі б хапіла сілы!»

А паміж Гоцкай з такою цудоўнаю глінаю і цэнтральнаю сядзібаю 20 кіламетраў непраходнай дрыгвы. Вось і паспрабуй дастаць тую гліну! А навошта вазіць? Там, на месцы, і рабіць цэглу... Але без дарог, як ні круці, не абысціся: прыйдзецца прабівацца праз балота.

І яшчэ неадкладны клопат захапіў Васіля Захаравіча — электрычнасць. Пры цару і за панамі сляпіліся пры лучыне, вайна тры гады суцэльнай ноччу была.

А цяпер, на дзевятым пасляваенным годзе, сорам пры газніцы сядзець. Ды і фермы пара электрыфікаваць. Папярэднікі спрабавалі нешта зрабіць, але накінулі новаму старшыні адны непрыемнасці.

«Паеду ў Мікашэвічы паглядзець угнаенне і пагаварыць з Белсельэлектра пра будаўніцтва электрастанцыі. Трэба лайдакоў прыцягнуць да адказнасці: сплавілі калгасу сапсаваны рухавік, а праўленне, лічы, выкінула на вецер 100 тысяч рублёў. Ні грошай, ні святла»,— запісаў у сваім дзённіку Корж.

Пасля паездкі ў райцэнтр Васіль Захаравіч з болем зазначае, што гіне зваленае над адхон угнаенне: усё карыснае з яго выпалескваюць дажджы, выдзімае вецер, і ў калгасы за 50-70 кіламетраў возяць пусты шлак, дарэмна паляць гаручае, трацяць сілы і сродкі. Пара ашчаджаць кожную народную капейку.

Прыдзірлівая ўвага Каржа да эканомікі калгаса і раёна, гарачае і прынцыповае ўмяшанне ў кожную драбніцу, нецярплівасць да безгаспадарчасці, адкрытая рэзкасць яго выказванняў не ўсім прыйшліся даспадобы. Пакорлівым, бяздумным і паслухмяным выканаўцам Васіль Захаравіч ніколі не быў. А ў справах дзяржаўных і грамадскіх заўсёды непахісна трымаўся галоўных партыйных рашэнняў. Таму нікому не даваў спакою і сам ніколі яго не меў. Ён не ўмеў «выконваць абавязкі» або «займаць пасаду». Кожнай справе Васіль Захаравіч аддаваўся цалкам, гарэў сам на рабоце, захапляючы іншых сваёю няўрымслівай энергіяй, смелымі планамі і перспектывамі. І ніколі не адступаў ні перад якімі цяжкасцямі.

Думка пра будаўніцтва цагельні не давала спакою ні на хвіліну: мроіліся Васілю Захаравічу сёлы будучага — каменныя дамы, сучасныя фермы, сіласныя вежы, зернесушылкі, светлы клуб, новая школа.

Старшыня калгаса стукаецца ў розныя інстанцыі: просіць, настайвае, патрабуе. Начальнік рэспубліканскага ўпраўлення электрыфікацыі абяцае ў другім квартале закончыць мантаж калгаснай электрастанцыі, начальнік упраўлення Беларускай чыгункі дазволіў на тэрыторыі станцыі пабудаваць склад для мінеральных угнаенняў. Выклапатаў Васіль Захаравіч гатунковага насення льну і канаплі, выпрасіў меліярацыйныя машыны.

Закончыўшы справы ў сталіцы, завірушнаю ноччу выехаў у Хорастава, каб «выканаць, як ён пісаў у дзённіку, свае абавязкі перад калгаснікамі, якія чакаюць ад мяне многага. Бо трэба ўсё пачынаць спачатку. Электрыфікацыю, севазварот, жывёлагадоўлю,— ўсё-ўсё, куды ні паглядзі, трэба наладжваць і перарабляць. Таму заўсёды неабходна быць на месцы. А каму матацца па арганізацыях? Без гэтага пакуль што не абысціся».

Па дарозе з Мінска ў завірушнай мітульзе святло фар «газіка» выхапіла замецены скрэпер, які павольна поўз па дарозе. Тут якраз вялі на Кіеў новую магістраль рабочыя Брэсцкай машынка-дарожнай

станцыі. Мяцеліца загнала брыгаду ў вёску, працаваў толькі адзін скрэпер. «Што за ўпарты хлопец на ім? — падумаў Корж. Спыніўся, падышоў да скрэпера. З кабіны паказаўся твар маладога хлопца. Пазнаёміліся, разгаварыліся. Васіль Захаравіч расказаў Івану Асініну — так звалі скрэпeрыста,— як думае перабудаваць вёску, пра белакаменныя дамы, цагельню. У Івана загарэліся вочы. І ён некалі марыў пра такія сёлы, але ўсё здавалася неверагодна далёкім.

— Калі згодзен папрацаваць у нас, пагавару з тваім начальствам і разам пачнём прабіваць дарогу праз самую багну.

Угаварыў Васіль Захаравіч дарожнае начальства, каб адпусціла скрэперыста, згадзіў Івана Асіпіка, і закіпела работа на цяжкай балотнай трасе. Дарогу будаваў калгас сваімі сіламі, без асігнаванняў. Выручалі скрэперыст Асіпік і калгасныя трактарысты. У выхадныя дні і да поўначы пасля працы карчавалі пні, капалі кюветы, па канавах адводзілі ржавую балотную ваду, укладалі насціл з хмызняку. І першым сярод дарожнікаў быў генерал, Герой Савецкага Саюза Васіль Захаравіч Корж. Ён браўся за самае цяжкае, сваім прыкладам, а дзе жартам, вясёлаю прыпеўкаю падбадзёрваў кожнага ў нялёгкай рабоце.

Праз Лань і балотныя ручаіны клалі масты, дрыгву гацілі хлудам, хлюпалі па сцюдзёнай вадзе, і ніхто не ныў і не скардзіўся — кожнага натхняла мара пра будучую вёску.

Скрэперыста Івана Асініна знарок Васіль Захаравіч паставіў на кватэру да свайго даўняга друга Вялічкі. У яго ж — працавітая дачка Васіліса. Сапраўды, прыгажуня, як у той казцы. І не памыліўся. Неўзабаве Іван папрасіў старшыню калгаса быць у яго за свата. Згулялі шумнае вяселле. Так Іван Асіпік назаўсёды застаўся ў калгасе. З цягам часу ён стаў лепшым механізатарам арцелі.

Але на кожную нявырашаную праблему навальваліся новыя клопаты і неадкладныя справы. Хіба можна было мірыцца з ураджаямі па 5-7 цэнтнераў збожжа з гектара? На хорастаўскіх і чаланецкіх пясках ніколі лепш і не радзіла. А дзе выйсце? Меліярацыя! Балоты павінны стаць залатым дном, асноўнаю базаю калгаснага дабрабыту.

І Васіль Захаравіч пачынае наступ на балоты. 28 сакавіка 1954 года ён запісаў у дзённіку: «Гэта пытанне два месяцы назад я ставіў у Міністэрстве меліярацыі. Падтрымалі. У мяне падняўся настрой. А ўчора меліяратары паказалі план асушкі. Вызначаны галоўныя каналы і калектары. Толькі б хутчэй. У гэтым наш ратунак. Даўней, гадоў 50 назад, нейкі генерал Жылінскі асушваў тут балоты. Але тыя канавы зараслі хмызам і заплылі глеем. Трэба ўсё пачынаць нанава і рабіць так, каб балоты прыносілі народу карысць».

Генерал Жылінскі дбаў пра абшарнікаў, пра іх прыбыткі, а генерал Корж разгарнуў работы па меліярацыі для шчасця сваіх аднавяскоўцаў, у імя росквіту роднай зямлі.

Запісы Васіля Захаравіча, яго развагі часта перабіваюцца сціслымі занатоўкамі: «Прыехаў дамоў у 24 гадзіны». «Нядзеля. Пяць гадзін раніцы. Адліга. Едзем у лес». І побач не лірычныя, а хутчэй сацыялагічныя адступленні клапатлівага і неспакойнага гаспадара: «Эх, лес, лес! Калі б ты мог расказаць чалавеку, колькі карысці ты прыносіш яму і навакольнай прыродзе, як упрыгожваеш і ўзбагачаеш зямлю і самога чалавека. А ён гэтага не хоча разумець...» І Васіль Захаравіч з абурэннем піша, як некаторыя лесарубы не ашчаджаюць маладняк, нішчаць падлесак, нерацыянальна скарыстоўваюць каштоўную драўніну. Ён дбаў пра лясы, спрачаўся, даводзіў, станавіўся абаронцам зялёнага друга.

А пра што ён не дбаў?

Прачытаўшы раман Леаніда Ляонава «Рускі лес», старшыня палескага калгаса ацэньвае аўтарскую пазіцыю: «Мне здаецца, раман трэба было пісаць смялей, глыбей выкрываць недахопы ў гэтай вялікай дзяржаўнай справе. А мы тым часам нішчым лясы і спустошаем прыроду».

Клопаты, паходы ў розныя ўстановы, бяссонныя ночы, асабісты прыклад нястомнага працаўніка на балотнай трасе, на меліярацыі, на ворыве і сяўбе, на жніве і на копцы бульбы далі відавочныя вынікі ўжо на першым годзе старшынёўства Васіля Захаравіча, абудзілі ў кожнага селяніна новую сілу і веру ў поспех. Пра свайго старшыню аднавяскоўцы казалі: «Не здаўся на вайне і цяпер не адступіцца. Ён слова на вецер не кідае. Сказаў — значыць зробіць!»

30 красавіка 1955 года рэспубліканская газета «Колхозная правда» надрукавала артыкул старшыні арцелі

Героя Савецкага саюза В. З. Каржа. У ім Васіль Захаравіч расказваў: «Пры актыўнай дапамозе механізатараў за першы год мы асушылі і асвоілі 270 гектараў тарфянікаў... Даход арцелі дасягнуў 1 076 241 рубель. Толькі ад жывёлагадоўлі мы атрыаіалі больш за 370 тысяч рублёў. Калгаснікам на кожны працадзень выдалі па І кг збожжа, па 2 кг бульбы, па 2 рублі грашыма... У 140 дамах калгаснікаў, у гаспадарчых і жывёлагадоўчых будынках гарыць электрычнасць, працуюць піларама, малатарня, саламарэзка... І яшчэ важна зазначыць, што за мінулы год у арцель вярнулася 37 калгаснікаў, якія раней выехалі на працу ў горад. Гэта была ўжо маральная перамога.

Не толькі ўзровень дабрабыту, размах работ і перспектывы росту гаспадаркі вярталі назад «уцекачоў». Абаяльнасць старшыні, яго

клопат пра кожнага чалавека, шчырае жаданне памагчы старому і малому прыцягвалі людзей да сябе, і нельга ўжо было адарвацца ад падабрэлай, ласкавай роднай зямлі.

Старшыню калгаса шукалі не ў канторы, а ў брыгадзе меліяратараў, на пракладцы дарогі ў Гоцк, у полі або на ферме. На пытанні прыезджых: «Дзе знайсці Васіля Захаравіча?» звычайна адказвалі: «Ён, мабыць, і начуе ў баразне. На полі ці на балоце шукайце».

Прыбегла аднойчы да старшыні немаладая калгасніца.

— Стары мой зусім занядужаў. Жыватом качаецца. Памажыце адвезці да доктара.

— Збірай. Праз паўгадзіны еду ў Мінск. Там яго і здам добрым дактарам.

Пазней у сваім дзённіку Васіль Захаравіч запісаў:

«Забраў з сабою хворага, можа, і дапамогуць яму і даследуюць, як трэба. Добры ён чалавек, брыгадзір будаўнікоў Карп Гарасімавіч Данілевіч. У 18 гадзін былі ўжо ў Мінску, і я паспеў дамовіцца ў Міністэрстве аховы здароўя пра хворага. Раніцою наклаў яго ў першую клініку. Прафесар гаварыў з ім пры мне. Карп Гарасімавіч згадзіўся на аперацыю».

Мінская кватэрка Каржа на Дрэваапрацоўчай вуліцы ператварылася ў калгасную гасцініцу і ў склад. Сюды прыязджалі, як дамоў, выпісаныя з бальніцы, жылі тыднямі, у сенцах, і ў двары стаялі маторы, скруткі дроту, запасныя часткі для трактараў і аўтамабіляў, мяхі з гатунковым насеннем, тоненькія прышчэпы для калгаснага саду.

Васіль Захаравіч не ленаваўся ездзіць да суседзяў, не саромеўся вучыцца ў іх і пераймаць добры вопыт.

Калгас «Зара Палесся» ўзначальваў былы партызан Палескага злучэння Д. І. Хаміцэвіч. Васіль Захаравіч прыехаў да яго. Славутага партызанскага генерала сустракала ўся вёска. Тут усе ведалі яго, многія былі абавязаны жыццём дзяцей і мацярок лясным салдатам Каржа і яму асабіста. Кожны запрашаў жаданага госця да сябе, гатовы быў падзяліцца апошнім, дапамагчы, параіць. Са згоды праўлення Васіль Захаравіч абмяняў на грэчку гатунковага насення яравога жыта.

На Любаншчыну, дзе слава камароўцаў жыла ў памяці старых і малых, у славуты калгас імя БВА Васіль Захаравіч прыехаў з двума будаўнікамі, даяркаю і бухгалтарам. Няхай паглядзяць, як людзі будуюцца, даглядаюць кароў і вядуць улік, ды і самому хацелася параіцца з вопытным старшынёй Ціханам Георгіевічам Смірновым.

Калгас вырошчваў добрыя ўраджаі на тарфяніках, асушваў балоты, сеяў шматгадовыя травы, будаваў новыя фермы. Было тут

чаму павучыцца. У кожнай брыгадзе сустракаліся баявыя таварышы, нізка кланяліся Каржу незнаёмыя жанчыны і дзякавалі, што ратаваў іх у гады фашысцкай навалы, каля платоў купкамі стаялі белагаловыя хлапчукі і прагна ўглядаліся ў партызанскага камандзіра, пра якога ў кожнай хаце расказвалі легенды.

А ён жартаваў і ўсміхаўся, гладзіў зліналыя чубкі будучых гаспадароў гэтай зямлі, думаў, кім праз дзесятак гадоў стануць гэтыя хлапчукі і дзяўчынкі, гэты людскі «падлесак», які трэба клапатліва і патрабавальна гадаваць і загартоўваць.

З калгаса імя БВА ў свой «Партызанскі край» прывёз Васіль Захаравіч 600 кілаграмаў насення цімафееўкі і парады, як вырошчваць шматгадовыя травы на асушаным балоце.

Слава калгаса «Рассвет» і яго старшыні Кірылы Пракопавіча Арлоўскага грымела на ўсю рэспубліку. Колькі ж мінула гадоў з таго часу, як яны ўпершыню сустрэліся на «крэсах усходніх», тут, у старобінскіх лясах? Трыццаць тры. Разам гамілі панскіх асаднікаў, вызвалялі з пастарункаў падпольшчыкаў, нават ваяводу далі адстаўку. Разам з Арлоўскім ваявалі ў гарах Іспаніі, у Айчынную вайну білі фашыстаў — адзін у баранавіцкіх лясах, другі на Палессі. І цяпер агульны клопат у колішніх баявых сяброў — сеяць, радавацца першаму коласу і апошняму снапу, несці нялёгкі абавязак старшыні калгаса. «Якая адпаведнасць, які агульны лёс,— думаў Васіль Захаравіч.— Можам з Кірылам Пракопавічам памяняцца біяграфіямі, і ўсё супадзе. Відаць, таму, што наша пакаленне камуністаў ідзе адною дарогаю, сагрэта агульнаю ідэяю і марай».

У Арлоўскага, кажуць, пабудаваны выдатныя тыпавыя фермы, ды і ўраджаі добрыя збіраюць кожны год. І Васіль Захаравіч вырашыў: «Ноччу ў суботу трэба паехаць у «Рассвет» разам з заатэхнікам. Паглядзім фермы, а раніцаю ў панядзелак будзем дома».

Разам з Васілём Захаравічам у «Рассвет» ехалі ачунялы пасля аперацыі брыгадзір будаўнікоў Данілевіч і заатэхнік Бабко. Начавалі ў машыне, а раніцаю прыйшлі на нарад. У кожным слове і руху Арлоўскага пазнаваў Корж гарачы і рэзкі характар даўняга баявога таварыша, дысцыплінаванага і суровага, клапатлівага і няўрымслівага гаспадара. Потым абодва старшыні хадзілі на палях, аглядалі кароўнікі, Кірыла Пракопавіч расказваў пра работу на фермах, дзяліўся вопытам.

Назаўтра Корж запісаў у сваім сшытку: «Ну ж і наварочаў Кірыла Пракопавіч за дзевяць з палавінаю гадоў! Пакуль што няма роўнага яму. Але нарад, на якім мы прысутнічалі, думаецца, павінен быць іншы. Няўжо і тут дысцыпліна пераваляе над свядомасцю? Ві-

даць, Кірыла Пракопавіч, нервы табе трэба лячыць. Рэзкае і грубае слова балюча раніць чалавека, а ты яго паспрабуй пераканаць ласкаю, і чалавек усё зробіць з ахвотаю, а не па абавязку».

Корж не саромеўся вучыцца ў вопытных калгасных кіраўнікоў, хоць і не ўсё прымаў бясспрэчна: пераймаў толькі тое, што падыходзіла да іх гаспадаркі, абвяргаў няўдалыя эксперыменты, узважваў новыя пошукі, разважаў, спрачаўся з некаторымі старшынямі, даваў ім свае парады, не заўсёды згаджаўся нават з такім аўтарытэтным кіраўніком, як Кірыла Пракопавіч Арлоўскі, адстойваў свае погляды дзеля агульнай справы. Для яго перакананасць была важней любога аўтарытэта.

Такі ён быў заўсёды і скрозь — прамы, гарачы і прынцыповы. Не зважаючы на пасады службовых асоб, сваім сялянскім вопытам, логікай, учэпістым і светлым розумам даводзіў сваю праўату. Адных гэта бянтэжыла, іншыя, абараняючы гонар мундзіра, спрабавалі асадзіць няўрымслівага старшыню: «Гэта вам не партызаншчына, таварыш Корж». Такія папрокі асабліва абражалі Васіля Захаравіча: «У нашым злучэнні, малады чалавек, заўсёды поўны парадак быў, партызанілі без «партызаншчыны», сумленна і арганізавана. Вашай канторы не шкодзіла б пераняць гэты вопыт». І не супакойваўся, пакуль не дамагаўся свайго.

Увосень закончылі дарогу на Гоцк, а там ужо з печаў выгружалі першыя звонкія цагліны, ашчадна складалі ў кузавах грузавікоў, на вазах і везлі на цэнтральную сядзібу. І ў Хораставе ўзнімаліся сцены кароўнікаў, майстэрань, магазінаў і дамоў калгаснікаў.

Электрычнае святло гарэла не толькі на фермах, кармакухнях і складах,— у хатах, на вуліцах. У калгасе працавала 50 электраматораў, былі радыёфікаваны ўсе кватэры, з кожнаю брыгадаю ўстаноўлена тэлефонная сувязь. Пра надзённыя задачы Васіль Захаравіч часта расказваў калгаснікам па радыё, прасіў Сцяпана, Данілу ці Ганну зрабіць нешта неадкладнае. Людзі слухаліся і рабілі ўсё як« найлепш.

Клапатліва і дбайна падбіраў старшыня спецыялістаў для сваёй гаспадаркі: механізатары з меліярацыйных атрадаў ахвотна заставаліся ў калгасе, хлопцы жаніліся з сінявокімі палескімі прыгажунямі, а старшыня, як родны бацька, даваў у пасаг то цялушку, то парсючка, і сядзеў на вяселлях на покуце, дапамагаў маладым чым толькі мог. І яны сваёю працаю шчодра аддзячвалі за клопаты праўлення і старшыні.

Аксамітам чарнелі і ільсніліся ўзараныя тарфянікі, зелянелі густой рунню, шумелі пшанічнымі разлівамі і блакітнымі азёрамі льну,

а колішнія пясчаныя загоны зарасталі хвойнікам. Ён зберагаў вільгаць і засланяў палі ад сухавеяў.

Ужо ў 1959 годзе калгас «Партызанскі край» меў 8 мільёнаў прыбытку. Але гэта не задавальняла старшыню. Яго захаплялі новыя мары і планы, ён клапаціўся пра дабрабыт калгаснікаў і культуру сяла: будаваў новыя дамы, школы, дзіцячыя сады і яслі, а сам жыў у каморцы пры калгаснай канторы, уставаў да світання, клаўся апоўначы, не меў адпачынкаў і выхадных.

— Адкуль столькі сілы ў чалавека бярэцца? — дзівіліся калгаснікі, і сястра часта папракала:

— Хоць бы да мяне калі заскочыў гарачай капусты пасёрбаць, а то па сухой нішчымніцы жывеш.

— Няма калі расседжвацца, Марыля,— і ён выцягваў з палявой сумкі акраец хлеба, скрылёчак сала, садзіўся на ўзмежак і частаваў сястру.

Толькі воддаль здавалася, што сіле Каржа няма канца-краю. Начамі ныла сэрца, слабелі ногі, у галаве гула малатарня, а ў скроні стукалі малаточкі. Але не было калі прыслухоўвацца да ўсіх немачаў: новае світанне клікала ў поле, а дзень прыносіў сотні клопатаў і неадкладных спраў. Ён ніколі не скардзіўся на стому, нікому не казаў, як яму бывае цяжка. «Камандзір заўсёды павінен быць бадзёры і вясёлы. Я ж — камандзір палёў, і аперацыі тут бываюць не менш складаныя і адказныя, як на фронце»,— суцяшаў сябе Корж.

А раённае начальства ўсё часцей «спачувала» яму: «Папрацавалі вы, Васіль Захаравіч, самаахвярна, пара і пра сябе паклапаціцца. Няхай маладзейшыя пакруцяцца».

Прыемна, калі дбаюць пра цябе, але гэтыя клопаты і насцярожвалі Каржа: «Чым не дагадзіў? Праўда, бываю рэзкі. Падтакваць і лісліва ўсміхацца не ўмею. Магчыма, гатовенькае месца нехта ўпадабаў. Сем гадоў назад, калі было пуста і гола, ахвотнікаў не знаходзілася, а цяпер кожны ласы». Але часам і пярэчыў сабе: «Можа, і праўда, малады, энергічны старшыня зробіць больш і лепш? Пайсці на спакой, атрымліваць генеральскую пенсію, у піжаме і пантофлях сядзець на канапе ці забіваць у двары з пенсіянерамі «казла»? Не, спакой не для мяне!»

І ўсё ж... усё ж 11 сакавіка 1961 года вырашыў напісаць заяву Цэнтральнаму Камітэту Кампартыі Беларусі:

«Пасля бесперапыннай барацьбы за нашу Савецкую Радзіму, мне давялося апошнія сем гадоў працаваць у вельмі цяжкіх умовах старшынёй калгаса «Партызанскі край».

Гэта была палеская глухмень, бездараж, пяскі і балоты, народ галадаў.

Цяпер гэты край стаў непазнавальны: асушана, раскарчавана болей за 2 тысячы гектараў балот. Яны даюць высокія ўраджаі. Пабудаваны жывёлагадоўчыя фермы, электрыфікаваны і радыёфікаваны ўсе вёскі, тэлефанізаваны брыгады, пабудаваны каларыферныя сушылкі, механізавана апрацоўка льну і канапель, працуюць млын, піларама, цагельня ў Гоцну, два дызелі, 50 электраматораў, 12 трактараў, 5 камбайнаў, 16 аўтамашын. Калгас мае 2 тысячы галоў буйной рагатай жывёлы, 110 гектараў саду, пракладаюцца добрыя дарогі. Але, па вялікі жаль, мне ўжо 63 гады. Нястомная барацьба, нягоды і цяжкасці партызанскага жыцця падарвалі маё здароўе. Урачы даўно настойваюць, каб я пакінуў гэты цяжкі ўчастак работы.

Таму прашу Цэнтральны Камітэт падабраць на маё месца добрага, ініцыятыўнага работніка, хоць, шчыра кажучы, выказаць гэта мне вельмі цяжка.

В. К о р ж».

Калгасны сход расцягнуўся аж на два дні. Пра ўсё ўспаміналі аднавяскоўцы; што гадамі жыло ў сэрцы, выказвалі цяпер. Скупыя на пахвалу і падзякі сяляне прыгадалі сваё галоднае і лапцюжнае існаванне «за панскім часам», пакуты ў гады фашысцкай навалы, першыя пасляваенныя гады на папялішчах, радаваліся дастатку, у якім цяпер жыве іх «Партызанскі край».

— Не пакідай, Захаравіч, папрацуй яшчэ.

— Не рвіся, як раней, толькі камандуй, а мы твайго кожнага слова будзем слухацца,— упрошвалі калгаснікі.

Устаў заўсёды маўклівы Яўстаф Аляксеевіч Цуба і па праву старэйшага звярнуўся так, як некалі ў маладосці:

— Памятаеш, Васіль, кім былі мы да трыццаць дзевятага года? Па куццю ў пана выпрошвалі жменю папцаку. На ўсю поласць было толькі 70 газніц, а Гахаючы, Чаланец, Груздава, Пузічы і Вейна сляпіліся пры лучыне. На сто душ прыпадала 8 пісьменных. Ды і то якія там былі грамацеі — замест крыжыкаў тры літары з кручком надрапаюць. Да бальніцы, як да таго бога, не дапнеш. А цяпер? Дзесяць школ, дзве бальніцы ў калгасе, сем клубаў, дзевяць магазінаў, электрыка не толькі людзям — парсюкам свеціць. На колішняй дрыгве пшаніца, як гай, шуміць. І ўсё гэта мы за некалькі гадоў нажылі. Ты думаеш, мы не ведаем тваіх бяссонных начэй? Ведаем, лічылі. Канца ім няма. А цяпер ты хочаш кінуць нас, як роднае дзіця, што вынянчыў сваімі рукамі? Адумайся, Васіль! Паслужы яшчэ сваім зем-

лякам, як служыў дагэтуль. Усе людзі,— ён абвёў рукою перапоўненую залу,— просяць цябе. Астанься, пабудзь яшчэ.

Казытала ў горле, падкочваўся тугі камяк, а з праходаў і з усіх куткоў умольна глядзелі такія знаёмыя вочы равеснікаў і равесніц, іх дзяцей і ўнукаў. Восем разоў браў слова Васіль Захаравіч, абяцаў дапамагаць парадай, калі будзе што не так, папраўляць, сачыць за ростам гаспадаркі.

Нехта прапанаваў:

— Калі не здолееш — з пасады адпусцім, але будзь ганаровым старшынёй. Дзе новы не пацягне, ганаровы падставіць плячо. Памятай, Васіль Захаравіч, «Партызанскі край» — твой край, твой родны калгас.

Апошнія словы заглушылі воплескі. Ледзьве стрымаў хваляванне Васіль Захаравіч. Нібыта выціраючы пот, перахапіў скупую слязінку і папракнуў сябе: «Відаць, старэю. Сэрца размякла. Сваёй слязы з маленства не памятаю». І зноў выпрастаўся, заціснуў нервы ў кулак.

Разыходзіцца не спяшаліся, усё яшчэ ўгаворвалі адумацца, не пакідаць іх.

Выйшаў Корж разам з новым старшынёй Сцяпанам Жыбуртовічам. Хрупала над нагамі падшэрхлая наледзь, з палёў патыхала вільгаццю пратал́ін і набраклым сітаватым снегавы На ўсе бакі мігцелі сузор'і электрычных агнёў.

Сэрца сціскала трывога: няўжо ўсё створанае, здабытае, адбудаванае за сем з лішнім гадоў, зробіцца чужым, староннім? Няўжо не будзе ніякіх клопатаў і хваляванняў? Супакоенасць і пустата душы — прыкмета старасці. Прыгадалася даўняя гісторыя: выбракавалі баявога кавалерыйскага каня і прадалі вадавозу. Кожны дзень ён вазіў цяжкую бочку. Аднойчы пачуў трывожны сігнал трубы, да крыві закусіў цуглі, не паслухаўся фурмана і з бочкаю стаў у строй.

«Можа, і мяне яшчэ пакліча баявая труба?» — суцяшаў сябе Васіль Захаравіч.

Ён не спаў да раніцы, перабіраў у памяці ўсё жыццё: баі і паходы па лясах і дрыгве, па камяністых сцежках Валенсіі, прыгадаў і радасць Перамогі. За што ваяваў? За гэтую родную зямлю, за шчасце людзей на ёй, за дабро, якое шчодра сеяла яго жылаватая дужая рука.

На досвітку пайшоў пратаптанаю за многія гады сцежкаю — на фермы, у майстэрню, прыдзірліва прыглядаўся да кожнай драбніцы. Узрадаваўся, сустрэўшы новага старшыню: «І гэты не праспаў першага дасвецця». А ў душы зашчымела пякучая зайздрасць. Але хіба можна зайздросціць і папракаць за маладосць?

Дамовіліся пасля нарады абмеркаваць бліжэйшыя задачы.

— Вызначым, якія вышыні прыйдзецца браць,— усміхнуўся Корж...

Доўга вызначалі, складалі дзёрзкія планы.

А выязджаць з родных мясцін не хацелася: марудзіў. Ледзь не тыдзень перадаваў справы, знаёміў новага старшыню з гаспадаркай і з людзьмі. Ад сястры даведаўся, што калгаснікі рыхтуюць яму ўрачыстыя праводзіны. Баяўся, што не стрымаецца, расчуліцца.

Ноччу пастукаўся да шафёра.

— Ты прабач, Іван, за турботы. Тэрмінова трэба падскочыць у адно месца. Заводзь і пад'язджай да мяне.

На задняе сядзенне «газіка» кінуў Васіль Захаравіч усе свае набыткі за сем з лішкам гадоў — цыратовы чамаданчык, і паехаў у Мінск, у драўляны дамок на Дрэваапрацоўчай вуліцы. Гэты дом і пасля заставаўся гасцініцаю і перавалачнаю базаю калгаса «Партызанскі край».

Кожны раз Васіль Захаравіч не толькі ўважліва слухаў расказы заезджых паляводаў, аграномаў, механізатараў, не толькі распытваў пра ўсе дробязі, але па-ранейшаму хадзіў з імі ў міністэрствы, на базы, здабываў угнаенні, запасныя часткі, нарады на гатунковае насенне, даставаў мэблю для клуба і абсталяванне для дзіцячых садоў. Ганаровы старшыня не толькі быў ганаровы — ён жыў справамі і клопатамі калгаса, быў прадстаўніком «Партызанскага краю» ў сталіцы.

А весткі даходзілі трывожныя і сумныя: падае ў калгасе дысцыпліна, пустазелле глушыць палі, стаяць сапсаваныя маторы, азімае жыта пасеялі без угнаенняў. Калгаснікі прасілі Васіля Захаравіча прыехаць і ўмяшацца ў іх справы. Сітуацыя складаная: хоць бы не пакрыўдзіўся новы старшыня. Але лёс калгаса, лёс людзей вышэй асабістай крыўды.

У адліжны сакавіцкі дзень 1962 года Корж прыехаў у калгас і адразу граніў на справаздачны сход у сёмай брыгадзе. У клуб сышлося болей за чатырыста калгаснікаў. Першым у прэзідыум абралі Васіля Захаравіча.

Пасля дакладу старшыні брыгадзіры і паляводы пачалі гаварыць пра недахопы І пралікі ў працы.

— Што вы, таварышы, мы ж сёлета атрымалі хлеба на працадзень больш, як у мінулыя гады,— апраўдваўся старшыня.

— Дык той хлеб, дзякуй яму, Захаравіч пасеяў на ўгноеных палях. А вы жыта ўкінулі ў голы пясочак. Што ўвосень будзем здаваць дзяржаве, чым карміцца будзем? Зноў людзі разбрыдуцца на заработкі.

— Васіль Захаравіч, злітуйся, калі хочаш, на калені ўсе пастанем, толькіаставайся. Ты нас на ногі паставіў, а за гэты год зноў захісталіся, як дубец на ветры,— нізка пакланілася сівая жанчына.

Сход зацягнуўся да чатырох гадзін раніцы, і ўсё ж упрасіў Каржа застацца. Пасля такіх жа гаманкіх сходаў у Чаланцы і Хораставе Васіль Захаравіч зноў прыняў гаспадарку. Не мог не прыняць, не адважыўся адмовіць землякам, не выканаць абавязак камуніста.

І яшчэ тры гады асушваў балоты, будаваў фермы і школы, урабляў глебу і саджаў лясы, масціў дарогі і брукаваў вуліцы генерал, Герой Савецкага Саюза, член Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі Васіль Захаравіч Корж.

У 1967 годзе нястомнага сейбіта зваліла цяжкая немач.

Толькі смяротна параненага байца выносяць з поля бою. А бой працягваўся за новае светлае жыццё на палескай зямлі. На змену сталі маладыя, энергічныя і дбайныя выхаванцы Васіля Захаравіча.

Калі белай квеценню ўкрыліся пасаджаныя ім сады, 5 мая 1967 года спынілася сэрца легендарнага партызанскага важака, дбайнага гаспадара палёў, сумленнага, да рэшты адданага народу камуніста.

«Васіль Захаравіч усе свае сілы аддаў беззапаветнаму служэнню Камуністычнай партыі і савецкаму народу, карыстаўся любоўю і павагаю працоўных»,— пісалі ў некралогу кіраўнікі партыі і ўрада рэспублікі.

Як трэба любіць людзей, як быць адданым ім, каб заслужыць любоў і павагу працоўных!

Да назвы калгаса «Партызанскі край» дадалося імя Васіля Захаравіча Каржа.

Тут усё задумана і выпакутавана ім, створана супольна з нястомнымі землякамі.

Пра што б ні спытаў ці ні загаварыў, кожны абавязкова ўспомніць свайго галоўнага старшыню. Цяпер самыя высокія ўраджаі — на каржоўскіх тарфяніках, дзевяць школ — клопат Васіля Захаравіча, калгасны парк і водаправод — справа яго рук. Першыя тэлевізары набылі і ўстанавілі з яго ўдзелам. Цяпер іх у калгасе болей за 400. Зялёныя прысады ўздоўж белакаменных вуліц, сажалкі і клубы — яго клопат, яго праца.

На бязмежных хорастаўскіх палях коцяцца хвалі зялёнага жыта. Закаласіцца яно, адкрасуе, нальецца колас, даспее і пачне новы круг жыцця. А над палямі кружаць буслы і прыносяць у кожную хату яснавокіх маленькіх палешукоў — заўтрашніх гаспадароў гэтай адваяванай, расквітнелай і шчаслівай зямлі.

Дабро з пакалення ў пакаленне перадае нязгасная памяць удзячнага народа.

* * *

У зялёным сонечным Пінску ўвесну запальваюць бела-ружовыя свечкі каштаны. На Прыляці перагукваюцца рудавозы і белыя параходы. З расчыненых вокан дома № 8 па вуліцы Заслонава плывуць гукі раяля і скрыпак. На сцяне шыльда: «Пінская музычная школа», а побач — мемарыяльная дошка: «Тут 26 чэрвеня 1941 года быў арганізаваны адзін з першых у Беларусі партызанскіх атрадаў, якім камандаваў В. З. Корж».

Вуліцу Заслонава перакрыжоўвае вуліца Каржа і выходзіць на вуліцу Веры Харужай.

Непарушнае, вечнае ў несмяротнасці партызанскае братэрства і слава сыноў і дачок няскоранага народа! Яны жывуць у справах, марах, сэрцах і памяці сучаснікаў і нашчадкаў

*1973-1975 гг.*

## ЗМЕСТ

Ад гоману бароў
Споведзь камуніста
Па баявой трывозе
Tagebuch
«Маскарад»
І зноў бой
Фронт у тыле
Няма спакою ні хвіліны
Сумка радасці
Вяртанне
Генерал палёў

**Грахоўскі С.**

Суровая дабрата. Дакументальная аповесць. Мы., «Маст. літ.», 1977.- 176 с. з іл. («Слава твая, Беларусь!»)

У аповесці расказваецца пра жыццё Героя Савецкага Саюза Васіля Захаравіча Каржа — партызана часоў грамадзянскай вайны, удзельніка баёў з фашыстамі ў Іспаніі, камандзіра Пінскага партызанскага злучэння ў гады Вялікай Айчыннай вайны.